© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018




# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(100) Травень 2002 May Год выд. 10.


## Да 120-й гадавіны народных песьняроў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа





*О, край родны, край прыгожы!*
*Мілы кут маіх дзядоў!*
*Што мілей у сьвеце Божым*
*Гэтых сьветлых берагоў…*

Якуб Колас.



*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да сьвятла.*

Янка Купала.

## Да Таго, хто прыйшоў на вякі...

**Як імкліва ляціць час!**

Мы -- на парозе 120-х угодкаў з дня народзінаў двух волатаў беларускага духу, двух пабрацімаў, класікаў нацыянальнай літаратуры -- Янкі Купалы і Якуба Коласа. У нашым музеі, дзе, на шчасце, заўсёды віруе жыццё і ўяўляемай "музейнай цішыні" няма месца, зараз асабліва гарачая пара. Шматлікія экскурсіі па залах з багацейшай экспазіцыяй цікавых матэрыялаў, дакументаў аб жыцці і творчасці Паэта, розныя імпрэзы, сустрэчы, вечарыны ў зале-гасцёўні... Навуковыя кансультацыі і практычная дапамога даследчыкам, творчым калектывам, якія актыўна рыхтуюцца да Купалавага юбілею... Клопат музейнага калектыву аб тым, каб у кожным куточку беларускай зямлі гэтае свята стала святам душы для мільёнаў людзей, святам агульнанацыянальным. Каб яно яднала людзей, узнімала гонар за нашу Бацькаўшчыну і яе лепшых сыноў, уславіўшых родную Беларусь і прысвяціўшых ёй свой магутны Боскі дар, само жыццё...

Зараз ужо амаль няма сярод нас тых, хто бачыў, помніць жывога Купалу. Але жаданне як мага больш зведаць пра Яго не гасне, а расце. Пераконваюся з кожным днём, бачу на ўласныя вочы: людзі розных пакаленняў і перш за ўсё тыя, што толькі ўступаюць у свядомае жыццё, цягнуцца да Купалавага слова, імкнуцца прычыніцца да яго чалавечай мудрасці і велічы. Ім асабліва дарага, што геній паэзіі разам з імі -- ужо на абсягах трэцяга тысячагоддзя -- на шляху нашай дзяржавы да сцвярджэння сваёй незалежнасці і суверэнітэту, увасаблення мары, каб Беларусь заняла "свой пачэсны пасад між народамі". Таму і не зарастае травой забыцця сцяжына ў Купалаў Дом на тым месцы, дзе калісьці стаяў яго гасцінны дамок, дзе так любілі збірацца яго сябры-паплечнікі і творчая моладзь. Ён тады поўніўся гаманой, паэтычнымі страфамі, музыкай...

Музыка, якую, напэўна, з любасцю І задавальненнем слухаў бы гаспадар таго дома, гучала ў яго музеі днямі, калі да Купалы і яго юных гасцей прыйшлі музыканты з Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі разам з мастацкім кіраўніком -- народным артыстам Міхаілам Фінбергам. Канцэртам калектыву салістаў гэтага аркестра, якія віртуозна і натхнёна выконвалі старадаўнюю беларускую музыку са знакамітага "Полацкага сшытка", творы сучасных кампазітараў, быў пакладзены пачатак ажыццяўленню вялікага творчага праекта -- цыкла літаратурна-музычных вечарынаў, якія пасля прэм'еры ў купалаўскім Доме пройдуць у іншых канцэртных залах па ўсёй краіне, у тым ліку і ў глыбінцы. Музычная Купаліяна адлюструе вобразы паэта і яго герояў у камернай і вакальна-сімфанічнай музыцы, дапаможа адчуць спеўнасць Купалавага радка, дзе жыве мелодыя народнай душы, бацькоўскай зямлі. Нездарма ж ранні зборнік паэта мае назву "Жалейка"...

Яны непадзельныя, Купала і музыка, Купала і краса роднай зямлі. Як жа неабходна нам і нашым нашчадкам зберагчы гэтую красу, на якую ён не мог наглядзецца і якая пераліваласяу ў яго чароўныя вершы. Як трэба беражліва захоўваць тыя мясціны, дзе яму давялося жыць і тварыць.

Можна радавацца, што ў апошнія гады ўдалося стварыць на Лагойшчыне і пад Мінскам рэспубліканскі ландшафтны заказнік "Купалаўскі". Ён уключае Акопы, Харужанцы, Малыя Бясяды, Карпілаўку, Лысую гару, Гаяны, Буды. Створаны філіял (ужо чацвёрты) нашага музея ў Яхімоўшчыне з новай экспазіцыяй "Жалейка". Але многія з гэтых мясцін, дзе ў юбілейны год чакаецца вялікі наплыў наведвальнікаў, па праўдзе кажучы, патрабуюць тэрміновага добраўпарадкавання і пастаяннага рупнага догляду. Як, дарэчы, і Вязынка, і Ляўкі на Аршаншчыне, ды і сталічны парк ля помніка Песняру і яго музея. Спадзяёмся на разуменне і падтрымку ў гэтай справе з боку Мінскага і Віцебскага аблвыканкамаў, іх упраўленняў культуры, на ўдзел у добрай справе шырокай грамадскасці. Можна шмат чаго зрабіць

(далей гл. на наступнай бач.)

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

намаганнямі і цеплынёй людскіх сэрцаў і рук.

Даўно наспела пара ўшанаваць і памятныя мясціны, дзе ў свой час жыла сям'я Луцэвічаў і набіраў моцы паэтычны дар Яся: гэта мясціны Селішча і Прудзішчы ў Лагойскім раёне, Бараўцы ў Мінскім. Мяркуем устанавіць тут памятныя знакі -- валуны з мемарыяльнымі дошкамі.

Усё гэта, як і выпуск рэкламнай прадукцыі, сувеніраў, арганізацыя выстаў, вечарын, конкурсаў і г.д., падрыхтоўка да вяршыннага свята на радзіме Прарока ў Вязынцы (запрашаем на яго на пачатку ліпеня ўсіх-усіх!) патрабуе, безумоўна, немалых фінансавых сродкаў. Як ні круці, а паэзіі не абысціся без будзённай прозы. Час ідзе, а з паступленнем нават ужо выдзеленых з фонду кіраўніка дзяржавы грошай -- туга. Не спахапіцца б у апошнюю хвіліну, калі будзе позна.

І таму мушу ад імя калектыву Купалавага музея звярнуцца да кіраўнікоў арганізацый, прадпрыемстваў і банкаў, да суайчыннікаў і землякоў за мяжой, да ўсіх, каму дарагія творчасць і памяць Таго, хто прыйшоў да нас на вякі: будзьце спонсарамі купалаўскіх юбілейных урачыстасцяў, прычыніцеся да святой справы, і вы заслужыце шчырую ўдзячнасць за сваё дбанне аб Вечным.

Сродкі можна пералічваць на разліковы рахунак Міжнароднага фонду Янкі Купалы, прэзідэнт якога -- доктар філалогіі, прафесар Вячаслаў Рагойша: р/р 3015000007971 у філіяле №510 АСБ "Беларусбанк", код 603, УНН 101116132.

Чакаем вас усіх, дарагія сябры, на народным, Купалавым свяце!

**Жанна ДАПКЮНАС**, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы.

************************************************

Да 120-й гадавіны народнага песняра Якуба Коласа

# "Новая зямля" як мара новай Беларусі...

**Мы ўсе выраслі на коласаўскай "Новай зямлі". І з марай пра новую зямлю... Адны ўсвядомлена, іншыя проста імкнучыся, як дзяды і прадзеды, да лепшай долі, лепшага жыцця, бы той Міхал... Быў нават час, калі геніяльны твор (о час, не варты жалю, але ўсмешкі...) называлі "кулацкай" паэмай. І аўтар мусіў у прадмовах да чарговых выданняў карэктаваць -- абы толькі адчапіліся ідэолага-ідалнагалядчыкі -- акцэнты: затурканы беларускі селянін марыць, маўляў, толькі пра адно -- пра свой уласны кавалак зямлі, "каб з панскіх выпутацца пут". Але ці толькі?..**

**"Новую зямлю" называлі, ды і называюць яшчэ "энцыклапедыяй сялянскага жыцця". Сапраўды так, бо Колас грунтоўна, шчыра і з любасцю апісаў шматлікія звычаі, абрады, будні і святы -- стварыў духоўны космас Міхалавай сям'і. Але ці толькі?.. Ці варта першароднасць ідэі, якая палягае ў каардынатах філасофскіх, гуманістычных ды эстэтычных вартасцей, зводзіць толькі да ацэнкі, няхай сабе і высокай, этнаграфічна-побытавага апісання?.. Такое вызначэнне "Новай зямлі" (гіпэрусцешанасць ад "энцыклапедычнасці сялянскага жыцця") як бы падкрэслівала ідэйную дамінанту твора, а значыць, і яго адпаведную вартасць. Галоўную коласавую ідэю як бы не разгледзелі... За галоўную падалі этнаграфічна-побытавую тэму. І толькі. У выніку -- "Новая зямля" не была ўсьвядомлена сучаснікамі, як цяпер кажуць, адэкватна, гэта значыць настолькі значнай, каб яе прызналі вартаснай для ўсяго чалавецтва.**

**Насамрэч "Новая зямля" -- эпахальная зьява не толькі ў гісторыі нацыянальнага ліра-эпасу, але і ў гісторыі духоўнай культуры беларускага народа. І, можа, нават не толькі беларускага... Ва ўсялякім разе так думалася, калі ўпершыню трымаў у руках новае выданне Коласавай паэмы, самавіты фаліянт на трох мовах -- беларускай, рускай і польскай...**

Цуд гэты (іншае слова цяжка падабраць, бо і напраўду дзевяцісотстаронкавая кніга гожая ва ўсіх адносінах: толькі каляровых ілюстрацый за дзевяноста, а пра глянцавую, як шоўк, паперу і казаць не варта) з'явіўся на свет дзякуючы найперш стараннямі Уладзіміра Гілепа, старшыні Беларускага фонду культуры, і Міністэрства інфармацыі, якое датавала 50 працэнтаў сабекошту. Спрычыніліся і дапамаглі ў ажыццяўленні праекта таксама Польскі інстытут, Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, Літаратурны мэмарыяльны музей Якуба Коласа, творчая выдавецкая майстэрня "На ростанях" ды яшчэ, што зусім натуральна, паліграфічны камбінат імя Я.Коласа. Немалы ўклад у справу і спадара Мікалая Крэчкі, пасла нашай краіны ў Польшчы. Што ж да працы Чэслава Сэнюха, польскага перакладчыка, то яе можна ахарактарызаваць двума словамі -- бліскуча і самаахвярна. Бліскуча па форме, мастацкасці і адпаведнасці арыгіналу. Самаахвярна, бо на пераклад спатрэбілася дзесяць год і немалое цярпенне і напружанне творчых сіл. Да слова кажучы, праілюстраваць паэму арыгінальнымі малюнкамі, ды яшчэ ў такой колькасці, у надзвычай сціслы тэрмін -- таксама творчы подзвіг. І ім можа ганарыцца Васіль Шаранговіч, народны мастак Беларусі, які і стаўся мастацкім сааўтарам выдання.

Зразумела, у такой кнігі не магло не быць прадмовы і пасляслоўя. Першую напісаў вядомейшы знаўца і даследчык творчасці Я.Коласа Міхась Мушынскі, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а пасляслоўе пакінуў за сабою другі, не менш вядомы знаўца літаратуры і мастацтва -- Язэп Янушкевіч.

Некалі Якуб Колас марыў, каб ягоны твор знайшоў свайго чытача не толькі на абсягах роднай Беларусі... Прыходзіць разуменне, што Колас ня толькі геніяльны апісальнік беларуска-сялянскага побыту, ягонага імкнення да "кавалка зямлі", але празорлівец, які здолеў інтуітыўна, але ж на аснове сваёй знітаванасці з роднай глебай прадбачыць, як тыя ці іншыя падзеі адаб'юцца на лёсе людзей, роднага краю. "Талент прадбачання, -- справядліва заўважае спадар Мушынскі,-- талент сацыяльнага прагназавання -- рэдкі талент". Сапраўды, неба ўзнагароджвае ім нямногіх. Такім абраннікам, бясспрэчна, зьяўляецца аўтар бессмяротнай "Новай зямлі". Напісаная амаль 75 гадоў таму, паэма сёння гучыць надзвычай актуальна з тае прычыны, што паэт здолеў так глыбока спасцігнуць сутнасць быцця, узняць такія глабальныя праблемы, якія і сёння застаюцца надзённымі. Гэтыя праблемы -- чалавек і зямля, зямля і Бацькаўшчына, зямля і свабода -- не спісаны ў архіў з-за іх неактуальнасці...

Сёння, можа, як ніколі раней, важна зразумець, што Колас невыпадкова абраў шлях паэмнага, `а не раманнага, дакладней, традыцыйнага для свайго часу сацыяльна-побытавага аповеду сялянскага жыцця. Закон жанру таму і запатрабаваў не ідэалізацыі герояў, а паэтызацыі іх спраў, думак, памкненняў. Паэтызацыя абумоўлена маштабнасцю аўтарскай задумы -- праз абмалёўку "лесніковай пасады" стварыць вобразную мадэль, як гаворыць прафесар Мушынскі, "нармальнага, г.зн. духоўна прасветленага, маральна трывалага жыцця", пры якім захоўваецца і памнажаецца ўсё найбольш каштоўнае, што выпрацавана, назапашана папярэднімі пакаленнямі...

Уласная зямля і ўласная хата пад пяром Коласа-мастака вырастаюць у сапраўдны сімвал Бацькаўшчыны. А шлях героя насамрэч ёсць вобразнае ўвасабленне трагічнага лёсу беларускага народа ў імкненні да свабоды і незалежнасці. Не толькі сялян, але менавіта ўсяго народа. Бо, заўважце, традыцыйная характарыстыка Міхала як беззямельнага селяніна не адпавядае сапраўднасці... Калі ж навісла пагроза быць выкінутым са службы, дык жа тая зямелька ўспрымалася ледзь не адзіным паратункам. Ганна нават прапанавала там хату пабудаваць: каб хоць дзеці не засталіся пад голым небам. Аднак Міхал рашуча адкідае ідэю, ён раззлаваны, абураны. Але чаму? Вось тут і раскрываецца галоўны момант аўтарскай канцэпцыі, на якую доўга ў нас заплюшчвалі вочы... Рэч у тым, што ў вёску Міхал не можа вярнуцца з прынцыповых меркаванняў, бо гэта быў бы крах яго надзей і мараў. Марыў жа ён пра тое, каб пабудаваць свой дом на новай зямлі, выпакутаванай, здабытай сваімі мазалямі, зямлі, дзе ён будзе, нарэшце, вольны, незалежны. Вярнуцца ж зноў у вёску -- значыць вярнуцца туды, адкуль ён ужо выпраўляўся ў пошуках лепшай долі. Там панавалі ўраўняльнасць, патрыярхальна-кансерватыўныя ўяўленні. Вярнуцца ў вёску -- значыць стаць часткай цэлага, аджыўшага, збанкрутаванага. Міхал на такое не згодзен, бо ён і ёсць самадастатковае цэлае!

*...Перш-наперш жыў бы там асобна,*
*А не ў галдзе, страшэнным сціску,*
*І лбоў не біў б там за міску,*
*Як гэта водзіцца ў народзе;*
*Там зможаш жыць з суседзьмі ў згодзе.*

Не, не хацелі нашыя літаратуразнаўцы, да самага апошняга моманту, бачыць у Міхалу свабоднага чалавека, грамадзяніна, а не толькі селяніна, што мкнецца з-пад панскае "ласкі". У ім бачылі тое, што патрабавала бачыць партыя -- селяніна, які прагне стаць эксплуататарам. У ім, бачыце, страчана класавая салідарнасць, інстынкт прыгнечанага земляроба. Але якая розніца -- час жа паказаў і пераканаў -- пад панскім ярмом быць ці пад бальшавіцка-калгасным?..

І яшчэ цікавы і паказальны момант... У 1934 г. пры перакладзе "Новай зямлі" на рускую мову з паэмы былі выкінуты трынаццаць раздзелаў, нібыта горшых за астатнія. Між тым якраз гэтыя раздзелы напаўнялі **вобраз уласнага Дома -- як матэрыяльна-духоўнага ўвасаблення Бацькаўшчыны** -- канкрэтным, жывым зместам. Няма гэтых раздзелаў -- няма і паэмы, у якой арганічна знітаваны побытавы і філасофскі планы асэнсавання самой ідэі аўтара. З-за гэтага на "Новую зямлю" глядзелі, ды і глядзяць яшчэ, прывычаныя так званай крытыкай сацрэалізму, аднабокава і павярхоўна. "А вось сімвалічны, іншасказальны план, асацыятыўнасць, падтэкставая глыбіня і тое, -- як кажа Мушынскі, -- што сапраўдны мастацкі твор -- заўжды метафара, якая патрабуе тонкага падыходу ў працэсе яе расшыфроўкі, удумлівага спасціжэння закладзенага ў ёй сэнсу, часта не заўважаецца. І ў выніку паэма пачынае нагадваць нейкі сацыялагічны трактат."

Але ж гэта зусім не так. Мусілі тое прызнаць не толькі асобныя нашы крытыкі, але і замежныя. Менавіта шэдэўрам сусветнай літаратуры лічыць Коласаў твор англійская паэтка, публіцыст, гісторык і літаратуразнаўца Вера Рыч. "Калі б спатрэбілася, -- сцвярджае яна, -- пакідаючы Зямлю, узяць з сабою некалькі кніг, то ў гэтай бібліятэчцы была б і "Новая зямля" Якуба Коласа". Вера Рыч ставіць "Новую зямлю" поруч з творамі Вергілія і Шэкспіра. Паводле яе ацэнкі, Якуб Колас -- геніяльны мысляр. Ён з высокім паэтычным майстэрствам вырашыў значныя філасофскія праблемы.

І напраўду, патрэбен талент, каб напісаць высакаякасны твор, у якім "рухальнай" сілай будуць жарсці, адвечныя супярэчнасці дабра і зла. Ды толькі сапраўдны геній можа стварыць драму на пачуццях аднаго чалавека, асобы, якой хоць і ўласцівы чалавечыя заганы, але яны несувымерныя з цнотамі. Натуральна, як дыханне, складваўся коласаўскі верш, выштукаваны да геніяльнай прастасці. Але ж за ёю, прастасцю, якія страсці, якія думы!.. Яны сягаюць да нас, сённяшніх, і далей будуць сягаць -- аж пакуль філасофскія праблемы мы не перавядзём у плоскасць іх практычнага вырашэння... Што тут маецца на ўвазе? Дзядзька Міхал, як вядома, жыў адною думкай. "І гэта думка -- зямля просіць!" Адвечная мара чалавецтва? Не толькі! Зразумела, зямля патрэбна Коласаваму герою, каб мець "наймацнейшую аснову і жыцця першую умову". Бо толькі зямля "не зменіць і не здрадзіць". Але думка-мара Міхалава гэтым не абмяжоўваецца. І вось тут палягае геніяльнасць народнага паэта -- яна ў дыялектычнасці характару ягонага героя. Інтуітыўная, можа, нават не зусім уцямная мара паэта, быццам падпарадкуючыся закону інкарнацыі, перасяляецца ў душу Міхала. Просты выканаўца наканаванай Богам місіі цягам часу, праз "старанне вялікае" і сутыкненні са смерцю, Міхал прыходзіць да разумення творчага прызначэння зямлі. Яна патрэбна Міхалу дзеля пертварэння свету "**на новы лад, каб жыць нанова**". І перад аблічам усемагутнай смерці ён не выракаецца свайго высокага прызначэння і даручае брату, свайму другому "я", прадоўжыць "місійную справу" тварэння -- будаваць зямлю, "новую зямлю", на якой, паводле Біблії, жыве праўда:

*Зямля... зямля... туды, туды, брат,*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд...*

**Георгій ЧЫГІР** (Нар. Газ.)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Выстава кнігаў XVI--XX стагодзьдзяў

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі экспанавалася выстава "Віленскія кнігавыданні XVI--XX стагодзьдзяў".

У экспазіцыі было прадстаўлена каля 300 кніг, што выпускаліся ў сталіцы Вялікага княства Літоўскага, а таксама Літоўскай Рэспубліцы -- Вільні з 1575 года. Менавіта ў гэтым годзе ў віленскай друкарні Мамонічаў, заснаванай паслядоўнікам Францішка Скарыны Пятром Мсціслаўцам на сродкі купцоў Мамонічаў, было выдадзена "Евангелле напрастольнае", якое стала ўзорам для перайманя. Знаўцы старадрукаў змаглі палюбавацца выданнямі розных друкарняў -- брацкай, базіліянскай, Віленскай езуіцкай акадэміі, Яна Карпана, Даніэля Ланчыцкага, каталіцкага манашаскага ордэна піараў і Марціна Кухты.

Выстава працавала да 5 мая. Аднак яе арганізатары плануюць прадоўжыць мерапрыемствы, улічваючы вялікую цікавасць мінчан і гасцей сталіцы.

================================================

**Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую *Ахвяру* на Выдавецкі Фонд нашае газэты!**

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Думкі-стрэмкі

Ніл **ГІЛЕВІЧ** (Н. Воля)

Дзяржаўны друк робіць выгляд, што ў духоўным і культурным жыцці беларускай нацыі нічога страшнага не адбываецца. Усё ідзе як трэба. Усё нармальна: людзі ходзяць у тэатры, на канцэрты, на выставы, у бібліятэкі... Так, ходзяць, -- глядзяць і слухаюць, чытаюць падручнікі, вывучаюць неабходныя дысцыпліны. Нібыта і сапраўды ўсё нармальна. Але іменна -- нібыта. А на самай справе -- адбываюцца рэчы страшныя. Маральнасць грамадства, яго агульны культурны ўзровень падае ўсё ніжэй і ніжэй. Усё больш запаноўвае бездухоўнасць, псіхалогія прымітыўна-вульгарнага прагматызму. І адна з галоўных прычын гэтага... а вось пра яе і пагаворым.

Над беларускай літаратурай -- ідэйна-эстэтычным коранем беларушчыны, галоўным генератарам нашай нацыянальнай самасвядомасці, найпершым, найважнейшым складнікам беларускай нацыянальнай культуры, -- навісла рэальная пагроза ўдушэння. Як павінна быць усім зразумела, паспяхова выконваць сваю архіважную для жыцця нацыі місію літаратура можа толькі пры ўмове, калі яна забяспечана неабходнай матэрыяльна-фінансавай базай.

Літаратура без друку -- без кніг і перыядычных літаратурна-мастацкіх выданняў нармальна існаваць і развівацца ня можа. Гэта -- аксіёма. Без гэтага яна будзе, з аднаго боку, набываць фальклорныя формы жыцьця (творчасць гэтак званых бардаў), з другога – будзе распаўсюджвацца ў лічаных машынапісных паасобніках, рабіцца, так бы мовіць, падпольнай, "дысідэнцкай" або сямейна-альбомнай. І гэта -- у еўрапейскай дзяржаве на пачатку XXI стагоддзя Хрыстовай веры!

Могуць запярэчыць: дык а што вы хочаце ва ўмовах рынку? Знаходзьце фундатараў І выдавайце, друкуйце -- і кнігі, і часопісы, і газеты. Ва ўсім свеце друк -- рэч, за нязначным выняткам, прыватная, аўтары знаходзяць выдаўцоў самі. Гэта -- праўда. Але -- не ўся. Больш таго: тут няма галоўнай праўды. Ва ўсім свеце, ва ўсіх незалежных дзяржавах няма праблем з нацыянальнай самасвядомасцю і з роднай мовай карэннага, "тытульнага" насельніцтва. Там усе грамадзяне краіны ёсць патрыётамі сваёй нацыянальнай мовы, культуры, духоўнасці. Самыя багатыя з іх, мільянеры і мільярдэры, разумеючы, што ўсё гэта значыць для лёсу нацыі, для яе аўтарытэту ў свеце, падтрымліваюць родную літаратуру фінансава. Падтрымліваюць яе і ўсе грамадзяне -- тым, што чытаюць газеты, часопісы і кнігі перш за ўсё на сваёй роднай мове (у адрозненне ад пагалоўнай бальшыні беларусаў). Гэтым забяспечваюць неабходны для самаакупнасці наклад выданняў, не кажучы пра магутную маральную падтрымку аўтараў.

У нас, у Беларусі, сітуацыя ў гэтых адносінах не проста іншая, а зусім іншая. У нас на беларускай мове не працуе ніводная дзяржаўная ўстанова. Удумайцеся, людзі: на дзяржаўнай мове краіны, прытым на мове карэннага насельніцтва, якое дало назву краіне, не працуе ніводная дзяржаўная ўстанова! А грамадзяне ў сваёй пагалоўнай бальшыні не чытаюць беларускамоўных кнігі, часопісы, газеты, не карыстаюцца беларускай мовай ні вусна, ні пісьмова, дзяцей у беларускія школы не аддаюць і г.д. Як так магло стацца і чаму сталася?

А гэта -- у выніку ажыццяўлення імпершавіністкай нацыянальнай палітыкі, у выніку шматвекавога лінгвацыду, подлай палітыкі звядзення сацыяльных функцый беларускай мовы ў жыцці грамадства да смехатворна дробных уступачак. Пра рынак кажаце? Але ж у нас, у нашай краіне, няма такіх капіталістаў, банкіраў, камерсантаў, якія б ахвотна ахвяравалі грошы на беларускія выданні. Можа б, каторыя з іх і рабілі гэта, дык жа баяцца! За фінансавую падтрымку беларускіх пісьменнікаў (у вачах улады -- "нацдэмаў" і "русафобаў") яны будуць жорстка пакараны эканамічна.

Звычайна ў цяжкіх сітуацыях нацыянальную літаратуру падтрымлівае дзяржава. Іначай сказаць -- улада. Абавязана падтрымліваць -- калі яна ўлада нацыянальная, а не антынацыянальная, калі яна -- родная маці, а не мачыха. Насуперак гэтай зразумелай і справядлівай логіцы, беларуская дзяржава робіць усё, каб сваю нацыянальную літаратуру дабіць, дадушыць, даканаць. І з гэтай задачай спраўляецца паспяхова.

Выданне беларускіх кніг у дзяржаўных выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва" зведзена на нішто. Няма грошай. Старэйшы (80 гадоў сёлета) беларускі літаратурна-мастацкі часопіс "Полымя" пачынае выходзіць падвоенымі нумарамі -- 3--4, 5--6, 7--8 -- часопіс, роля якога ў станаўленні і развіцці беларускай літаратуры -- агромністая, яе немагчыма пераацаніць. У гэткім жа становішчы і часопісы "Маладосць", "Крыніца", "Нёман", "Беларусь", "Вожык". Падыхаюць-канаюць і яны, бо... няма грошай на выданне: на паперу і паліграфічныя выдаткі, на арэнду памяшканняў, на зарплату супрацоўнікам, на заробак пісьменнікам...

Дзяржава так збяднела, што падтрымаць беларускую літаратуру ня можа.

Больш таго. Пабудаваны за сродкі Літфонду Дом Літаратара першы "ўсенародна абраны" ў пісьменнікаў адабраў адразу ж, як толькі прыйшоў да ўлады. Пазбавіў пісьменнікаў іх роднай, імі збудаванай хаты! (Нідзе ў краінах СНД гэткага рабаўніцтва ўлада не ўчыніла.) Куплены за грошы пісьменнікаў будынак паліклінікі Літфонду -- таксама адабраў. СП мог бы гэтую сваю законную ўласнасць здаваць у арэнду і мець сякія-такія грошы -- на выданне кніг, на падтрымку літаратурных часопісаў і газеты "ЛіМ", на прапаганду беларускага мастацкага слова.

Але ж уладзе патрэбны грошы на іншае. А літаратура -- абыдзецца! Каму яна патрэбна? Мы яе не чытаем. Здохне -- дык туды ёй і дарога! Не будзе замінаць нам у ажыццяўленні вялікай стратэгічнай мэты. Паўторым -- стратэгічнай. У гэтым -- прычына ўсіх прычын, і не шукайце іншых. Рэспублікай Беларусь кіруе антыбеларуская, антынацыянальная ўлада. Калі б было іначай -- беларуская літаратура ў такім становішчы не апынулася б. І ня трэба крывадушна выкручвацца: маўляў, усім галінам народнай гаспадаркі цяжка. Нацыянальная літаратура -- найпершае лякарства для хворай душы нацыі. Для цяжка хворай. Загіне, сканае -- калі яе не забяспечыць гэтым лякарствам.

Па праве памяці нагадаю забытае. Пасля вайны ўся Беларусь ляжала ў руінах, мільёны людзей жылі ў зямлянках ці ў абсталяваных пад жытло хляўчуках, не мелі ў што апрануцца, пакутвалі ад холаду і голаду. І менавіта тады, у 1945--1946 гадах, ва ўсе вясковыя хаты-чытальні Беларусі паступалі за кошт дзяржавы часопісы "Полымя" (наклад быў 8 тысяч), "Беларусь", "Вожык", "Бярозка", газеты "Літаратура і мастацтва", "Звязда", "Чырвоная змена" -- усе на беларускай мове.' У чытачоў грошай на падпіску не было, таму дзяржава ўзяла на сябе забеспячэнне іх родным мастацкім словам. Тым самым узяла на сябе клопат пра развіццё нацыянальнай літаратуры. Гэта было тады -- у зруйнаванай, галоднай і халоднай Беларусі. Калі так быў патрэбен кожны рубель -- на загойванне ран вайны, на аднаўленне разбуранай народнай гаспадаркі! На кнігі і перыядычныя літаратурна-мастацкія выданні дзяржава грошы знаходзіла.

А сёння, праз 57 гадоў пасля спусташальнай вайны, не знаходзіць. Няма! Якая хлусня! І якая ганьба!

P.S. Пасля таго як гэтая "думка-стрэмка" была напісана і падрыхтавана мною да апублікавання, стала вядома, што дзяржава нанесла яшчэ адзін жорсткі ўдар па пісьменніцкіх выданнях, якія ёй не падабаюцца, патрыятычна-беларускім, нацыянальна-адраджэнскім зместам, дэмакратычным і чалавечным духам, настроем, ідэёвай накіраванасцю. Яны павінны стаць рупарамі афіцыйнай палітыкі і ідэалогіі, дзеля чаго дзяржава аб'ядноўвае іх у холдынг з чыноўнікам (не-пісьменнікам) на чале. Пры гэтым, вядома ж, мяняюцца ўсе рэдактары часопісаў. Нашто гэта робіцца -- ясней яснага. Панам-начальнікам не патрэбна літаратура, якая пульсуе грамадскімі пачуццямі, і думкамі, жыве балючымі клопатамі народа, думае пра гістарычны лёс Беларусі. Іх задаволіць літаратура сэрвільная, па сутнасці -- нежывая, на ўзроўні і пачуцця і думкі -- закасцянелая. З такой у антыдэмакратычнага і антынацыянальнага рэжыму ня будзе ніякіх турбот. Яна будзе зведзена да ўзроўню і назначэння крыжаванак, -- прыемны занятак для адпачынку.

Ну што ж! Аднойчы гісторыя ацэніць і гэты клопат дзяржавы пра беларускую літаратуру і культуру, пра духоўнасць і маральнасць беларускай нацыі.

****************************************

# 26 красавіка - 16 ўгодкі чарнобыльскай катастрофы

### ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ У МЕНСКУ САБРАЎ КАЛЯ 4 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК І ПРАЙШОЎ СПАКОЙНА

Маніфэстацыя ўпершыню за доўгі час была дазволеная менскімі ўладамі. Адрозна ад папярэдняй акцыі апазыцыі 19 красавіка яна прайшла мірна, без сутычак зь міліцыяй і затрыманьняў...




26 красавіка 1986 г. а 1 г.23 хв. 58 с. серыя выбухаў разбурыла рэактар і будынак 4-га энэргаблоку Чарнобыльскай АЭС. Чарнобыльская катастрофа стала самай буйной тэхналагічнай катастрофай XX стагоддзя. У выніку Чарнобыля краіна згубіла 485 вёсак і мястэчак (для параўнання: у гады Другой сусветнай вайны было знішчана 619 вёсак). У вайну загінуў кожны чацвёрты беларус, сёння ж кожны пяты жыве на забруджанай тэрыторыі. Гэта 2,1 млн. чалавек, зь іх - 700 тысячаў дзяцей. Сярод фактараў дэмаграфічнага ўгасання радыяцыя займае галоўнае месца. У Гомельскай і Магілёўскай абласцях (найбольш пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы) смяротнасць перавысіла нараджальнасць на 20%.

У выніку катастрофы ў атмасферу выкінута 50х106 Кu радыёнуклідаў, з іх 70% выпала на Беларусь: 23% яе тэрыторыі забруджана радыёнуклідамі са шчыльнасцю больш як 1Кикм2 па цэзію-137. Для параўнаньня: на Ўкраіне забруджана 4,8% тэрыторыі, у Расеі - 0,5%. Плошча сельскагаспадарчых угодкаў са шчыльнасцю забруджаньня ад 1 і больш Кикм2 складае звыш за 1,8 млн. гектараў, стронцыем-90 са шчыльнасцю 0,3 і больш Кикм2 - каля 0,5 млн. гектараў. З сельскагаспадарчага абароту выведзена 264 тысячаў гектараў зямлі. Беларусь - краіна лясоў. Аднак 26% лясоў і большая частка лугоў у поймах рэк Прыпяць, Дняпро, Сож адносяцца да зоны радыёактыўнага забруджання...

\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#\#

# Кожны трэці жыхар Зямлі – хрысціянін

У студзені 2001 г. у свеце жыло больш за 2 мільярды хрысціянаў, на той час колькасць усіх жыхароў нашай планеты складала крыху больш за 6,1 млрд. У той жа час на свеце жыло больш за 1,2 млрд. мусульманаў, амаль 824 млн. індусаў, каля 364 млн. будыстаў і 150,5 млн. атэістаў. 774,3 млн. людзей не прызнаваліся ў прыналежнасці да якой-небудзь рэлігіі, але і не заяўлялі, што яны няверуючыя. Новыя рэлігіі вызнавала больш за 103,3 млн. асобаў, а рэлігіі плямёнаў і родаў – 231,3 млн. Значна менш вернікаў мелі такія народныя рэлігіі як сіхізм (каля 23,7 млн.) і юдаізм (больш за 14,5 млн.).

З хрысціянскіх рэлігіяў самая колькасная – каталіцызм – больш за 1,07 млрд. вернікаў, розныя адгалінаванні пратэстантызма маюць 346,7 млн. вернікаў, праваслаўе – 210,2 млн., англікане – амаль 81 млн. Статыстыка МБДМ змяшчае таксама прадбачанні на 2025 год. Паводле іх на свеце будзе жыць больш за 7,8 млрд. людзей, у тым ліку крыху больш за 2,6 млрд. хрысціянаў, амаль 1,8 млрд. мусульманаў і больш за мільярд індусаў. У апошнія дзесяцігоддзі наступіў вельмі хуткі прырост колькасці вызнаўцаў ісламу і індуізму (у сярэдзіне XX ст. іслам вызнавала няпоўныя паўмільярда асобаў, а індуізм яшчэ менш). У 1990 г., калі на свеце жыло каля 5,3 млрд. людзей, хрысціянаў было больш за 1,7 млрд. (у тым ліку 929,5 млн. католікаў), мусульманаў – 962,4 млн., індусаў – 686 млн., будыстаў – 323,1 млн. Ацэньваючы вышэй пададзеныя лічбы, трэба памятаць, што яны паказваюць агульную колькасць вызнаўцаў дадзенай рэлігіі без унікання ў ступень іх атаясамлівання з дэклараванай верай. Гэта асабліва істотна ў выпадку ісламу, дзе вельмі цяжка ўстанавіць адсотак сапраўды веруючых і практыкуючых з-за недахопу выразных паказчыкаў рэлігійнасці, як, напрыклад, абавязак наведвання святыні ў святочныя...

==========================================

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Паслухайце прафесара

# Беларусь павінна ўвайсьці ў НАТА!

За 1000 год хрысціянскай гісторыі нашыя продкі паспелі пабываць проста хрысціянамі, праваслаўнымі хрысціянамі і каталікамі, уніятамі, атэістамі. Сапраўднай нашай культурнай традыцыяй зьяўляецца рэлігійная талерантнасць (цярпімасць). Пра што сведчыць і наяўнасць у Беларусі акрамя кананічных канфесій, пратэстантаў розных накірункаў, мусульман, іудзеяў, крышнаітаў і г.д. Нават "праваслаўныя атэісты" -- гэта праява з іншага боку той жа талерантнасці.

Наша культурная традыцыя нічым не адрозніваецца ад традыцыі Еўропы. Але істотна адрозніваецца ад культурнай традыцыі Расіі з яе адчуваннем месіянства і выбранасці. Зьмяніць Маскву не пад сілу маленькай Беларусі. Але ж "единение" можа азначаць толькі знікненне беларускага народа. Растварэнне ў вялікарускай правінцыйнай масе.

Але ў нас ёсць выбар. Таму мусім прыглядзецца да вопыту нашых суседзяў. Бо і палякі і літоўцы выбралі НАТА і Еўрасаюз.

Шмат гадоў камуністычная прапаганда палохала савецкіх людзей пудзілам НАТА -- вайскова-палітычным саюзам заходнееўрапейскіх краін. Саюзам, створаным, каб абараніцца ад камуністычнай агрэсіі. Ён забяспечыў раўнавагу збройнай сіле камуністычнага лагера і не дапусціў чарговай сусветнай вайны. СССР разваліўся, разваліўся Варшаўскі пакт. Збройная раўнавага відавочна парушана. Але агрэсіўнае НАТА чамусьці не напала ні на Расію, ні на якую іншую посткамуністычную краіну.

Тым не менш лукашэнкаўская прапаганда працягвае бязмозгла далдоніць пра небяспеку з Захаду, пагрозу праваслаўна-славянскаму свету і агрэсіўнасць НАТА, якая наблізілася да нашай мяжы. І некаторыя людзі працягваюць верыць у гэтую бязглуздзіцу. Хаця дальнабачныя расійскія палітыкі ўжо гавораць пра неабходнасць усталяваць шчыльныя адносіны з НАТА.

Што такое НАТА?

Найперш, гэта саюз роўных. Рашэнні там прымаюцца толькі адзінагалосна, не ўлічваючы памеры краіны. Гэта саюз багатых, бо ўзбраенне ў краінах Альянсу павінна быць уніфікаваным і на самым высокім навуковым і тэхналагічным узроўні. Кіруецца НАТА вялізным і няўклюдным бюракратычным апаратам. Ужо таму такі альянс не можа быць агрэсіўным. Але ён небяспечны для любога агрэсара, бо канцэнтруе эканамічную і збройную сілу самых перадавых краін.

Таму ў НАТА адразу памкнуліся ўсе краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія ведалі цяжкую руку расійскага імперыялізму. Бо ён выжыў і захаваўся. І сёння можна пачуць ці прачытаць пра існаванне "стратэгічных інтарэсаў" Расіі далёка за яе межамі. У Расійскай Федэрацыі, бачыце, няма стратэгічных інтарэсаў у Пскоўскай вобласці ці ў Прыморскім краі. Але ёсць у былых яе калоніях. Прыгадаю, што ўрад Вялікабрытаніі афіцыйна заявіў пра адсутнасць стратэгічных інтарэсаў у Паўночнай Ірландыі, якая з'яўляецца часткаю Вялікабрытаніі, калі там пачаліся жорсткія сутычкі паміж пратэстантамі і каталікамі. Ці можна ўявіць, каб Масква заявіла пра адсутнасць у яе стратэгічных інтарэсаў у Чэчні і пакінула гэты вольналюбівы народ у спакоі?

Маскву можна толькі пашкадаваць. Яе эліту гняце цяжар гістарычнай спадчыны. Ёй не толькі не хапае мужнасці і самакрытычнасці, каб правільна ацаніць новае месца Расіі ў свеце і яе новую ролю. Часам вельмі зручна эксплуатаваць настальгічныя ўспаміны пра былую веліч і выключнасць замест таго, каб рэальна і дакладна вызначыць сапраўднае кола сваіх нацыянальных інтарэсаў. А для пэўнай часткі камуністычнай наменклатуры звычная жвачка пра "крыўды" Расіі, якія быццам бы наносіць ёй увесь навакольны свет -- і латышы, і казахі, і ўкраінцы і БНФ -- гэта і адзіна магчымая для яе форма існавання. Бо ні на што іншае яна не здольная.

Толькі меншасць у кіруючых колах Расіі ўсведамляе неабходнасць развітання з прывідамі і міфамі імперскага мінулага. З гэтага асяродка і раздаюцца часам заклікі да супрацоўніцтва з НАТА. Нават да ўступу ў гэты ваенна-палітычны саюз. І гэта разумна і дальнабачна.

І гэта яшчэ больш разумна і дальнабачна для Беларусі, для якой Паўночна-Атлантычны саюз ніякая не пагроза, а гарантыя яе нацыянальна-культурнай саматоеснасці. Гарантыя незалежнасці і мірнай стваральнай працы. Зразумела, што зараз, калі ў нас існуе апошні еўрапейскі дыктатарскі рэжым, ніхто не чакае нас у НАТА. Толькі ўсталяванне ў нас дэмакратыі і прававой дзяржавы створыць магчымасць распачаць перамовы аб далучэнні да еўрапейскіх структур. І найперш да НАТА.

Юрый ХАДЫКА, прафэсар.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Ураджэнец Смаргоншчыны вядзе Летуву ў НАТА

ВІЛЬНЯ. У Літоўскім Сейме працуе ўраджэнец нашых мясцін – Вацлаў Станкевіч.

Нарадзіўся ён у 1954 годзе ў вёсцы Арляняты Смаргонскага раёна. Праз чатыры гады сям'я пераехала ў Літву. Вывучыўся хлопец на марака. Доўгі час плаваў, даслужыўся да капітана вялікага карабля. Праз нейкі час пайшоў у палітыку – выбіраўся ў Клайпедскі гарадскі Савет, потым у Сейм. Гаворыць, у Сейме жадаў заняцца сацыяльна-эканамічнымі праблемамі, каб найлепей дапамагчы сваім выбарцам – клайпедскім маракам. Але трапіў у камісію па справах НАТА (туды трэба быў дэпутат з добрым валоданнем англійскай мовы). Дарэчы, моў ён ведае шмат – пальцаў на адной руцэ дакладна не хопіць, каб пералічыць. Натуральна, сярод іх і беларуская.

Вацлаў Станкевіч не цураецца сваіх беларускіх каранёў: «У Клайпедзе ўсе ведаюць, што я – беларус». На Радзіме хоць не часта, але бывае. Ёсць і сваякі ў Смаргоні, Маладзечне. А сваё жыццёвае крэда дэпутат акрэсліў так:

– Не шукаю сабе спакою. Чым цяжэй для мяне, тым лепей. Хачу перад Богам зрабіць усё магчымае.

**Дэпутат Літоўскага Сейма Вацлаў Станкевіч, ураджэнец Арлянятаў на Смаргоншчыне, працуе ў камісіі па справах НАТА.**

****************************************

## Наш абавязак – бараніць свабоду слова

**З заявай у падтрымку журналістаў "ПАГОНІ" выступіў статс-сакратар Дарыюш Шымчыха з Канцылярыі Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай. Беларускай Рэдакцыі Радыё Палонія ўдалося ўзяць у яго інтэрвію:**

**Дарыюш Шымчыха:** Ад імя Канцылярыі Прэзыдэнта Польшчы я выказваю глыбокую занепакоенасьць рэпрэсіямі беларускіх уладаў у дачыненні да журналістаў зачыненай газэты ПАГОНЯ й выдаўцоў гэтай газэты. Рашэньні гарадзенскай пракуратуры й падрыхтоўка да судовага працэсу не зьяўляюцца добрымі. Абвінавачаньні, накіраваныя ў бок рэдактараў, маюць палітычны характар.Судовы працэс журналістаў быў-бы яркім доказам парушэньня стандартаў свабоды, дэмакратыі й законнасьці.Мы ў Польшчы асаблівую ўвагу зьвяртаем на справы, зьвязаныя з грамадзкімі свабодамі, са свабодай слова. Менавіта за свабоду слова цягам гадоў змагаліся палякі. Наш абавязак - зьвяртаць увагу на ўсе сытуацыі, у якіх парушаецца свабода слова. Свабодны голас грамадзкай думкі, выказаны на старонках апазыцыйнай газэты, не павінен быць асуджаны ў ніякай краіне. Я вырашыў выказацца ў гэтай справе, таму што Горадня зьяўляецца горадам, блізкім польскім сэрцам. Гэты горад знаходзіцца непадалёк ад польскай мяжы. Палякі не павінны абыякава ставіцца да дрэнных палітычных практыкаў, якія абмяжоўваюць правы нашых усходніх суседзяў.

**Ці, на Вашую думку, Польшча павінна рэагаваць у такіх выпадках, калі парушаюцца правы чалавека ў Беларусі? Здаецца, што Польшча ня мае выпрацаванай палітыкі ў гэтым пляне?**

**Дарыюш Шымчыха:** Польшча вядзе такую палітыку, таму што мы рэагуем на парушэньні правоў чалавека ня толькі ў Беларусі, але таксама ў іншых краінах. Зразумела, калі выказваем сваю пазыцыю ў такіх справах, мы вымушаны прытрымлівацца пэўных працэдураў і не чакаць, што рэакцыі афіцыйных уладаў, накіраваныя ў бок іншых афіцыйных уладаў, вырашаць сытуацыю. Я разумею, што, на жаль, мой ліст ня будзе мець ніякага рэальнага ўплыву на рашэньні беларускага суду ці беларускіх "вэртыкальшчыкаў". Але справа заключаецца ня ў гэтым. Тут гаворка йдзе пра тое, каб, дзякуючы такім акцыям, узбуджаць грамадзкую думку й мабілізаваць палякаў; каб палякі, якія могуць ужо свабодна выказваць свае думкі, адчувалі сябе салідарнымі з тымі, хто - хаця-б як у выпадку беларускіх журналістаў - ня мае такой магчымасьці. Трэба гаварыць пра такія выпадкі нават тады, калі нашыя дзеяньні не дадуць канкрэтных вынікаў.

**А ці існуе магчымасьць,каб Польшча выказала сваю пазыцыю ў гэтай справе афіцыйным шляхам? Ці прэзыдэнт Квасьнеўскі можа афіцыйна супраціўціца парушэньням правоў чалавека ў Беларусі й накіраваць такі пратэст прэзыдэнту Лукашэнку?**

Не. У гэтай справе няма такой магчымасьці. Я напісаў толькі заяву ад імя Канцылярыі Прэзыдэнта.

**Ці прэзыдэнт Квасьнеўскі намерваецца аднавіць кантакты з прэзыдэнтам Беларусі? Пасьля апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі на форуме некалькіх міжнародных арганізацыяў узьнімалася пытаньне наладжаньня адносінаў зь Беларусяй. Апошнім часам нават кіраўнік польскай дыпляматыі Ўладзімеж Цімашэвіч сустрэўся зь кіраўніком беларускай дыпляматыі Міхаілам Хвастовым. Ці польскі прэзыдэнт пойдзе падобным шляхам?**

Я нічога ня ведаю пра гэта. Гэта былі-б крокі, прадпрынятыя зарана. Польшча вядзе актыўную, адкрытую палітыку са сваімі суседзямі ў галіне культуры, грамадзкіх кантактаў, а асабліва гандлёвых суадносінаў. Але ў выпадку Беларусі паміж Польшчай і гэтай краінай палітычныя пазыцыі надта розьняцца, каб утрымліваць шчыльныя кантакты." - сказаў міністар Дарыюш Шымчыха з Канцылярыі Прэзыдэнта Польшчы.

*********************************************

# Голас душы

**Праз "Курапаты" -- да пакаяння**

Не ведаю, як каго, а мяне асабіста хвалюе пытанне пакаяння за вольны ці вымушаны ўдзел людзей у злачынствах сталінскага рэжыму. Мне здаецца, што яно з'яўляецца актуальным для беларускага грамадства, якое даволі марудна рухаецца па шляху пакаяння.

Прычын тут шмат, але я хачу звярнуць увагу толькі на адну асаблівасць. Шмат хто з адукаваных інтэлігентных людзей, нават вядомых дзеячаў нацыянальнай культуры, лічаць, што праблема пакаяння тычыцца не іх асабіста, а кагосьці іншага. Гэтыя паважаныя людзі кажуць: "Асабіста мне няма ў чым каяцца". На мой погляд, кожнаму з нас ёсць у чым павініцца перад сабой, людзьмі і Богам за тое, што мы не зрабілі дзеля праўды, свабоды і прыстойнага жыцця. Менавіта гэтыя паняцці і ляжаць у аснове людскога пакаяння, да якога так натужліва прабіваецца беларускае грамадства. Прычым найбольш яскравай праявай гэтага імкнення якраз і з'яўляецца справа абароны і мемарыялізацыі Курапат.

Чаму? Таму, што змаганне за Курапаты -- гэта першнаперш змаганне за праўду. Адкрытая ў 1988 годзе Зянонам Пазняком і Яўгенам Шмыгалёвым гісторыя ўрочышча падштурхнула грамадства іншымі вачыма паглядзець на сфальсіфікаванне мінулае Беларусі, пераасэнсаваць яго і звярнуцца да тых даследаванняў па гісторыі Бацькаўшчыны, якія грунтуюцца на дакументальнай спадчыне і вывучэнні нацыянальных культурных традыцый. Дзякуючы гэтаму беларусы адчулі сябе часцінкамі нацыі і яе гісторыі.

Змаганне за Курапаты -- гэта змаганне і за свабоду супраць насілля. Калі ўявіць, што найбольш канцэнтраваным выразам свабоды зьяўляецца талерантнасць, то свабодны чалавек у першую чаргу павінен быць цярпімым да іншадумства і адмовіцца ад любой формы насілля -- духоўнага, псіхалагічнага, эканамічнага, ідэалагічнага, палітычнага і фізічнага. Бо любое насілле нясе ў сабе нянавісць і не дазваляе людзям свабодна рэалізаваць свае здольнасці і памкненні.

Курапаты сталі своеасаблівым сімвалам свабоды. Аб гэтым сведчаць і лёсы людзей, якія былі забітыя там у гады сталінскага генацыду, і ўся пасляваенная гісторыя ўрочышча. Асобнай гаворкі заслугоўвае абарона Курапатаў беларускай грамадскасцю ў 2001--2002 гадах, калі хлопцы і дзяўчаты паставілі ва ўрочышчы намёты і нясуць няспынные дзяжурства, накіраванае на захаванне нацыянальнага некропаля ад знявагі і разбурэння. Гэты валанцёрскі духоўны парыў атрымаў высокую адзнаку айчыннага і міжнароднага грамадства. Дзякуючы мужнай ініцыятыве моладзі, а таксама дзейнасці незярждаўных арганізацый зьявілася магчымасць аб'яднаць грамадства ў справе распрацоўкі канцэпцыі мемарыяла і прымусіць улады прызнаць знішчэнне ў Курапатах бязвінных людзей органамі НКУС.

І апошняе. Змаганне за Курапаты -- гэта змаганне за прыстойнае жыццё, заснаванае на агульначалавечых нормах маралі. Менавіта пры іх укараненні ў грамадстве яно вяртаецца з абсурднага ў нармальны стан. У стан, калі дзяржава служыць чалавеку і абараняе яго ў цяжкую хвіліну. У стан, калі людзі шукаюць вытокі сваіх праблем не ў другіх, а ў сабе. Калі чалавек імкнецца да сумленнага, высакароднага і годнага жыцця. Аб гэтым думаюць тыя, каму "баляць" Курапаты...

Марат ГАРАВЫ. (Н. В.)

=============================================

**Выдавецкі Фонд нашае газэты просіць не забывацца пра яго патрэбы!**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# *Звольненыя рэдактары ўсіх літаратурных часопісаў*

Сяргей Касьцян, прызначаны кіраваць усімі літаратурна-мастацкімі выданьнямі, спансараванымі дзяржавай, пачаў сваю дзейнасьць барджэй, чым многія меркавалі, — з разгону рэдактарскіх кадраў. Новым рэдактарам "Полымя" будзе прызначаны Мікола Мятліцкі, "Маладосьці" — Раіса Баравікова, "Крыніцы" — Вячаслаў Дашкевіч, "Нёману" — Ніна Чайка, а на "ЛіМе" застанецца Алесь Пісьмянкоў. Пэнсіянэрка Чайка, данядаўна аўтарка зласьлівай перадачы на дзяржаўным радыё, стане лідэркай новага рэдактарату. Калі "Полымя" ў сваіх першых сёлетніх нумарах друкавала ўспаміны Міхала Дубянецкага, Законьнікаў сарамліва замяніў ініцыялам імя Міколы Мятліцкага ў месцах, дзе нябожчык-кіраўнік "Мастацкай літаратуры" апісвае дзейнасьць таго ў якасьці сэксота. І вось цяпер Мятліцкі сядае ў крэсла Законьнікава…

**Няволя да жыцьця**

Тое, што адбываецца сёньня зь літаратурнымі часопісамі, — гэта працяг дзяржаўнае палітыкі выпрабаваньня нацыянальнае культуры і мовы на жывучасьць. Спачатку пісьменьнікі аддалі "калегам" свае выдавецтвы, пасьля — Ціцянкову свой Дом літаратара, пасьля — "марыністам" свой Саюз, цяпер аддаюць тав.Касьцяну свае часопісы... Дзяржава даціскае залежную ад яе літаратуру, чакаючы ад тае або сьмерці, або ўцёкаў за мяжу, або "ўдару ў адказ". Ваўчыны, трэба сказаць, падыход, які, аднак, не выключае адэкватнага адказу. Сутнасьць жа рэакцыі пісьменьнікаў зводзіцца найчасьцей да апэляцыяў, нібы гэта прытулак вэтэранаў вайны перавялі на самафінансаваньне. "Мы самі ня выжывем!.."

Парадокс сытуацыі ў тым, што пісьменьнікі на дзяржаўныя (ваўчыныя) грошы паляць полымя, каб ягоным агнём бараніцца ад ваўкоў. Працягвацца так ня можа.

Заклікі шанаваць родную мову і літаратуру дзяржаву не кранаюць. Яна шануе толькі тое, што адказвае ёй адэкватна. Яна шануе мацнейшага і хітрэйшага спаборніка. Гэта, між іншым, таксама вынік незалежнасьці краіны — такой, якая яна ёсьць. Вось чаму ў Беларусі нараджаюцца недзяржаўныя літаратурныя выданьні — не абцяжараныя спадчынай датацыйнага існаваньня. І вось чаму на пасаду кіраўніка Саюзу пісьменьнікаў — у васалы — ніколі ня пойдзе харызматычны лідэр.

Мы ніколі не растлумачым людзям, чым ваяўнічы графаман Мікола Мятліцкі горшы за паэта Сяргея Законьнікава (хоць зрабіць гэта трэба было даўно) і чаму яны дагэтуль уваходзяць у адну суполку. Тым больш — чым паэтка Раіса Баравікова горшая за празаіка Генрыха Далідовіча (гэтага нам растлумачыць ня ўдасца). Мы не растлумачым, чаму пісьменьнікі "здаюць" Вольгу Іпатаву, знаходзячы ў ёй нейкія "недахопы", хоць гэта можна вытлумачыць толькі неадзінствам самых патрыятычных пісьменьнікаў і элемэнтарным неджэнтэльмэнствам мужчын. Іпатава ў гэтай сытуацыі — як герб "Пагоня" (таксама камусьці можа не падабацца геральдычнае вырашэньне).

Постсавецкае пісьменьніцкае асяродзьдзе так і не падзялілася на сваіх і чужых, без чаго выжываньне гэтага асяродзьдзя немагчымае: Так і не навучыліся салідарнасьці. Саюз разбух ад коней траянскіх, якія да літаратуры — ня йначай як тыя коні. Часопісы не зрабілі і зруху да незалежнасьці (прынамсі, не зарэгістравалі назваў-дублёраў). Ва ўладных структурах не абазначаныя свае людзі (як за саветамі — Сяргей Законьнікаў).

Сутнасна, арганізацыйна не зрабілі нічога. Быццам усё яшчэ Брэжнеў на двары. Тым часам савецкі пэрыяд завяршыўся. Беларускай ідэі ён не прынёс нічога новага, і мы паступова апынаемся ў той самай калізіі спаборніцтва "западноруссов" зь беларусамі, што і ў часы Купалавых "ворагаў беларушчыны". Толькі цяпер ня ў чыстым выглядзе, ня тэт-а-тэт, а пераблытана — як ва ўладзе, так і ў пісьменьніцкіх суполках.

Зразумела, вяртаньня ў савецкі датацыйны застой, да "карыта" ня будзе. Новаствораны "голдынг" задуманы як тая асьвенцымская душагубка ў выглядзе душавога пакою. Розьніца ў тым, што дзьверы яе адчыненыя, а для сапраўднага таленту жыцьцё — зусім неабавязкова значыць жыцьцё ў няволі.

Пытаньне ў тым, ці здолеюць "дзяржаўныя" пісьменьнікі выявіць волю да жыцьця, выйсьці, стаць "недзяржаўнымі", як гэта ўжо зрабілі многія іхныя калегі (ад чаго зусім ня страцілі ані доступу да чытача, ані папулярнасьці). Ці здолеюць самаарганізавацца і, выкарыстоўваючы свой аўтарытэт ды сілу талентаў, стварыць сапраўды салідарную супольнасьць з уласным выдавецтвам і някуцым літаратурным часопісам — тое, што будзе не наракаць на кепскую ўладу, а патрабаваць ад дзяржавы як бюджэтнага фінансаваньня нацыянальнае літаратуры, так і перагляду адукацыйных праграмаў. Тое, што здолее выжыць і без дзяржаўнае падтрымкі, бо стане ўрэшце сабою, набыўшы свабоду і непадзеленую ні з кім адказнасьць. А ня прызьвычаіцца да ваўчынага вогнішча.

**Сяргей Дубавец**

# Кнігагляд

Днямі ў Менску ў выдавецтве "Энцыкляпэдыкс" выйшаў Збор твораў Яна Станкевіча ў двух тамох, а ў выдавецтве "Тэхналёгія" - першая беларуская "Матэматычная энцыклапедыя". Выдавецтва "Артыфэкс" працягнула выданьне Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага: колькі год таму ў Беларусі ўпершыню выйшла 28-я кніга Мэтрыкі, а нядаўна ў сэрыі "Беларуская гістарычная бібліятэка" - 44-я. Беларускія навукоўцы на эміграцыі рыхтуюць да выданьня ангельска-беларускі слоўнік.

Днямі ў Менску ў выдавецтве "Энцыкляпэдыкс" выйшаў Збор твораў Яна Станкевіча ў двух тамох. Ян Станкевіч - ведамы заходнебеларускі й эміграцыйны філёляг, гісторык, грамадзкі дзяяч. Ягоныя толькі мовазнаўчыя - і далёка ня ўсе - працы зьмясьціліся на больш як тысячы старонках. Збор твораў выйшаў накладам 500 ас. Тым, хто цікавіцца гісторыяй беларускае мовы, імя Яна Станкевіча вядомае, а вось працы ягоныя доўгі час былі недаступныя. Цяпер яны сабраныя разам. Пра жыцьцё, творчасьць і асобу Яна Станкевіча расказвае адзін з аўтараў ідэі выданьня зборy ягоных працаў і адзін з укладальнікаў ягонага двухтомніка Валер Булгакаў.

**В.Б.:** - Найбольшую вядомасьць, найбольшы ўплыў на беларускае грамадзтва Ян Станкевіч здабыў у якасьці мовазнаўца. Гэтаксама ён досыць плённа працаваў і ў іншых навуковых дзялянках, перадусім як гісторык. І калі зьберці разам усе ягоныя гістарычныя працы, то выйдзе агромністы том пад тысячу старонак (на жаль, зборам Станкевічавых гістарычных працаў дагэтуль аніхто не займаўся). Таксама ў пэўныя часы Станкевіч быў досыць уплывовым беларускім палітыкам. З 1928 да 1930 году ён быў дэпутатам польскага Сэйму ад Лідзкае акругі. Усё сваё сьвядомае жыцьцё ён браў удзел у розных беларускіх арганізацыях, але - асабліва калі браць эміграцыйны пэрыяд ягонага жыцьця, які пачаўся разам з прыходам Чырвонае арміі на беларускія землі ў 1944 годзе, - удзел ягоны ў гэных структурах можна ацэньваць дваяка, бо нацыянальная вага беларускіх арганізацыяў была даволі нізкая. Гэткім чынам, у асобе Яна Станкевіча маем перадусім лінгвіста, знаходкі, дасягненьні, распрацоўкі й вынаходкі якога замацаваліся ў сучасным беларускім моўным дыскурсе, пачынаючы ад слова "спадар" і канчаючы фактычна ім прапанаваным - як цяпер высьвятляецца - варыянтам назову беларускае сталіцы "Менск", а ня "Мінск". ...Творчасьць Яна Станкевіча была значна недаацэненая, незапатрабаваная. Пад час яго жыцьця ягоныя сучасьнікі часта паддавалі Станкевіча астракізму, ягоныя моўныя распрацоўкі выклікалі насьмешкі й зьдзек. І толькі цяпер, калі ўжо больш як трыццаць гадоў Яна Станкевіча з намі няма, нам нарэшце становіцца зразумелым сапраўдны маштаб яго постаці.

**RR:** - Хто рыхтаваў Збор твораў Янкі Станкевіча?

**В.Б.:** - Праект стартаваў у 1998 годзе. Пачаўся, як ні дзіўна, дзякуючы нефармальнай размове між мною й беластоцкім гісторыкам беларускага паходжаньня Алегам Латышонкам. Пад час аднаго з сваіх прыездаў у Менск Алег Латышонак сказаў, што было б вельмі цікава зрабіць Збор твораў Яна Станкевіча. Я яго горача падтрымаў. Пасьля гэтага мы скантактаваліся з Станкевічавымі сынамі, якія дагэтуль жывыя й здоровыя - і дай бог ім здароўя й удачы! - зь Вячкам, Юркам і Багушом. Выданьне не было б магчымым без рупліваe дапамогі Генадзя Сагановіча, які таксама шмат чаго карыснага зрабіў, шмат аддаў свайго вольнага часу, каб запачаткаваць гэты праект. Таксама шмат спрэчных момантаў дыскутавалася зь Сяргеем Шупам і Сяргеем Дубаўцом у Вільні. Таксама мушу згадаць ідэйнага пасьлядоўніка Янкі Станкевіча - Юрася Бушлякова, які найбліжшым часам абароніць кандыдацкую дысэртацыю на тэму моўнае творчасьці Яна Станкевіча. Без кансультацыяў і парадаў Юрася Збор твораў Станкевіча проста не зьявіўся б на гэты сьвет.

Першая беларуская "Матэматычная Энцыклапедыя" выйшла ў выдавецтве "Тэхналёгія". Гэта - першае падобнага кшталту выданьне ў былым Савецкім Саюзе. Сваю матэматычную энцыкляпэдыю мае адно Расея, яе ня мае нават Вялікая Брытанія. Беларуская матэматычная энцыкляпэдыя зьмяшчае пад 2.500 артыкулаў з розных галінаў матэматыкі. Да асноўнага матэрыялуададзеныя біяграфічныя даведкі пра знакамітых замежных матэматыкаў і вядомых беларускіх навукоўцаў.

Дадатак складаюць беларуска-ангельскі ды расейска-беларускі слоўнікі матэматычных тэрмінаў і тэрміналягічных словазлучэньняў, зьмешчаных у энцыкляпэдыі. - яны дазволяць карыстацца энцыкляпэдыяй тым, хто ня ведае або дрэнна ведае беларускую мову. У стварэньні "Матэматычнае энцыклапедыі" ўзялі ўдзел больш за сто беларускіх матэматыкаў. Энцыкляпэдыя мае паўтысячы старонак, яе наклад - 1.000 асобнікаў, цана - 9.500 - у кнігарнях. У выдавецтве - 6.000 руб. Пра тое, як рыхтавалася гэтая кніга, расказвае адна зь яе складальніц - матэматык, пэдагог Тамара Сухая.

**Т.С.:** - У свой час прапанову падрыхтаваць матэматычную энцыкляпэдыю зрабіў на пачатку 1990-х гадоў кіраўнік выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Барыс Сачанка. Сп. Сачанка меў на мэце стварыць беларускія энцыкляпэдыі з усіх галінаў навукі, але, на жаль, ён заўчасна пайшоў з жыцьця... За матэматычную энцыкляпэдыю ўзяўся доктар фізычна-матэматычных навук Васіль Бернік. Дагэнуль мы падрыхтавалі слоўнік з вышэйшае матэматыкі для ВНУ. Спачатку мы падрыхтавалі невялічкі, выдадзены на ратапрынце расейска-беларускі слоўнік, потым зразумелі, што патрэбен і адваротны - расейска-беларускі. Слоўнік уклалі: я, Васіль Трацякевіч, Раіса Еўдакіменка й Гудзень Ніна - супрацоўнікі Беларускае дзяржаўнае політэхнічнае акадэміі (цяпер - Беларускі нацыянальны тэхнічны ўні- вэрсытэт). ... Калі мы пачалі працаваць, мы даведаліся, што ў 1920-я гады матэматыку выкладалі па-беларуску. Мы паднялі матэрыялы - і даведаліся, што існаваў Інстытут беларускае культуры. У Інбелкульце склалі слоўнікі з кожнае галіны ведаў. Апрацоўваць матэматычную тэрміналёгію пачалі ў 1921 годзе. Была створаная Навукова-тэрміналягічная камісія, якая к вясьне 1927 году падрыхтавала, зацьвердзіла й выдала Маленькі матэматычны слоўнік (3.551 тэрмін). З пачатку 1930-х гадоў паступова спыняецца выкладаньне па-беларуску, што было абумоўленае палітычнаю сытуацыяй, і на працягу шасьцідзесяці гадоў выкладаньня па-беларуску не было й ня выйшаў аніводзін беларускамоўны падручнік...

Выдавецтва "Артыфэкс" працягнула выданьне Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Колькі год таму ў Беларусі ўпершыню выйшла 28-я кніга Мэтрыкі, а нядаўна ў сэрыі "Беларуская гіста- рычная бібліятэка" - 44-я. Яе падрыхтаваў Аляксандар Груша. Кніга ўжо ёсьць у продажы, каштуе 20.000 руб. Мэтрыка - гэта дзяржаўны архіў Канцыляры сярэднявечнае беларуска-літоўскае дзяржавы, у якім захоўваюцца дакумэнты з палітычнае й сацыяльна-эканамічнае гісторыі Вялікага Княства, а таксама матэрыялы зь юрыдычных, царкоўна-рэлігійных і культурных дачыненьняў у XIV-XVIII стагодзьдзях.

Паводле словаў гісторыка Ўладзімера Пічэты, "Літоўская Мэтрыка - збор дакумэнтаў надзвычайнае вартасьці, на падставе якіх можна ўявіць побыт, культуру беларускага народу, эканамічную й сацыяльную структуру грамадзтва".

Мэтрыка - гэта яшчэ й моўная скарбніца: мова яе дакумэнтаў да пачатку XVII ст. была ў асноўным беларуская. Толькі пазьней стала пераважаць польская, часам лаціна. Архіў Канцыляры Вялікага Княства Літоўскага спачатку захоўваўся ў Троках, затым у Вільні, Варшаве, а цяпер - у Маскве, у Расейскім дзяржаўным архіве даўніх актаў.

Да нашага часу дайшлі амаль 600 тамоў Мэтрыкі. На працягу XIX-XX стст. частка матэрыялаў Мэтрыкі была апублікаваная ў зборніках. Комплексную праграму яе акадэмічнага выданьня з канца 1980-х гадоў праводзяць літоўскія навукоўцы. Беларускія вучоныя ўлучыліся ў гэты працэс зусім нядаўна, але плён іхнае працы даволі значны - мы маем ужо два тамы, падрыхтаваныя ў Менску.

Беларускія навукоўцы на эміграцыі рыхтуюць да выданьня ангельска-беларускі слоўнік. Пра гэта паведамляе амэрыканскі гісторык беларускага паходжаньня Ян Запруднік. Сп. Запруднік ацаніў пэрспэктывы выходу слоўніка як даволі добрыя.

**Я.З.:** - Увесь матэрыял ужо вычытвае Сяргей Шупа. Гэта будзе вялікі слоўнік на 40-50 тысяч словаў і фразэалягізмаў. Хочам, каб ён выйшаў на добрай паперы, меў добрую паліграфічную якасьць. Тыраж слоўніка будзе пад 6.000 асобнікаў. Друкаваць яго будуць за межамі Беларусі. Слоўнік робіцца на грамадзкай аснове, патрэбен значны час, каб яго падрыхтаваць.

**Віктар КОРБУТ** (R.R.)

**Міністар абароны Польшчы Ежы Шмайдзінскі пераконваў Пэнтагон, каб навязаў ён больш шчыльнае вайсковае супрацоўніцтва паміж НАТА й Украінай.** Міністар Шмайдзінскі, які знаходзіўся з двухдзённым візытам у Злучаных Штатах Амэрыкі, сустрэўся з амэрыканскім сакратаром абароны Дональдам Рамсфэльдам. Ежы Шмайдзінскі паведаміў, што ў верасьні ў Польшчы адбудзецца нефармальная сустрэча міністраў абароны НАТА, на якую будуць запрошаныя прадстаўнікі Украіны й Расеі… Міністар абароны Беларусі не запрошаны…

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Юры ТУРОНАК, Варшава

З ВАЕННАЙ ГІСТОРЫІ

# Падзея невыгодная для ўсіх

У ходзе Другой сусьветнай вайны паступова таялі рады нямецкай арміі, зьмяншаліся і яе рэзэрвы. Ужо на пачатку 1944 г. вярхоўнае камандаваньне Вэрмахта было вымушана стасаваць розныя надзвычайныя мерапрыемствы, каб хоць часткова рэкампэнсаваць людзкія страты войска. Адным з іх быў праект паклíканьня на фронт удзельнікаў проціпаветранай аховы Нямеччыны, функцыі якіх мелі быць перададзены нямецкай моладзі ва ўзросьце ад 15 да 20 гадоў, якая пакуль што не паклікалася ў армію.

Аднак і гэтая мера аказалася недастатковай, у сувязі з чым на пачатку сакавіка 1944 г. у кіраўнічых колах Нямеччыны дасьпела ідэя прыцягнуць да дапаможнай службы ў Лютвафэ таксама моладзь з акупаваных усходніх абшараў — беларускую, латышскую, летувіскую, расейскую, украінскую і эстонскую. У распрацоўцы прынцыпаў арганізацыі і правядзеньня гэтай акцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі чатырох ведамстваў Нямеччыны — міністэрства акупаваных усходніх абшараў, камандаваньня Люфтвафэ, бюро папаўненьня Вафэн СС і арганізацыі моладзі Гітлерюгэнд. Практычнае правядзеньне акцыі ўскладалася на аддзел моладзі міністэрства акупаваных усходніх абшараў і яго кіраўніка гаўптбанфюрэра /маёра/ Нікеля.

25 сакавіка 1944 г. прадстаўнікі гэтых ведамстваў заключылі адпаведнае пагадненьне. Паводле нямецкага дасьледчыка гэтага пытаньня Рудольфа Герцога ўсе яны лічылі, што вярбоўка моладзі ўсходніх народаў на дапаможную службу ў Люфтвафэ павінна адбывацца на прынцыпе дабраахвотнасьці. Пры гэтым не выключалася, што ў Латвіі і Эстоніі, для якіх рыхтаваўся статус аўтаноміі, мясцовыя ўлады змогуць паклікаць моладзь прымусова ў выпадку недастатковай колькасьці дабраахвотнікаў. Усё-ж на практыцы такой неабходнасьці не было.

Арганізатары акцыі імкнуліся элімінаваць нацыянальную дыскрымінацыю паасобных групаў моладзі падчас яе службы ў Нямеччыне і запэўніць ёй аднолькавыя з нямецкімі памочнікамі Люфтвафэ правы і трактаваньне. Аднак гэтыя імкненьні няраз выклікалі адмоўнае стаўленьне розных нямецкіх установаў схільных трактаваць усходніх добраахвотнікаў як прымусова завербаваных остарбайтэраў. Па гэтай прычыне юнакам беларускай, летувіскай, расейскай і ўкраінскай нацыянальнасьці быў прысвоены афіцыйны статус памочнікаў СС, на што наглядна паказвалі адпаведныя нашыўкі на рукавах уніформаў над сваімі нацыянальнымі павязкамі.

Эмблема СС была надзейным шчытом, які забясьпечваў моладзь перад нежаданымі напасьцямі з боку расісцкіх чыноўнікаў. Да рэчы, гэтая эмблема мела сваё абаснаваньне: згодна з заключаным 25 сакавіка пагадненьнем 18-20-гадовыя юнакі пасьля 8 месяцаў, а 15-17-гадовыя пасьля 15 месяцаў службы ў Люфтвафэ павінны былі перайсьці ў распараджэньне СС для выконваньня паліцэйскай службы ў сваіх краінах.

Такім чынам паступіўшыя на службу юнакі выконвалі выключна розныя дапаможныя функцыі зьвязаныя з проціпаветранай аховай. Пазьней, са жніўня 1944 г. на гэтую службу прыцягаліся і дзяўчаты з яшчэ кантраляваных немцамі тэрыторыяў. Незалежна ад нацыянальнасьці называліся яны памочніцамі Лютвафэ.



Беларускія юначкі над Балтыцкім морам.

Паколькі вярбоўка моладзі адбывалася на прынцыпе дабраахвотнасьці ў штабе Нікеля прысьвячалі асаблівую ўвагу добрай прапагандысцкай падрыхтоўцы гэтай акцыі. Моладзь павінна была ведаць, што ад яе патрабуецца і што прапануецца. У лістоўках, плякатах і іншых вярбовачных матэрыялах асабліва падкрэсьлівалася яе роўнапраўе і аднолькавае з нямецкай моладзьдзю трактаваньне, а таксама падпарадкаваньне сваім нацыянальным кіраўнікам. Акцэнтаваліся патрыятычныя матывы і задачы, змаганьне з бальшавізмам, пэрспэктывы прафэсійнальнай адукацыі.

Вярбоўка ў Беларусі пачалася 27 мая 1944 г. Для яе правядзеньня штаб Нікеля камандзіраваў 70-80 чалавек, у тым ліку 12 афіцэраў Люфтвафэ і 5 афіцэраў СС. Пасьля сустрэчы з гэнеральным камісарам Готбэргам у Менску разьехаліся яны ў акругі цывільнай зоны Беларусі і ў супрацоўніцтве з акруговымі кіраўнікамі Саюзу Беларускай Моладзі пачалі сваю працу. Вярбоўка праводзілася таксама ў Барысаўскай і Бабруйскай акругах ваеннай зоны часткова з удзелам кіраўнікоў Саюзу Расейскай Моладзі.

На тэрыторыі Беларусі былі арганізаваныя чатыры прыёмныя лягеры для дабраахвотнікаў: два ў Менску і па адным у Барысаве і Бабруйску. Тут юнакі праходзілі мэдыцынскі агляд, атрымоўвалі абмундзіраваньне і больш дакладную інфармацыю аб будучай службе. Калі ў міжчасе некаторыя з іх раздумаліся, яшчэ мелі магчымасьць з прыёнага лягеру вярнуцца дамоў.

Вярбоўка ў Беларусі праводзілася ў спэцыфічных умовах. Фронт ужо стаяў над Дняпром і Прыпяцьцю і многае паказвала на хуткі канец нямецкай акупацыі. Акрамя таго ў шматлікіх раёнах дзейнічалі партызанцкія злучэньні, а камуністычнае падпольле імкнулася разьбіваць розныя нямецкія ініцыятывы і мерапрыемствы, у тым ліку і арганізаваную дзейнасьць моладзі. У такім становішчы ў выпадку адсутнасьці жаданьня і нацiскаў вярбоўшчыкаў маладыя хлопцы мелі надзейную альтэрнатыву — яны маглі схавацца пад апеку партызанаў. Дзеля гэтага нямецкія арганізатары акцыі не чакалі яе вялікага посьпеху ў Беларусі.

Захаваная дакумэнтацыя не дазваляе падрабязна прасачыць ход і вынікі вярбоўкі ў паасобных акругах Беларусі. Як падавалася ў пасьляэвакуацыйных справаздачах акруговых камісараў, у Глыбоцкай акрузе паступіла на службу ў Люфтвафэ 2000, а ў Баранавіцкай — 500 юнакоў. У іншых акругах вынікі былі сьціплыя. Янка Жамойцін, былы акруговы кіраўнік СБМ у Навагрудку, пісаў у сваіх успамінах, што ў яго акрузе вырашыла паступіць на службу ў Люфтвафэ ўсяго чатырох ці пяцёх юнакоў, аднак ня было яму вядома ці яны выехалі ў Нямеччыну. Паводле справаздачы камандаваньня Вэрмахта ў Беларусі, у чэрвені ў прыёмным лягеры ў Барысаве чакала на выезд у Нямеччыну 150, а ў Бабруйску — 230 юнакоў. Усе яны паходзілі з ваеннай зоны Беларусі.

З мэтай заахвочаньня моладзі вярбоўшчыкі напэўна няраз ашукоўвалі яе абяцанкамі, якія ў тагачасных умовах былі нерэальныя. Вось адзін з прыкладаў, які апісаў у газэце "Беларус" /1983, № 308-309/ былы вучань Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школы Міхась Лужынскі: "На пачатку травеня 1944 г. /памылка: відаць, пад канец травеня — вярбоўка пачалася толькі 27.05.1944 г. — Ю. Т./ у школу прыехаў кіраўнік СБМ Сценнік з лейтэнантам паветраных сілаў Фэрманам. Зноў склікалі ўсіх вучняў, гэтым разам хлопцаў і лейт. Фэрман сказаў наступнае: "Сёньня разыгрываецца лёс усяе Эўропы, а таксама вашае Бацькаўшчыны. Беларусы ўжо стварылі сваю армію ў форме Беларускае Краёвае Абароны. Аднак мадэрная армія ня можа быць эфэктыўнай без свайго лётніцтва. Я заклікаю вас, юнакі, ісьці ахвотнікамі ў паветраныя збройныя сілы. Некаторыя з вас станучь пілётамі, іншыя — навігатарамі або борт-мэханікамі. І пайшлі — 46 хлапцоў. Па нейкім тыдні рэкруты выехалі ў Менск, дзе іх абмундзіравалі і ў палове чэрвеня 1944 г. вывезьлі ў Нямеччыну".

Нягледзячы на розныя вынікі ў паасобных акругах, што можна лічыць пацьвярджэньнем дабраахвотнасьці акцыі, яе агульны рэзультат перавысіў спадзяваньні нямецкіх арганізатараў. Паводле справаздачы вярхоўнага камандаваньня войскаў цэнтральнага ўчастку фронту ад 27 жніўня 1944 г. у цывільнай і ваеннай зонах Беларусі на дапаможную службу ў Люфтвафэ паступіла агулам 4000 юнакоў.

Мяркуючы па дадзеных шэфа-праваднiка СБМ Міхася Ганько апублікаваных 28 чэрвеня 1944 г. у апошнім нумары "Беларускай Газэты" з гэтага ліку каля 3000 хлопцаў паходзіла з цывільнай зоны Беларусі. Аднак многія з іх да ґэтай пары ня былі сябрамі СБМ і толькі ў прыёмных лягерах залічаліся ў рады арганізацыі і атрымоўвалі СБМаўскія павязкі. На гэта паказвае ў прыватнасьці лік дабраахвотнікаў з Глыбоцкай акругі, які ў некалькі разоў перавышаў колькасьць юнакоў, якія вясной 1944 г. былі сябрамі акруговай арганізацыі СБМ.

Такім чынам нельга лічыць абаснаванымі выказваньні некаторых беларускіх аўтараў, якія імкнуліся вінаваціць СБМ за посьпех гэтай акцыі. Тое-ж адносіцца і да ролі Саюзу Расейскай Моладзі ў ваеннай зоне Беларусі, які быў створаны толькі на пачатку мая 1944 г. і, на добры лад, ня мог мець істотнага ўплыву на ідэйнае выхаваньне і рашэньні ўсходнебеларускіх хлопцаў.

Аднак ня ўсе юнакі, якія прыбылі ў прыёмныя лягеры маглі быць адпраўлены ў Нямеччыну. Тыя, якія не дасягнулі 15-гадовага ўзросту ці не прайшлі праз мэдыцынскія камісіі адсылаліся дамоў. Некаторыя, адумаўшыся, вярталіся самі. Акрамя таго імклівае наступленьне Чырвонай арміі ў канцы чэрвеня паралізавала транспарт, у выніку чаго некаторая частка юнакоў у Барысаўскім і Бабруйскім лягерах засталася на месцы, або загінула ў ходзе ваенных апэрацыяў.



Чэрвень 1944 г., перад адездам у Нямеччыну.

Большасьць беларускіх юнакоў была адпраўлена ў Нямеччыну трыма транспартамі — 7, 17 і 22 чэрвеня, з якіх апошні пасьпеў адыйсьці на дзень перад наступленьнем Чырвонай арміі. У ліпені і жніўні, ужо пасьля эвакуацыі з Беларусі, вярбоўка працягвалася ў Нямеччыне і Гэнералгубэрнатарстве /Польшчы/ сярод пражываючых там беларускіх хлапцоў і дзяўчат.

Паводле справаздачы штабу гаўптбанфюрэра Нікеля, на 20 верасьня 1944 г. у радах проціпаветранай аховы Нямеччыны ўдзельнічала агулам 18917 юнакоў з краінаў усходняй Эўропы, у тым ліку: 2356 беларусаў, 3614 латышоў, 1012 летувісаў, 1363 расейцаў, 5933 украінцаў і 3000 эстонцаў.

Пераважная іх частка /88%/ абслугоўвала зенітную артылерыю, астатнія працавалі ў галіне сыгналізацыі і іншых сфэрах проціпаветранай аховы. У дапаможную службу Люфтвафэ ўключылася таксама 2500 дзяўчат, у тым ліку каля 200 беларусак. Агульная колькасьць юнакоў і юначак з усходнеэўрапейскіх краінаў, якія ўдзельнічалі ў проціпаветранай ахове Нямеччыны перавысіла 21000.

Такі колькасны вынік сьведчыў аб несумненным посьпеху арганізатараў і то ў час, калі нямецкая армія цярпела паражэньне за паражэньнем і адступала на ўсіх франтах. Важнейшыя аднак былі адносіны да гэтай акцыі саміх хлапцоў і дзяўчат, а ў значнай меры і іх бацькоў, якія наўрад ці сумняваліся ў выніку вайны і не маглі спадзявацца на вяртаньне на занятую бальшавікамі радзіму.

Прычыны ўдзелу моладзі ў абароне нямецкага неба напэўна былі розныя. Для адных гэта была бясплатная пуцёўка ў Эўропу, прыгодніцтва, ці шуканьне занятку або лепшай долі пасьля вайны. Аднак большасьць кiравалася пачуцьцём патрыятызму і негацыяй бальшавізму. Таму нельга лічыць, як абумоўленую патрабаваньнем тагачаснай прапаганды, наступную размову карэспандэнта бэрлінскай "Раніцы" Я. Ігаровіча з беларускімі дружыньнікамі, якая адбылася 8 ліпеня 1944 г. у судэцкім горадзе Тропаў падчас іх урачыстай перадачы камандаваньню нямецкай Люфтвафэ:

"У канцы — піша карэспандэнт — кідаю пытаньне: ці не старалася вас адвесьці ад пастановы пайсьці дабраахвотна на ваенную службу варожая прапаганда?

— Ясна, не адбылося без гэтага. Але мы ведалі сваю дарогу і павіннасьці.

— А ці гаварылі вам часам, што Нямеччына з Беларусі намагаецца зрабіць сваю калёнію?

На гэта — станоўчы адказ: лепш тады нямецкая калёнія, чымся савецкі рай" /"Раніца", 23.07.1944 г./.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



* * *

Пасьля вайны саюзьніцкія пракуроры ў Нюрнбэргу абвінавачвалі арганізатараў дэпартацыі з Беларусі ў Нямеччыну малалетніх бяздомных дзяцей і прымусовай вярбоўкі моладзі на працу ў нямецкай прамысловасьці. Тады была выяўленая і поўная дакумэнтацыя, якая датычыла вярбоўкі моладзі на службу ў Люфтвафэ, аднак суд не здолеў даказаць яе прымусовага, а тым самым злачыннага, характару, у сувязі з чым яе арганізатары да адказнасьці не прыцягаліся.

Усё-ж эпапея ваенна-дапаможнай службы моладзі стала пасьля вайны сарамлівай тэмай і на Ўсходзе і на Захадзе. Дабраахвотны характар службы ніяк не ўкладваўся ў абавязуючую беларускіх гісторыкаў і публіцыстаў тэзу аб аднадушнай барацьбе беларускага народу з нямецкім фашызмам, аб гэнацыдзе і падобных жудасьцях. Такое стаўленьне да гісторыі няшмат зьмянілася і ў апошні час і ацэнка ваенна-дапаможнай службы моладзі звычайна кідаецца ў адзін мяшок з злачыннымі дэпартацыямі дзяцей і остарбайтэраў.

На Захадзе, дзе пасьля вайны апынулася пераважная частка беларускіх памочнікаў Люфтвафэ, таксама панавала маўчаньне, хоць яго прычыны былі іншыя чым у Беларусі. Наколькі аўтару вядома ніводзін з дружыньнікаў не адважыўся надрукаваць свае ўспаміны аб вярбоўцы ў Беларусі, службе ў Нямеччыне і пасьляваенных лёсах юнакоў і юначак. Здаецца, адзіным нясьмелым выняткам быў цытаваны ўспамін М. Лужынскага аб вярбоўцы ў Маладзечанскай школе, з якога аднак не вынікае ці быў ён удзельнікам ці толькі наглядальнікам гэтай акцыі.

Такая пазыцыя былых дружыньнікаў нібыта зразумелая: у новых умовах пад скіперам пераможных саюзьнікаў ніхто з іх не хацеў пісаць аб сваім удзеле ў службе ў Люфтвафэ. Для іх гэтая падзея была невыгоднай, так як для гісторыкаў на бацькаўшчыне. І тым і другім больш адпавядалі прыгожыя міфы, чым гістарычная праўда.

Юры Туронак, Варшава.

= = =

Важнейшая літаратура

Жамойцін Я., З перажытага /ў кнізе ўспамінаў "Лёс аднаго пакаленьня", Беласток 1996;

Зелений З., Українське юнацтво в вири Другої світової війни, Таронта 1965;

Каваленя А., Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі 1941-1944, Менск 1999;

Туронак Ю., Беларусь пад нямецкай акупацыяй, Менск 1993;

Herzog R., Besatzungsverwaltung in den besetzten Ostgebieten — Abteilung Jugend, Tübingen 1960.

# "...Але ня волю народу выконваюць яны, блізарукія"

**У апошнія месяцы свайго жыцця Якуб Колас піша ліст у Бюро ЦК КП Беларусі.**

Піша аб тым, аб чым не можа маўчаць, што кроіць болем яго сэрца: аб гаротным лёсе беларускай мовы на Беларусі, яе практычным выцясненні і вынішчэнні. Народны паэт спадзяецца, што крык ягонай душы, ягоныя слушныя парады, як выправіць ганебны стан з роднай мовай, пачуюць наверсе "дарагія таварышы".

Не пачулі. Не маглі пачуць: палітыка "таварышаў" была супрацьлеглая таму, чаго жадаў, да чаго імкнуўся народны пясняр.

Пісьмо, датаванае 25-м мая 1956 года, Канстанцін Міхайлавіч адправіў па адрасе. Доўга чакаў адказу. Не дачакаўся.

Цікава, калі б класік быў жывы, што адказалі б сённяшнія кіраўнікі дзяржавы на яго і зараз актуальныя трывогі? Бадай, тым жа самым -- маўчаннем...

Прапануем увазе чытачоў ліст Якуба Коласа з нявялікімі скарачэннямі.

У Бюро ЦК КП Беларусі

Дарагія таварышы!

...Найвялікшым духоўным багаццем народа зьяўляецца яго мова. У мове адлюстравалася гісторыя народа, яго працоўнае жыццё, яго барацьба, яго смутак і радасць, яго прырода, яго любоў і гнеў. Любіць і шанаваць мову нас вучыў вялікі Ленін, выдатныя пісьменнікі, вучоныя, педагогі.

Беларуская мова параўнаўча маладая. Хоць і даўно ўжо гаворыць на ёй народ, але як мова навукі, палітыкі, літаратуры яна знаходзіцца ў пярэдзе станаўлення. Таму задача савецкай інтэлігенцыі рэспублікі -- берагчы мову, вывучаць яе, распрацоўваць і пашыраць. Гэта дасягаецца, па-першае, штодзённым яе ўжываннем у побыце, на рабоце, у дзяржаўных, грамадскіх і культурных установах.

Ці ўсё добра ў нас у гэтых адносінах? Далёка не ўсё. На мой погляд, далейшае развіццё культуры рэспублікі вельмі многа праігрывае і, скажам проста, стаіць перад сур'ёзнай пагрозаю іменна ад недастатковай увагі да роднай мовы. Установы сталіцы вывелі з абыходку беларускую мову: на ёй не вядзецца перапіска, на ёй не гавораць з наведвальнікамі, у гарадах няма беларускіх шыльд і надпісаў, мала беларускіх афіш і плакатаў. Смешна сказаць, але, праехаўшы Мінск, кавалак Слуцкага шасе на працягу 30 км, я не ўбачыў ніводнага беларускага слова. Толькі ў Русінаве на даследчай бульбяной станцыі знайшлося два пачарнелых ад часу надпісы: "Кузьня" і "Сьвіран". Дый то, відаць, яны былі зроблены ў 30-х гадах, да рэформы правапісу, бо пасля мяккіх зычных у іх стаіць мяккі знак. Няўжо ж нашы аўтамабілі, трактары, станкі, тканіны, цукеркі, папяросы сталі б горшымі, каб на іх былі беларускія надпісы. Хай толькі якасць не падводзіць! Бо колькі ні пішы "Казбек" на мінскіх папяросах, усё роўна спажывец патрабуе ленінградскіх. Свіслач рэчка незайздросная, але калі папяросы з такой назвай будуць самымі лепшымі, дык яны знойдуць попыт ва ўсім Савецкім Саюзе. Чаму ж мы дапускаем, каб беларускія этыкеткі з'яўляліся толькі на дрэнным гуталіне і на не вельмі смачных водах? Гэта ж і мала, і проста крыўдна.

Акадэмія навук, якая павінна быць цэнтрам беларускай навукі, не карыстаецца беларускаю моваю, не выдае на ёй работ, не праводзіць пасяджэнняў. Тое, што ў Акадэміі існуюць інстытуты мовы і літаратуры, яшчэ справы не рашае. У нас дасюль не распрацавана беларуская тэрміналогія па ўсіх галінах навукі, а гэта дало б магчымасць пісаць па-беларуску навуковыя працы і выкладаць па-беларуску спецыяльныя дысцыпліны. Няўжо ж навуковая работа, калі яна ўдалая і цікавая, што-небудзь страціць ад таго, што будзе напісана па-беларуску! Наадварот, яе будуць перакладаць і пашыраць на многіх мовах свету, як гэта робіцца з творамі нашых літаратараў. Могуць сказаць, што, стаўшы на такі шлях, распужаеш з Акадэміі вучоных, ураджэнцаў іншых рэспублік, якія не ўладаюць моваю. Не, ніхто не збіраецца саджаць за азбуку паважаных і сур'ёзных людзей. Аднак, жывучы ў Беларусі, і ім бы не грэх навучыцца хоць бы чытаць газету. Большасць жа нашых вучоных -- беларусы, і мову яны ведаюць, але ёю не карыстаюцца. У іх адрас і накіраваны гэты папрок. Бо хіба можа быць сур'ёзнае развіццё навукі, калі вучоныя не хочуць паважаць мовы народа, на зямлі якога яны працуюць?

Саюзы кампазітараў і мастакоў таксама адмовіліся ад свае мовы. Ну, няхай у іх іншыя сродкі выражэння думак і пачуццяў, не моўныя. Аднак зрабіць уклад у нацыянальнае мастацтва і музыку, не ведаючы мовы народа, немагчыма. Мова -- важнейшы элемент нацыянальнай формы, не ведаючы яе, не карыстаючыся ёю, ні мастак, ні кампазітар не здолеюць аўладаць усімі духоўнымі багаццямі народа.

Беларускую мову можна пачуць у тэатрах і па радыё. Але што гэта за мова? Гэта непрыхаваны здзек над ёю. Артысты і дыктары парушаюць элементарныя правілы вымаўлення, пастаноўкі націскаў, мова засмечана мноствам скажоных слоў-калек, няўдала запазычаных з рускай мовы. Адбываецца гэта таму, што артысты, работнікі радыё, журналісты, газетчыкі не карыстаюцца мовай у побыце. Пераклады газетных артыкулаў і матэрыялаў радыё даручаюцца машыністкам і малаграматным людзям. Адкуль жа тут узяцца добрай мове? Вось і пішуць нашы газеты і часопісы: "прадстаячы", "маючыйся", "кіруемы" і іншыя страхападобныя словы.

Тэатры, ставячы перакладныя п'есы, па-свойму няграматна папраўляюць перакладчыкаў, замяняюць сказы і словы, бо, бачыце, беларускае слова "не гучыць". Беларускае слова гучыць, але яны не ведаюць яго, не імкнуцца зразумець сэнс і данесці яго да гледача. Назвы п'ес тэатры стараюцца даць так, каб яны былі не перакладзены, а толькі напісаны беларускімі літарамі. Дарэчы, Тэатр оперы і балета ніяк не можа ўзбіцца на арыгінальны рэпертуар, пераклады лібрэта класічных опер не робіцца. Спевакі, артысты філармоніі, чытальнікі занядбалі беларускі рэпертуар. Можна пачуць, што такога рэпертуару няма. Няпраўда, ёсць і песні, ёсць і танцы, ёсць і творы для чытання. Трэба працягнуць руку і ўзяць. А пачні шырэй выконваць, дык і рэпертуар пашырыцца, будзе больш ахвоты працаваць у стваральніку яго.

Студыя "Беларусьфільм" здымае фільмы на рускай мове, а потым дубліруе іх на беларускую. Такім шляхам нацыянальную кінематаграфію не створыш. Дарэчы, дубліраваныя фільмы не з'яўляюцца на экранах сталіцы, дзе і як яны ідуць, невядома.

Што ж мы маем у галіне народнай асветы? У вузах, тэхнікумах, школах выкладанне не вядзецца па-беларуску, наша мова выкладаецца кепска, так, што робіцца нялюбым прадметам. Беларускіх школ мала, яны размешчаны на ўскраінах, у горшых будынках, у горшых умовах, як бы сумысля, каб малыя дзеці насельніцтва не маглі дабрацца туды. Нават у многіх школах вясковых мясцовасцей беларускага толькі і засталося, што паржавелыя шыльды над ганкам. Кажуць, што супраць беларускай школы з'яўляюцца пратэсты насельніцтва. Я і мае таварышы-літаратары атрымліваем таксама абразлівыя пісьмы за абарону мовы, за работу на ёй. Трэба добра разабрацца, хто гэта піша. Праўда, разбірацца цяжка, бо пішуць ананімы. Ці выражаюць гэтыя пісьмы сапраўдную волю і жаданне народа? Можа, сапраўды наш народ раптам перастаў любіць сваю мову? Не, гэтага не было і не можа быць! Прыслухайцеся да жыхароў гарадскіх ускраін і рабочых пасёлкаў, да калгаснікаў: у іх вуснах гучыць чыстая прыгожая беларуская мова. Нікому з іх і ў думку не ўпадзе пратэставаць супраць той мовы, на якой ён гаворыць з маленства. Але ёсць мяшчанская праслойка, якая грэбліва адносіцца да нашай мовы; яна мае ўплыў на недастаткова развітых асоб. На жаль, прыслухоўваючыся да голасу гэтага мяшчанства, і некаторыя людзі з органаў народнай асветы пачынаюць імкнуцца ліквідаваць і беларускую школу і наогул выкладанне мовы ў ёй. Але не волю народа выконваюць яны, блізарукія. Пратэставаць супраць роднай мовы, з аднаго боку, могуць людзі па неразуменні, а з другога -- нашы ворагі...

У чым жа прычына сягоннишняга становішча з мовай?

У пэўны час -- ці трэба тлумачыць, калі і чаму гэта было? -- вялікая група інтэлігенцыі перастала карыстацца сваёю мовай. Абазвацца па-беларуску тады -- значыла зарабіць ярлык нацыяналіста.

...Дык вось, баючыся быць пакаранымі без віны, людзі пакідалі гаварыць па-беларуску, а потым, натуральна, пакрысе і забывалі мову. Гэтак было са старэйшымі. Моладзь, падрастаючы, пачала ўжо нігілістычна адносіцца да мовы: нашто яе вывучаць, калі яна не мае практычнага прыстасавання, не ўжываецца для выкладання, для перапіскі, не гучыць на сходах...

На жаль, не было зроблена ніякіх крокаў, каб выправіць гэты крэн ад свае мовы. Вымушаны выпадковымі і нездаровымі абставінамі адыход інтэлігенцыі ад беларускай мовы пачаў няправільна разумецца як наогул нелюбоў да яе народа, нежаданне ёю карыстацца. З гэтага неразумення і вынікла тое, што ўжыванне беларускай мовы паступова змяншалася.

Ці не выступаю я такім чынам супраць ужывання і пашырэння рускай мовы? Не. Руская мова -- гэта шырокая брама ў культуру рускага народа, народаў нашай Радзімы і ўсяго свету. У маладосці мяне выхоўвалі Пушкін і Крылоў, Дабралюбаў і Чарнышэўскі.... Мільёны маладзейшых людзей нашай рэспублікі назавуць гэтых самых настаўнікаў.... Ці не даволі разважаць і перайсці да канкрэтных прапаноў? Становішча мовы ў рэспубліцы патрабуе паляпшэння. Я не думаю аб нейкіх адміністрацыйных загадах, смешна было б беларусізаваць беларускую рэспубліку. Усю справу можа вырашыць добры прыклад. Лягчэйшым за ўсё іншае мне здаецца такі шлях. У нас праводзіцца шмат рэспубліканскіх нарад, урачыстасцей, сьвяткаванняў. На іх выступаюць з дакладамі адказныя работнікі, якія ведаюць беларускую мову. Вось няхай бы гэтыя даклады рабіліся па-беларуску. Гэта задавала б тон і паказвала павагу да мовы з боку кіраўніцтва рэспублікі. Добры прыклад пяройдзе ў вобласць, а затым і ў раён. А то ж сапраўды нецікава атрымліваецца, што сакратары райкамаў і старшыні выканкамаў гавораць з народам не на яго мове. Мне думаецца, што такім шляхам можна дасягнуць большага кантакту і ўзаемаразумення.

Другое. Такія ўстановы, як Міністэрства культуры, Міністэрства асветы, могуць і павінны весці сваю работу па-беларуску. Калі беларускаю моваю загавораць міністры і іх шматлікія наменікі, пачнуць праводзіць на гэтай мове пасяджэнні, пісаць, дык можна мець пэўнасць, што справа пойдзе на лад.

Само сабой зразумела, што ніякай цяжкасці не складае і карыстанне мовай у творчых арганізацыях мастакоў, кампазітараў, у тэатрах. Укараненне мовы ў Акадэміі зробіць уплыў на ўкараненне яе ў навучальных установах. Выкладанне самой мовы і асноўных прадметаў на ёй справа не цяжкая. Кадры ёсць, падручнікі ёсць -- трэба толькі паваротлівасць Міністэрства. Вядома, што колькасць беларускіх школ павінна быць павялічана і ўмовы ў іх павінны быць добрымі.

Я не майстар рабіць прапановы, іх трэба пашырыць і паглыбіць. Аб усім гэтым неабходна добра і ўважліва памеркаваць. ЦК знойдзе адпаведныя метады і сродкі. Пачаў жа я гэтую гаворку таму, што не мог не пачаць, таму, што адчуваю гэта сваім абавязкам перад партыяй і народам.

*Якуб КОЛАС.* 25.У.1956 г.

****************************************************



**Вітаем а. прот. Максіма Таўпеку з Канады з 86-цігодзьдзем жыцьця! Жадаем яму добрага здароўя і ўсяго найлепшага. Многія Лета! а. Максім зьяўляецца чытачом нашае газэты ад самага пачатку...**

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Вячаслаў Селях, 1885-1976 гг.

Да 115-годзьдзя з дня нараджэньня

Старонкі творчай біяграфіі

(Працяг з папярэдняга №)

У час ягонага дырэктарства БДТ-1 увайшоў у лік лепшых тэатральных калектываў СССР. У 1930 г. БДТ-1 павёз на першую ўсесаюзную Алімпіаду тэатраў у Маскве два спектаклі - "Міжбур'е" Курдзіна (рэжысёр Смяянаў) і "Гуту" Кобеца (рэжысёр Міровіч). "... Поспех "Гуты" у Маскве пераўзышоў усе самыя смелыя надзеі - дзяліўся ўражаннямі акцёр А.Глебаў < ... > Ацэнка спектакляў беларускага тэатра маскоўскім друкам пераўзышла ўсе чаканні калектыву і рэжысуры." [xxi] Спектакль "Гута" быў адзначаны ў ліку лепшых на Алімпіядзе. Як дырэктар БДТ-1 В.Селях атрымаў ад старшыні камітэту Алімпіяды Ф.Кона грамату "За вялікія мастацкія дасягненні" нацыянальнага тэатру. Такім чынам, у творчым поспеху калектыву была і частка яго асабістага ўдзела. У якасці прыкладу ўздзеяння дырэктара на мастацкі працэс можна прывесці два загады. У іх гучыць голас дырэктара-артыста, які не толькі па службовых абавязках, а па поклічу сэрца змагаецца з вандалізмам і легкадумнымі адносінамі да культуры і мастацтва.

Першы загад датуецца 6 студзеня 1929 г.:

Загад № 1

< ... >

§ 2

"З прычыны надзвычайна нядбалых часта барбарскіх адносін некаторых працаўнікоў БДТ-1 да музычных інструментаў, асабліва гэта заўважана з боку тых, хто ня мае ніякага дачыненьня да музыкі, - у выніку чаго гэтыя інструменты ў разрабураным стане (піаніна без пярэдніх дошчак, бяз ног, з гразей на струнах, фісгармонія без пакрыўкі, раяль з ломанымі нагамі, і адарванай пэдаляй). < ... > Усім працаўнікам, якія ня ўмеюць іграць на гэтых інструмэнтах і ўсім, хто ня мае ніякага дачыненьня да музыкі, катэгарычна забараняецца іграць на іх, з папярэджаньнем, што ў выпадку парушэньня гэтага загаду і псаваньня, яны будуць адказваць па арт.83 КЗ аб працы. < ... >

Дырэктар В.Селях

Дзелавод А.Лубнеўскі"

Загад № 83

Па Беларускаму Першаму Дзяржаўнаму тэатру

ад 9 кастрычніка 1927 г.

§ 1

"У апошні час некаторыя працаўнікі мастацкага складу пачынаюць карыстацца ў прыватных размовах паміж сабой, як у часе працы, робячы ўзаемныя заўвагі, так і ў часе перапынку - расейскай мовай. Напамінаю, што працаўнікі Беларускага Дзяржаўнага тэатру павінны карыстацца ў сьценах тэатру толькі беларускай мовай, а ў прыватным жыцці гэта таксама абавязкова на сваю-ж карысць, як практыка для сцэны < ... >

Дырэктар В.Селях

Дзелавод А.Лубнеўскі"

Пасля трыўмфу ў Маскве В.Селях быў неўзабаве зняты з пасады дырэктара БДТ-1. Чаму гэта адбылося? Ці таму, што не быў камуністам? А дзяржаўная пасада гэтага патрабавала. Ці таму, што быў запрошаны ў Беларусь "нацдэмамі" і супрацоўнічаў доўгі час з імі? Грамадска-палітычныя абставіны ў пачатку 30-х гадоў рэзка змяніліся ... Ці таму, што не хацеў зняць з рэпертуару БДТ-1 пастаўленыя ў першай палове 1920-х гадоў спектаклі, - "Кастусь Каліноўскі", "Каваль Ваявода", "Над Нёманам", якія ўсе часцей сталі крытыкавацца за "нацдэмаўскую" ідэалогію? Тут ён сапраўды альбо не змог улавіць новыя павеі часу і быць больш асцярожным, альбо праявіў прынцыповасць, якая таксама да дабра не вяла ...

Наступныя тры гады са жніўня 1930 г. па верасень 1933 г. В.Селях працуе загадчыкам Беларускіх Драматычных курсаў (1930-1931 г.г.), з 1932 г. дырэктарам Беларускага тэатральнага тэхнікума, а таксама загадчыкам Беларускага дзяржаўнага тэхнікума сцэнічнага мастацтва, займаецца справамі кааперацыі. Пры яго непасрэдным удзеле вясной 1932 года былі створаны два новыя тэатры - 1-ы Беларускі Вандроўны калгасны тэатр імя Дзяржынскага і Вайсковы тэатр.

Ён па ранейшаму працягвае музычную дзейнасць. У сценах тэхнікума сцэнічнага мастацтва В.Селях арганізуе Дзяржаўны Беларускі рабочы хор і становіцца яго кіраўніком. Добра ведае падзеі пачатка 30-х гадоў музыказнаўца Р.Аладава, дзякуючы свайму бацьку - кампазітару М.Аладаву. Паводле яе успамінаў, В.Селях і яго сябры-аднадумцы, сярод якіх былі Я.Колас, М.Аладаў і інш., не аднойчы сустракаліся і вялі размовы аб развіцці і станаўленні беларускай музычнай культуры, і аб сваім месцы ў ёй. Усе ішло да таго, што В.Селях, мог быць прызначаны дырэктарам тэатра оперы і балета, які быў у той час ужо пабудаваны і адкрыццё якога чакалася ў хуткім часе.

Але марам В.Селяха не было дадзена здзейсніцца.

У 1933 г. ён пакідае радзіму. В.Селях не таму ад'язджае з Беларусі, што не бачыць перспектыў для сваёй кар'еры, якога абыйшлі іншыя, больш учэпістыя прадстаўнікі дзяржаўнай наменклатуры. Па даносу ён павінен быў быць арыштаваны. На шчасце, яго папярэдзілі. У хуткім часе, каб не трапіць у той вялізарны "бальшавіцкі молах" В.Селях быў вымушаны пакінуць Беларусь. Яго шлях быў скіраваны ў знаемы па мінуламу Ленінград. Адсюль пачалося яго дзесяцігадовае блуканне. У Ленінградзе В.Селях спачатку працаваў намеснікам дырэктара опернай студыі імя Рымскага-Корсакава (1933-1934). Быў рэжысёрам Вандроўнай оперы Усерасейскага тэатральнага таварыства (1935-1937). Потым працаваў на Украіне рэжысёрам дома культуры ў Чаркасах (1937-1939), сумяшчаючы пасаду кіраўніка студэнцкімі гурткамі Пединстытута. У 1939 годзе пераехаў у Лугу (Ленінградская вобласць), дзе быў рэжысёрам мясцовага калектыва дома культуры.

Тут В.Селяха і застала Другая сусветная вайна. Фронт хутка наблізіўся да Ленінграду, і Луга была акупавана немцамі. Але ён застаўся ў горадзе. У гэты час ён арганізаваў "... канцэртна-эстрадную групу ў якую ўваходзіў хор у ліку 27 асобаў, камэдыйна-драматычны калектыў з 9 асоб, балет з 8 асоб і домравую аркестру з 12 асоб ..." - цытуецца па: В.Селях-Качанскі "Уласны жыцьцяпіс". Хор пад яго кіраўніцтвам часта выступаў на фронце, пра яго дзейнасць пісала рыжская газета "За Радзіму". У хуткім часе В.Селях атрымаў прапанову пераехаць на радзіму ў Мінск, каб зноў працаваць на карысць беларускай культуры і роднай Бацькаўшчыны. Ён прымае запрашэнне ў чэрвені 1943 года. Гэта было другое пасля дзесяцігадовага перапынку вяртанне дадому, якое пазначала новы пярыяд яго грамадскага і творчага жыцця.

Цікавымі ўспамінамі падзялілася ў асабістым лісце да мяне Галіна Руднік з Мюнхену: "... Дзесці ў 1943 годзе дзед аднойчы кажа: "Галачка, у нас будуць госці. Прыехаў мой вучань (па маладзечанскай семінарыі - С.С.) Вячаслаў Селях зь сям'ей, яны не маюць дзе жыць, пакуль не знойдуць - будуць жыць у нас." < ... > У Менску Вячаслаў Антонавіч працаваў рэжысёрам у тэатры. Новы оперны тэатр (будынак тэатра - С.С.) быў разьбіты. У драматычным тэатры, што на сквэрыку (былы БДТ-1 - С.С.) ставілі і оперы і п'есы. Вячаслаў Антонавіч ня любіў немцаў і быў зацятым антыкамуністам. Характар у яго быў досыць круты. Ён быў чалавек моцнай волі, безкампрамісны, заўседы казаў "праўду-матку" проста ў вочы і нікога й нічога не баяўся ..."

І зноў адразу В.Селях бярэцца за справы мастацкай культуры. Спачатку ён працуе кіраўніком аддзела культуры і мастацтва, а затым кіраўніком гарадскога тэатру ў Мінску, з лютага 1944 года ўзначальвае гарадзкі адзел мастацтва. В.Селях лічыў, што тэатр павінен займаць адно з першых месц, таму што ён перш за ўсе ўздзейнічае ў станаўленні псіхалогіі і паглядах чалавека. Тэатр агітуе, захапляе і хвалюе, абуджае эмоцыі і пачуцці. "... Аддзел прафесійнага мастацтва, якім кіруе ведамы артысты-рэжысёр сп. Вячаслаў Селях, вырашыў за гэты час шмат важных прынцыповых пытаньняў у галіне разьвіцця тэатральнага мастацтва, прагледзеў рэпэртуар Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру, абняў сваім кіраўніцтвам тэатр, вядзе працу ў справе наладжваньня, арганізацыі і удасканальваньня працы ў дамох беларускае культуры, клапоціцца аб павышэньні нацыянальнае рэпертуару і г.д. ..." У гэты час Мінскі гарадскі тэатр, працаваўшы ў памяшканні БДТ-1, аб'яднаў оперную і драматычную трупы. Спектаклі ішлі на беларускай мове. В.Селях, пад кіраўніцтвам якога зацвярджаліся усе рэпертуарныя пляны, выступае з уласнай ідэйна-мастацкай праграмай развіцця нацыянальнага тэатра і ставіць перад трупай пытанне: - "... ачысціць наш побыт, нашае жыццё ад бальшавіцкае спадчыны і перш за ўсё ачысціць псыхалегію таго чалавека, які сфарміраваўся пры бальшывізме ..." У якасці прыклада рэалізацыі гэтай праграмы ён рыхтуе як рэжысёр да пастаноўкі п'есу беларускага драматурга Т.Лебяды "Загубленае жыццё" - драму з жыцця калгаснага сялянства, аб жахах бальшавіцкага панавання, якое карабаціла псіхалогію і маральныя асновы чалавека. Прэм'ера гэтага спектакля павінна была адбыцца ў ліпені 1944 года, але ў Мінск прыйшла Савецкая Армія. Заставацца далей тут значала падпісаць сябе смяротны прыгавор. На захад з Мінска адышоў усяго адзін эшалон - таварны цягнік, у якім В.Селях апынуўся ў Нямеччыне, у Берліне.

У яго жыцці настаў новы этап блукання ўдалечыні ад радзімы. Зноў патрэбна было ўсе пачынаць нанова. Беларускія перасяленцы жылі тады ў палацы Дэльфі. Тут у Берліне пры тэатральна-канцэртным бюро "Вэнэта" В.Селях супольна з вядомым беларускім кампазітарам М.Равенскім і А.Мяленцевым стварыў канцэртна-эстрадную групу "Жыве Беларусь" (1944 г.). Яе склалі 12 асоб, якія ладзілі канцэрты ў лягерах для эмігрантаў. Потым ён апынуўся ў лягеры Міхэльсдорф, каля гораду Чам, што на чэшскай мяжы. У Нямеччыне В.Селях заставаўся захоплены справамі беларускай культуры і нацыянальнага тэатра. У адным з лістоў сябрам ён дзеліца думкамі наконт сваёй працы, мяркуе пра заснаванне народнага хору і драматычнага тэатра-студыі. Распачаць гэтую працу ён планаваў з практычных заняткаў над п'есай, пры падрыхтоўцы якой трэба рабіць тое ж, што рабілі Галубок у сваім вандроўным тэатры, рэжысёр Міровіч і сп. Ждановіч у БДТ-1. В.Селях лічыў пастаноўку п'есы - практычнай вучобай.

На гэты раз сваі планы В.Селях ажыццявіў. Ён арганізаваў Беларускі Драматычны Тэатр імя Ул.Галубка, з трупай якога 28 сакавіка 1948 года ў лягеры Міхэльсдорф паказаў п'есу Т.Лебяды "Загубленае жыццё". "... Вялікая і карпатлівая праца кіраўніка тэатру і шчырая зацікаўленасць удзельнікаў пастаноўкі прынесла нашым гледачам вялікае задавальненьне. Яшчэ раз, на эміграцыі, далёка ад сваей роднай Бацькаўшчыны, перад вачыма гледачоў прайшоў той жах, тэрор, прыгнет і гвалт, які пануюць на "усёй неаб'ятнай". Яшчэ раз гледачы ўбачылі той кашмар, той несправядлівы таталітарны рэжым, які яны самі перажылі ..." Адначасова В.Селях ладзіць канцэрты з якімі выступае ў лагерах Шлягсгайм, Фрайман, Мітэнвальд, Лютэнзее, Рэгенсбург. Вясной 1949 года ён пераехаў з Міхэльсдорфу у другі лагер - Бакнанг, дзе хор пад яго кіраўніцтвам быў запісаны на стужкі. Запісы беларускіх спеваў у яго выкананні потым былі перададзены ў ААН. Хор В.Селяха лічыўся адным з лепшых у амерыканскай зоне (выступаў - на вечары "Дажынак", у Прыне ў школе УМСА, на ІІ-ім Беларускім Кангрэсе і г.д.).

У 1950 годзе В.Селях атрымлівае дазвол і пераязджае ў ЗША, на заўседы пакінуўшы Эўропу. На эміграцыі ён стаў кіраўніком адзелу культуры і мастацтва Выканаўчага органу Беларускай Цэнтральнай Рады. Ва ўзросце 65 гадоў ён у які раз пачынае ўсе зноў. Першыя тры гады ў ЗША В.Селях, каб атрымаць сацыяльнае абяспячэнне, працуе на фабрыцы звычайным рабочым у горадзе Саўнт-Рывер штата Нью-Джерсі.

Можна толькі ўяўляць сабе - якую любоў да тэатра і мастацтва меў В.Селях, каб находзіць магчымасці займацца любімай справай. Праз поў-гады

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



ён заснаваў Беларускую тэатральную студыю, намаганнямі якой, ладзіць на амераканскай зямлі п'есу Ф.Аляхновіча "Шчаслівы муж", потым "Пінскую шляхту" В.Дуніна-Марцінкевіча (1955 г.), у якой сам выконвае ролю Куторгі, "Нясмелы жаніх" (1957 г.), "Дажынкі" І.Кіпрук (1957 г.).[xxx] Працуе рэгентам у царкоўным хоры ў г. Элізабэт.

У гэты ж час В.Селях кіруе Беларускім Нацыянальным хорам, дзейнасць якога мела вялікае значэнне ў нацыянальным жыцці беларусаў на эміграцыі. З'яўляецца адным з аўтараў газэты "Новае Рускае слова" і выкарыстоўвае яе трыбуну для абароны поглядаў беларусаў на аднаўленне незалежнасці радзімы. Ён піша шмат артыкулаў, успамінаў пра мастацкае жыццё на Беларусі, дзеліца вопытам, выказвае свае погляды на развіццё нацыянальнай культуры. Напрыканцы свайго багатага на падзеі і яскравага жыцця В.Селях рыхтуе да выдання "Спеўнік беларускага жаўнера" (выйшаў у свет у 1975 г.). У якім сабраны прыгожыя народныя, бытавыя, нацыянальныя, патрыятычныя і іншыя песні. Зборнік успрымаўся як скарбонка нацыянальнай песні і стаў добрай памяццю самому Вячаславу Антонавічу Селяху, які ўсё жыццё жадаў, каб беларуская нацыянальная культура дасягнула свайго росквіту і атрымала сусветнае прызнанне.

Памёр Вячаслаў Антонавіч Селях 8 жніўня 1976 года ў г.Саўнт-Рывер ЗША, дзе і пахаваны.

Селях Сяргей.

# Год 2015.
# Прыкрая будучыня Расеі

**Прагнозы аналітыкаў разведвальнай супольнасці ЗША** (Н. Слаб.)

*Напрыканцы 2000 г. Нацыянальная рада разведкі ЗША (*National Intelligence Council*) – найвышэйшы аналітычны орган амерыканскай разведвальнай супольнасці – апублікавала даследаванне «Глабальныя тэндэнцыі 2015: дыялог з няўрадавымі экспертамі». У працы над гэтым дакументам, падрыхтаваным пад эгідай ЦРУ, бралі ўдзел, акрамя прафесійных аналітыкаў разведкі, сотні няўрадавых экспертаў з дзесяткаў амерыканскіх навукова-даследчых установаў і буйных карпарацыяў. Можна лічыць, што ён адлюстроўвае шырокі кансэнсус амерыканскай палітычнай эліты наконт перспектываў сусветнага развіцця на найбліжэйшыя пятнаццаць гадоў. Асобны раздзел адведзены Расіі, з якой інтэгруецца Беларусь.*

Расія, на думку амерыканскіх экспертаў, будзе заставацца галоўнай дзейнай асобаю на постсавецкай прасторы, – хоць будучая ўнутраная канфігурацыя Еўразійскага рэгіёну, яго геапалітычная дынаміка і ступень турбулентнасці як усярэдзіне былых савецкіх рэспублік, так і паміж імі ўяўляюцца даволі неакрэсленымі. Адноснае змяншэнне моцы Расіі, а таксама агульны недахоп рэсурсаў абмяжоўваюць яе здатнасць дыктаваць сваю волю суседзям.

Унутраныя праблемы новых незалежных дзяржаваў застануцца вельмі сур'ёзнымі: неэфектыўнасць структурных эканамічных рэформаў, нізкая ў параўнанні з заходнімі стандартамі прадуктыўнасць сельскай гаспадаркі, дэградацыя навакольнага асяроддзя. Захаваецца высокі ўзровень карупцыі і арганізаванай злачыннасці, якую будуць паджыўляць гандаль наркотыкамі, адмыванне грошай і іншыя крымінальныя промыслы.

Расія страціць сваё значэнне вядучай дзяржавы ў гэтым рэгіёне, і да 2015 году Еўразія ператворыцца ў чыста геаграфічнае паняцце, пазбаўленае якіх-колечы палітычных, эканамічных або культурных рэаліяў, якія б яго аб'ядноўвалі. Масква і яе найбліжэйшыя заходнія суседзі, працягваючы арыентавацца на Еўропу, будуць фактычна заставацца па-за ёю. Дзякуючы геаграфічнай блізіні і культурнаму сваяцтву Каўказ у палітычным плане зблізіцца перадусім з сумежнымі дзяржавамі, а былыя савецкія сярэднеазіяцкія рэспублікі – з Паўднёвай Азіяй і з Кітаем.

Цяжкім грузам, лічаць амерыканскія аналітыкі, будзе ціснуць на Расію і цяжар савецкай эканомікі. Разбурэнне яе інфраструктуры стане яшчэ адным фактарам, які пагоршыць становішча краіны. Працяглае занядбанне праблемаў аховы навакольнага асяроддзя і падзенне ўзроўню аховы здароўя ў спалучэнні з такімі сацыяльнымі выдаткамі пераходнага перыяду, як алкагалізм, наркаманія і сардэчна-сасудзістыя захворванні, скароцяць колькасць насельніцтва. Паводле прагнозаў, да 2015 году ў Расіі будуць жыць 130–135 мільёнаў чалавек (цяпер – 146 млн.).

У макраэканамічных маштабах тэндэнцыя зніжэння валавага нацыянальнага прадукту (ВНП) Расіі, верагодна, спыніцца. Але краіне наўрад ці ўдасца да 2015 году інтэгравацца ў сусветную фінансавую і гандлёвую сістэму. Нават паводле самых аптымістычных сцэнарыяў, якія прадугледжваюць 5% гадавога эканамічнага росту, патэнцыял РФ будзе складаць усяго 20% ад амерыканскага.

У працы аналітыкаў разведсупольнасці ЗША багата сцэнарыяў будучыні расійскай дзяржавы: ад дэмакратычнага адраджэння да поўнага распаду. Аднак, як лічаць за акіянам, агульная тэндэнцыя мае напрамак да аўтарытарызму, хоць і не ў такім экстрэмальным выглядзе, які быў характэрны для савецкага перыяду. За гэткі шлях развіцця, на думку амерыканскіх даследчыкаў, прамаўляюць: асабістая прыхільнасць прэзідэнта Пуціна да іерархічнай сістэмы кіравання з Масквы; падтрымка насельніцтвам гэтага курсу як альтэрнатывы дэзарганізацыі грамадства, што існавала ў перыяд пераходу ад савецкай сістэмы; здатнасць кіраўнічай эліты бескантрольна трымаць уладу з прычыны адсутнасці колькі-небудзь эфектыўнай апазіцыі; працяг працэсу пераразмеркавання падатковых рэсурсаў з рэгіёнаў у цэнтр.

Гэтая тэндэнцыя да цэнтралізацыі ўлады, лічаць эксперты ЦРУ, адмоўна паўплывае на эфектыўнасць кіравання. У краіне з такімі памерамі і такой разнастайнасцю ўмоваў, як Расія, цэнтралізаванае кіраванне проста немагчымае.

У галіне знешняй палітыкі Масква будзе імкнуцца да аднаўлення страчанага ўплыву ў былых савецкіх рэспубліках на поўдні, наладжвання сувязяў у Еўропе і Азіі і набыцця ролі сур'ёзнага партнёра ў стасунках са Злучанымі Штатамі. Разам з тым унутраныя праблемы не дазволяць Расіі дамагчыся аднаўлення ранейшага статусу вялікай дзяржавы. Як апошняя прыкмета гэтага статусу ў яе застанецца толькі другі па велічыні ў свеце ядзерны патэнцыял.

Вось такія контуры будучыні Расіі бачацца экспертам амерыканскага разведвальнага і палітычнага істэблішменту. Самае галоўнае, з амерыканскага пункту гледжання, тое, што Расія ніколі ўжо не зможа кінуць выклік ЗША. Нават у найгоршым амерыканскім сцэнары Расія згадваецца толькі адзін раз, дый то мімаходзь – у гіпатэтычнай сітуацыі, калі Кітай, Індыя і РФ ствараюць нейкі геастратэгічны саюз як процівагу росту ўплыву Заходняй Еўропы і Злучаных Штатаў.

**************************************************

# Пуцін падбірае ўсё, што кепска ляжыць, - Украіну, Беларусь і Малдову

Вялікі кавалак тэрыторыі Ўсходне-Цэнтральнай Эўропы цяпер рызыкуе быць адарваным ад працэсу агульнаэўрапейскага разьвіцьця толькі для таго, каб зноўку апынуцца ў арбіце Крамлю. Гэтак падае ўплывовае амэрыканскае выданьне "The Wall Street Journal". Украіна, Беларусь і Малдова - з агульнай колькасьцю насельніцтва 65 мільёнаў чалавек - на гэты момант ёсьць мішэнямі расейскай палітыкі, скіраванай на стварэньне групоўкі дзяржаваў з выразным расейскім уплывам. Прэзыдэнт Пуцін і ягонае бліжэйшае атачэньне ачольваюць і каардынуюць гэтыя намаганьні, знаходзячы за апірышчы антыэўрапейскія сілы ў памянёных трох краінах, разьмешчаных у непасрэднай блізкасьці ад межаў NATO й Эўразьвязу.

Паводле "The Wall Street Journal", інструмэнтам для ажыцьцяўленьня сваіх плянаў Крэмль абраў прасавецкага дыктатара Беларусі Аляксандра Лукашэнку, кіроўную Камуністычную партыю Малдовы й некаторыя групоўкі карумпаваных украінскіх алігархаў, на падтрымку якіх Масква імкнецца заваёўваць Камуністычную партыю Ўкраіны. Ажыцьцяўляецца "часовы шлюб па разьліку". Большасьць, хаця й ня ўсе гэтыя сілы, ёсьць саветафільскімі, Большасьць, але ня ўсе, глыбока карумпаваныя, а некаторыя маюць сувязь з арганізаванай злачыннасьцю. За агульную назову гэтых зьяваў праўдзіва падаваць азначэньне "антызаходні карумпаваны аўтарытарызм".

Ува Ўкраіне, якая бачыцца самым галоўным прызам у гэтай няроўнай гульні, адбыліся парлямэнцкія выбары. У выніку непрыхаванага ўмяшальніцтва Крамлю празаходні блёк "Наша Украіна" апынуўся на другім месцы, прайграўшы зь невялікім адрывам прапрэзыдэнцкім сілам у вельмі стракатым украінскім парлямэнце.

У гэтай сытуацыі Камуністычная партыя Ўкраіны стала незаменнай для Крамлю, які намагаецца аб'яднаць арыентаваных на Расею парлямэнтароў у парлямэнцкую большасьць. Пуцін нават прыняў у Крамлі лідара камуністаў Пятра Сыманэнку. Зрэшты, альянс пракрамлёўскіх алігархаў з камуністамі мае ў Кіеве прэцэдэнт. Крыху за год таму саслаблы прэзыдэнт Кучма, саступаючы ціску, пагадзіўся на альянс такога кшталту, а таксама на адстаўку пасьпяховага й папулярнага Віктара Юшчанкі з пасады кіраўніка ўраду. Аднак пэрспэктывы пасьля выбараў не нагэтулькі змрочныя, як можа здавацца на першы погляд, - піша "The Wall Street Journal". Праэўрапейскія, а па-сутнасьці праNATOўскія палітычныя сілы ёсьць у некалькіх партыях, у тым ліку й у некаторых частках прапрэзыдэнцкага блёку "За єдину Україну".

Перад Захадам стаіць задача працягваць працу з гэтымі ўкраінскімі групоўкамі замест таго, каб лічыцца зь лёзунгам Масквы на конт таго, што Расеі й Украіне варта ўваходзіць у Эўропу разам, абіраючы тэмп уваходжаньня самастойна. Пры такім падыходзе Ўкраіна назаўсёды апынулася б прывязанай да Расеі.

У Беларусі адзінаасобнае кіраваньне Аляксандрам Лукашэнкам і ягоная эксплюатацыя настальгіі па савецкіх часох гарантуе прарасейскую арыентацыю нашае краіны. У верасьні летась Уладзімір Пуцін і ягоны апарат надзвычай моцна паспрыялі Лукашэнку, падтрымаўшы яго ў часе пераабраньня на пасаду прэзыдэнта Беларусі.

Захад ужывае да Лукашэнкі астракізм за ягоныя дыктатарскія паводзіны. Зрэшты, і сам Лукашэнка да глыбіні душы варожы Захаду. Ён можа разьлічваць на сымпатыі выключна ў такіх месцах, як Пэкін, Багдад і Гавана.

Уладзімір Пуцін ёсьць толькі апошнім у цэлым шэрагу расейскіх кіраўнікоў, якія аказвалі Лукашэнку палітычную падтрымку ў супрацьстаяньні беларускай дэмакратычнай апазіцыі. У міжнародных арганізацыях Расея заняла пазыцыю адзінага адваката Лукашэнкі.

Расейская палітыка перасьледуе ў Беларусі тры асноўныя мэты: стварэньне буфэру на парозе NATO; утварэньне "саюзнай дзяржавы" Расея-Беларусь - з гарантыямі, што Беларусь самастойна ня пойдзе ў Эўропу; забесьпячэньне магчымасьці для расейскага капіталу прыватызаваць дзяржаўныя активы Беларусі. Дэмакратычныя партыі Беларусі, якія знаходзяцца ў цяжкім стане, выступаюць супраць усіх трох пералічаных мэтаў.

У Малдове Крэмль абараняе адзіны ў Эўропе камуністычны рэжым ад мірных дэманстрацыяў пратэсту, якія ладзяцца ў Кішэнэве чацьвёрты месяц запар. Крэмль жадае выкарыстаць Малдову ў якасьці буфэру супраць NATOўскай Румыніі.

Усе пералічаныя факты ілюструюць існаваньне стратэгіі, якая абапіраецца на саветафільскія, аўтарытарныя й антырынкавыя сілы - з тым, каб максымальна пашырыць уплыў Расеі ў той частцы Эўропы, якая ў хуткім часе стане ўсходнім суседам NATO й Эўразьвязу. Тым часам сп. Пуцін выкарыстоўвае эўрапейскія лёзунгі: ён відавочна, робіць стаўку на тое, што Захад праігнаруе падтрымку Крамлём антыэўрапейскіх сілаў у гэтай значнай частцы Эўропы. (R.R.)

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

# ПРЭМ'ЕР-МІНІСТАР ЧЭХІІ ЛІЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ "ПАЛІТЫЧНЫМ МУЗЭЯМ"

*"Беларусь, у некаторым сэнсе, зьяўляецца "палітычным музэям", -- заявіў кіраўнік ураду Чэхіі Мілаш Зэман падчас свайго візыту ў Беларусь. Адным з элементаў гэтага музэю, паводле ягоных словаў, зьяўляецца наяўнасьць у краіне двух бюджэтаў – аднаго для грамадзкасьці і другога, вядомага толькі ўладзе. Зэман лічыць, што ў Беларусі вельмі складанае становішча, якое можа скончыцца сацыяльным выбухам.*

Кіраўнік чэскага ўраду знаходзіўся ў Беларусі і ў складзе дэлегацыі Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу, у якім ачольвае камітэт па пытаньнях міру, бясьпекі і правоў чалавека. Дэлегацыя Соцінтэрну, якую запрасіла беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная Грамада", правяла перамовы з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі, сустрэлася са сваякамі зьніклых беларускіх палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў.

Кіраўнік чэскага ўраду так і не сустрэўся ў Менску з прадстаўнікамі ўладаў Беларусі. Ён паведаміў журналістам, што напярэдадні візыту беларуская амбасада ў Празе шэсьць разоў зьвярталася да яго зь ініцыятывай сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам у фармаце "сам насам". Аднак, паводле словаў Зэмана, ён даў згоду на сустрэчу з Лукашэнкам толькі ў тым выпадку, калі ў ёй будзе прымаць удзел уся дэлегацыя Соцінтэрну, уключна зь лідэрам "Народнай Грамады" Мікалаем Статкевічам. Сустракацца са Статкевічам, умоўна асуджаным на два гады зьняволеньня за ўдзел у акцыях пратэсту, Лукашэнка не захацеў.

==========================================

# КХП БНФ за скліканьне Ўсебеларускага зьезду

**КХП БНФ прыняла заяву ў абарону беларускай мовы, у якой заклікала ініцыяваць правядзеньне Ўсебеларускага зьезду ў абарону роднай мовы і беларускай нацыі, а таксама новых прэзыдэнцкіх выбараў пад міжнародным пратэктаратам.** На думку кіраўніцтва партыі, расейская мова павінна быць пазбаўлена статусу дзяржаўнай, а беларуская мусіць запанаваць ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця. Заява заклікае грамадзян Беларусі, а таксама акрэдытаваных у ёй дыпламатаў і міжнародныя арганізацыі карыстацца ў дачыненьнях з уладамі толькі беларускай мовай.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Дасьледчык акупацыі

*Гутарка з Юр'ем Туронкам з нагоды выхаду ягонай новай кнігі "Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939—1944)"*

## Кветкі ў рулях

**"НН": Вашае дзяцінства прыпала якраз на міжваенныя гады. Што Вам найбольш запомнілася з тых часоў?**

**Юры Туронак:** Зьмены ўлады. Нарадзіўся я 26 красавіка 1929 г. у мястэчку Дукшты Сьвянцянскага павету Віленскага ваяводзтва (цяпер гэта Ігналінскі раён Літвы). Аднак мястэчка не магу назваць сваёй радзімай. Бацька, Браніслаў, паходзіў зь Дзісеншчыны, а маці, Марыяна, — зь Беласточчыны. У Дукштах сям'я пасялілася ў 1928 г., калі бацька атрымаў пасаду раённага лекара. Навокал Дукштаў пераважалі літоўскія вёскі, жылі й стараверы. У мястэчку больш за палову жыхароў складалі жыды, а астатнюю частку — літоўцы, палякі, расейцы-стараверы і вельмі мала беларусаў.

У верасьні 1939 г. у Дукшты прыйшла Чырвоная Армія, а ў канцы кастрычніка яны адыйшлі да Літвы. У чэрвені 1940 г. зноў прыйшла Чырвоная Армія. Праз год — немцы. У нашай хаце панавала беларуская атмасфэра — кнігі, часопісы, "візыты" (бацька быў дзеячом беларускага нацыянальна-вызвольнага руху), а характар вуліцы мяняўся ў залежнасьці ад пануючай улады. На пачатку лістапада 1939 г., калі Дукшты разам зь Вільняй адыйшлі да Літвы, аднавіліся заняткі ў школе, цяпер ужо літоўскай. І я перажыў немалы шок, калі даведаўся, што тры чвэрці маіх аднаклясьнікаў раптоўна "забыліся" польскую мову. Давялося і мне хуценька вучыць літоўскую.

Шторазу са зьменай улады ў школе вывешвалі новыя партрэты: спачатку быў Пілсудзкі, потым — Сьмятона, за ім — Ленін, пасьля — Гітлер. Цікава было назіраць, як насельніцтва сустракала новую ўладу. У верасьні 1939 г. Чырвоную армію віталі з хлебам і сольлю, з партрэтамі Леніна і нават Інтэрнацыяналам. Літоўскіх салдатаў сустракалі больш сьціпла. А немцаў у 1941 г. сустракалі з энтузіязмам. Якраз пачаліся арышты "ворагаў народу", і з Дукштаў ужо адыйшлі два эшалёны ў Сібір. А трэці не пасьпеў, і немцы ў літаральным сэнсе яго вызвалілі.

**"НН": Ці розьнілася Вашае стаўленьне да нямецкай улады ад стаўленьня да ўсіх іншых?**

**Ю.Т.:** Мне ў 1941 г. было 12 год, і мяне цікавілі ня лёзунгі, а толькі выгляд і паводзіны штораз іншага войска. Вайна для мяне пачалася не ў 1941 г., а ў 1939 г. У 1939—42 г. я працягваў вучыцца ў Дукштанскай пачатковай школе, а ў 1942—45 г. — у літоўскай гімназіі ў Вільні. Мяне вызвалілі ад аплаты за вучобу, жыў у інтэрнаце, там і харчаваўся. Голаду не адчуваў: акрамя інтэрнацкай сталоўкі, меў прадуктовую картку, якую можна было рэалізаваць у віленскіх крамах. Вучыліся, хадзілі ў кіно, на танцы да дзяўчат. Палітычнымі падзеямі я амаль не цікавіўся, адно сачыў за рухам франтоў.

Першы дзень акупацыі Дукштаў я добра запомніў. Ішлі маладыя хлопцы, а насельніцтва сустракала іх кветкамі. Тыя жаўнеры ўтыркалі кветкі ў рулі аўтаматаў, так і йшлі па мястэчку. А ўвечары адзін жаўнер іграў на вуліцы на акардэоне, і каля яго сабралося багата мястэчкоўцаў. Падышоў і адзін старавер, у расшытай кашулі, зь велічэзнай барадой. Стаіць і слухае. Жаўнер кінуў позірк і зайграў "*Матушку Волгу*". У старавера ажно сьлёзы пырснулі з вачэй.

А ў ліпені 1944 г. прыйшла савецкая ўлада. Памятаю, адзін танкіст узьлез на бочку і распавядаў нам пра нашыя пакуты пад нямецкай акупацыяй, што выклікала іранічнае зьдзіўленьне.

**"НН": Як Вы апынуліся пасьля вайны ў Беластоку?**

**Ю.Т.:** Мая маці вырашыла вярнуцца на Беласточчыну яшчэ ў 1938 г., калі памёр мой бацька, але пераехаць удалося толькі пасьля выгнаньня немцаў. У Беластоку я вучыўся ў ліцэі. І вось выклікае мяне настаўнік гісторыі распавесьці пра Грунвальдзкую бітву. Я і распавёў, як вучылі ў літоўскай гімназіі: пра мужнага Вітаўта і Ягайлу, які ўвесь час маліўся. Калі я скончыў, уся кляса разам з настаўнікам рагатала. Я атрымаў двойку. Такім чынам да дукштанска-віленскіх назіраньняў далучыўся яшчэ крытыцызм да "гістарычных ісьцінаў", фабрыкаваных паклоньнікамі "гістарычнай праўды". Гэты крытыцызм застаўся на ўсё жыцьцё.

## Хімія й гісторыя

**"НН": Гісторыя ёсьць Вашай спэцыяльнасьцю?**

**Ю.Т.:** Не. Атрымаўшы ў 1952 г. дыплём магістра эканамічных навук, я некалькі гадоў адпрацаваў на імпартна-экспартным прадпрыемстве хімічных вырабаў. Адначасова выкладаў на катэдры эканамічнай геаграфіі Вышэйшай школы плянаваньня і статыстыкі ў Варшаве. Першая праца была мэханічная, чыноўніцкая, а другая — казкі пра сталінскія пляны пераўтварэньня прыроды і да т.п. А мяне цікавіла сур'ёзная праца. І на пачатку 1956 г. я пакінуў тыя ўстановы й пайшоў працаваць у Польскую замежнагандлёвую палату, у межах якой неўзабаве была створаная газэта "Замежныя рынкі". У ейнай рэдакцыі адпрацаваў 40 гадоў, вывучаў каньюнктуру хімічных рынкаў. Надрукаваў шмат артыкулаў і распрацоўкаў, нават выдаў кнігу "Польшча на міжнародным хімічным рынку" (1972). Шмат гадоў удзельнічаў як дэлегат ад Польшчы ў працы Камітэту хімічнай прамысловасьці Эўрапейскай эканамічнай камісіі ў Жэнэве, а таксама ў арганізацыі некалькіх гаспадарчых выставаў у розных краінах Эўропы, у тым ліку і ў Беларусі.

**"НН": Як хімік-экапаміст стаўся гісторыкам?**

**Ю.Т.:** У 1956 г. ў Польшчы паўстала Беларускае грамадзка-культурнае таварыства. Я быў шмат гадоў старшынём яго Варшаўскага аддзяленьня, кіраўніком Навуковага гуртка таварыства. Тут і акрэсьлілася цікавасьць да гісторыі. Папершае, хацелася высьветліць пытаньні, якія замоўчваліся ці фальсыфікаваліся пасьляваеннай гістарыяграфіяй і публіцыстыкай. Таму й заняўся распрацоўкай гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне падчас нямецкай акупацыі, напісаў артыкул аб беларускай школе ў Варшаве (1942—44) і дасьледаваньне "Беларускае пытаньне ў палітыцы лёнданскага лягеру 1941—44". У Інстытуце гісторыі польскай Акадэміі навук мне прапанавалі дысэртацыю "Беларусь пад нямецкай акупацыяй", за якую ўзяўся з ахвотай і зацікаўленьнем.



## "Імглісты геаграфічны панятак"

**"НН": У гісторыі другой сусьветнай багата недасьледаваных пытаньняў. Чаму Вашую ўвагу прыцягнула менавіта кнігавыдавецкая справа?**

**Ю.Т.:** Кнігадрукаваньне і выпуск пэрыядычных выданьняў былі найбольш істотным і вымяральным паказчыкам нацыянальнага руху.

Кнігавыдавецкая справа часу вайны зьяўляецца працягам маіх дасьледаваньняў несавецкай, ці, дакладней, недзяржаўнай выдавецкай дзейнасьці ў першай палове XX ст. У параўнаньні з усімі суседнімі краінамі беларускія кнігі пачалі выдавацца позна, выходзілі марудна, пры сьціплым інтэлектуальным патэнцыяле творцаў і малым попыце чытачоў, што, у сваю чаргу, абумоўлівала іх наклады. Выпуск і распаўсюд кніг — цікавае адлюстраваньне нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Можна гэтаму пытаньню прысьвяціць адмысловую публікацыю, абапіраючыся на вынікі маіх шматгадовых дасьледаваньняў, або перавыдаць мае працы ў адной кнізе. Адно баюся, што на гэта ня хопіць ні часу, ні сілаў.

**"НН": У зьвязку з кнігавыдавецкай дзейнасьцю, як Вы ацэньваеце значнасьць і сілу беларускага нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі?**

**Ю.Т.:** Цяжка адказаць на гэтае пытаньне адным словам. У 30-я паход супраць беларускага нацыяналізму ў БССР паўплываў на абыякавае стаўленьне нацыянальнай палітыкі ўрадаў Польшчы і Латвіі. У выніку напярэдадні другой сусьветнай вайны беларускае пытаньне было практычна незаўважнае ў Эўропе. Калі ў першую сусьветную вайну для нямецкіх палітыкаў і гісторыкаў Беларусь была "невядомай краінай", то праз 20 гадоў генэральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ ацэньваў яе ня больш як імглісты геаграфічны панятак.

У 1941 г. нямецкія цывільныя і ваенныя ўлады сустрэлі ў Беларусі парадаксальную пасіўнасьць і нацыянальную абыякавасьць мясцовага насельніцтва. Створаныя на пачатку акупацыі беларуская адміністрацыя і паліцыя мелі пераважна небеларускі характар і лёгка паддаваліся ўплыву савецкага ці польскага падпольля. Аднак стаўка Кубэ на беларускі нацыяналізм рабіла сваё, і зь вясны 1942 г. становішча пачало мяняцца. Гэтаму спрыяла беларуская адміністрацыя, прэстыж беларускай мовы як дзяржаўнай, дзейнасьць Беларускай народнай самапомачы, самаахovы, Саюзу беларускай моладзі, Рады даверу і Беларускай цэнтральнай рады. Як сьведчыць архіўная дакумэнтацыя, прагрэс беларускага нацыяналізму непакоіў савецкае і польскае падпольле, якое крывава распраўлялася зь беларускімі дзеячамі. Адзнакай росту нацыянальнай сьвядомасьці ёсьць тое, што ў чэрвені 1944 г. дзясяткі тысячаў жыхароў Беларусі выбралі незайздросны лёс выгнанцаў замест бальшавіцкага "вызваленьня".

## Не калябарацыя

**"НН": У такім выпадку, ці правамоцны да беларускіх дзеячоў часоў вайны тэрмін "калябаранты"? І наколькі арыентацыя на Нямеччыну была на той час апраўданая?**

**Ю.Т.:** Калябарацыяй звычайна называюць супрацоўніцтва з ворагам на шкоду сваёй дзяржаве і народу. Пры такім разуменьні калябарацыя ня можа быць апраўданай, яна карaецца як здрада радзіме. Асноўнай мэтай беларускіх нацыянальных дзеячоў было стварэньне перадумоваў для аднаўленьня ў спрыяльны момант ліквідаванай бальшавікамі дзяржаўнасьці. Першачарговай задачай лічылася абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці народу, арганізацыя беларускай адміністрацыі і войска. Такія памкненьні былі непрымальныя для Савецкага Саюзу, яны ігнараваліся ягонымі саюзьнікамі — ЗША і Вялікай Брытаніяй. А таксама польскім эміграцыйным урадам, зацікаўленым у аднаўленьні Рыскай дамовы і ў падзеле Беларусі.

Спробы нацыянальных дзеячоў аднавіць незалежную дзяржаву, якая павінна была забясьпечыць інтарэсы беларускага народу, ніяк нельга лічыць калябарацыяй у вышэйакрэсьленым сэнсе. Іх стаўленьне да Нямеччыны можна трактаваць як нармальнае супрацоўніцтва ў галіне палітыкі. Такое супрацоўніцтва было ж прымальным для СССР у 1939—41 г., калі яно адпавядала ягоным інтарэсам.

**"НН": Дык у чым тады прычына настолькі рознага стаўленьня ў беларускай гістарыяграфіі да нацыянальнага руху часоў вайны?**

**Ю.Т.:** Тое, што ацэнкі бываюць розныя, — гэта нармальна. Такое права аўтараў. На падставе тых шматлікіх публікацыяў, якія атрымліваю, складваецца ўражаньне, што за апошнія дзесяцігодзьдзе беларуская гістарыяграфія зрабіла значны прагрэс у вывучэньні розных аспэктаў жыцьця пад нямецкай акупацыяй, у тым ліку і ў вывучэньні дзейнасьці нацыянальных арганізацый. Выяўляюцца і публікуюцца новыя факты, дакумэнты, апрацоўваюцца біяграфіі. Заўважаецца таксама, што стаўленьне гісторыкаў і публіцыстаў да дзеячоў той пары стала менш эмацыйным, а больш аргумэнтаваным, культурным. Нават у выпадку нэгатыўнай ацэнкі. На гэтым фоне бессэнсоўнае тое, што робіцца на заказ. Бессэнсоўна ганьбаваць нацыянальную сымболіку толькі таму, што яна выкарыстоўвалася ў гады акупацыі. Сёньня над Крамлём лунае сьцяг, якім карысталіся ўласаўцы, і ніякі нармальны чалавек цяпер не аплёўвае таго сьцяга.

**Запісала Натальля Гардзіенка**



© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Гавары са мной па-беларуску

Не сьціхаюць спрэчкі вакол статусаў беларускае й расейскае моваў у нашай краіне. Супрацоўнік Адміністрацыі прэзыдэнта Эдуард Скобелеў нядаўна абвесьціў, што дэклараваныя роўныя правы расейскае й беларускае моваў "не только не разрушают белорусскую культуру, но и стимулируют ее развитие и предохраняют от загнивания и растворения в ядовитом дерьме массовых ценностей". А пытаньне пра становішча беларускае мовы, на ягоную думку, шмат гадоў скарыстоўваецца ў палітычнай барацьбе супраць улады. У сваю чаргу, менавіта пра дыскрымінацыю беларускае мовы заявіў днямі Беларускі Гэльсынскі камітэт. І кіраўніца Камітэту Тацяна Процька таксама ўпэўненая, што "языковой вопрос стал в Беларуси политическим". Яна даводзіць: у грамадзтве склалася сытуацыя, калі кожны беларускамоўны сутыкаецца з нэгатыўнай рэакцыяй расейскамоўных насельнікаў. Таварыства беларускае мовы тым часам крок за крокам рупіцца пра пашырэньне сфэры выкарыстаньня нацыянальнае мовы.

Паводле Эдуарда Скобелева, палітычныя апанэнты Аляксандра Лукашэнкі ніколі не прызнаюць дастатковасьці намаганьняў кіраўніка дзяржавы па забясьпячэньні развіцьця беларускае мовы - нават калі б ён патраціў на гэта палову бюджэту. Пісьменьнік, які піша свае кнігі па-расейску пераканаўы, што Аляксандар Лукашэнка прапанаваў "единственно спасительные приоритеты" -ураўняў статус беларускае й расейскае моваў.

Факты, праўда, сьведчаць пра адваротнае. Але тое, што, да прыкладу, беларускіх школ ізноў засталося лічаныя адзінкі, пад увагу не бярэцца. Што тычыцца дапамогі расейскае мовы ў захаваньні беларускае культуры ад "ядовитого дерьма массовых ценностей", як памянуў супрацоўнік прэзыдэнцкае Адміністрацыі, дык менавіта ў расейскай мове ствараецца цяпер самая магутная плынь, мякка кажучы, надзвычай нізкаякасных шлягераў і бэстсэлераў.

Можна, вядома, ігнараваць, тую ж расейскую "папсу". Але пасажыры беларускіх цягнікоў робяцца сапраўднымі закладнікамі густаў праваднiц. Таварыства беларускае мовы, прынамсі, ведае, як направіць гэтую сытуацыю. Расказвае супрацоўнік ТБМ Сяргей Кручкоў.

**С.К.:** - Мы рыхтуем некалькі музычных зборнікаў сучасных беларускіх выканаўцаў на аўдыякасэтах - з мэтаю распаўсюдзіць іх сярод начальнікаў цягнікоў беларускага фармаваньня. Тыя, хто езьдзіць у цягніках, чуюць сьпевы, якія прапануе нам беларуская чыгунка ў беларускіх вагонах. Часам не разумееш, у які цягнік увайшоў. Апроч Апіных і Шляпіных, нікога там не чутно. Таму ў нас узьнікла задума стварыць некалькі зборнікаў і раздаць іх бясплатна: каб хоць часам гучала беларуская песня ў нашых цягніках.

ТБМ вядзе палітыку невялікіх, але канкрэтных справаў. Сёлета сэрыя кішэнных каляндарыкаў, прысьвечаная выбітным асобам беларускае гісторыі, папоўніцца каляндарыкам з выяваю Ігната Дамейкі. 2002 год, паводле ЮНЭСКА, абвешчаны годам Дамейкі - ягоны 200-гадовы юбілей будзе сьвяткавацца ва многіх краінах сьвету. У нас, на жаль, можна згадаць пакуль толькі нэгатыўныя прыклады.

Калі баранавіцкая арганізацыя ТБМ зьвярнулася да мясцовых уладаў з просьбаю стварыць сёлета беларускую школу й надаць ёй імя Ігната Дамейкі, дык адказам было: гэта - нямэтазгодна.

Днямі набыў моц зьменены Закон аб адукацыі. У ім цяпер ёсьць артыкул, за які ТБМ змагалася яшчэ з 96 году: "Сістэма вышэйшай адукацыі забясьпечвае грамадзянам магчымасць навучання на адной з дзяржаўных моваў Рэспублікі Беларусь шляхам стварэння ў ВНУ беларускамоўных і рускамоўных груп (патокаў)".

Патлумачвае Сяргей Кручкоў.

**С.К.:** - Упершыню за ўсю гісторыю незалежнае Беларусі зьявілася магчымасьць у беларусаў і дзяцей, якія скончылі беларускія школы, падоўжыць адукацыю на роднай мове. Прынамсі, гэтага цяпер можна з поўным правам патрабаваць. Хутка мы пачнем працаваць "зьнізу". Студэнцкія суполкі беларускае мовы нас падтрымаюць. ТБМ у студэнцкім асяродку павінна стаць ініцыятарам напісаньня заяваў пра стварэньне такіх груп, існаваньне якіх прадугледжана па законе.

З новага навучальнага году ТБМ пляную рассылаць лісты-запыты рэктарам усіх ВНУ Беларусі з просьбаю расказаць пра захады, якія робяцца згодна з пастановаю Міністэрства адукацыі. Таварыства беларускае мовы бярэцца дапамагчы ў адоленьні перашкодаў, што могуць узьнікнуць са стварэньнем беларускамоўных навучальных плыняў.

У цесным супрацоўніцтве зь ЮНЭСКА Таварыства беларускае мовы пляную правядзеньне ў ліпені сымпозыюму "Разнастайнасьць моваў і культураў у кантэксьце глябалізацыі". Цяпер ТБМ вядзе падрыхтоўку да зладжаньня трох "круглых сталоў".

Першы адбудзецца 24 красавіка ў Доме прэсы - на тэму "Мова ў рэкляме". Наступны "круглы стол" будзе прысьвечаны мэтодыцы выкладаньня беларускае мовы й пройдзе 30 красавіка. І тэма яшчэ аднаго паседжаньня, якое зьбярэцца 13 траўня ва Ўнівэрсытэце культуры, вызначаная гэтак: "Беларуская мова - Інтэрнэт і кампутар".

Як паведаміў нам Сяргей Кручкоў, у бягучым годзе працягваецца псыхалягічны сэмінар "Я магу жыць лепей", што пачаў працаваць ужо гады два таму. Наш зямляк, які жыве цяпер у Амэрыцы, - Вячка Станкевіч - напісаў падручнік з выкладаньнем прынцыпаў гэтага сэмінару.

**С.К.:** - Гэта асновы практычнай псыхалёгіі, якія павінен ведаць кожны сучасны чалавек. Трэба - перш за ўсё - навучыцца правільна вызначаць свае мэты. На нашую думку, праблема беларускага грамадзтва й непасьпяховасьць нашых дзеяньняў у тым, што нашыя людзі ставяць часта перад сабою гэткую вялікую мэту, якой яны ня змогуць дасягнуць ніколі. У той жа час ня робіцца элементарных рэчаў, якія маглі б наблізіць да гэтае агульнае далёкае мэты.

ТБМ зьбіраецца таксама падтрымаць ініцыятыву Валянціны Лемцюговай – старшыні рэспубліканскае тапанімічнае камісіі: назвы многіх беларускіх гарадоў і мястэчак, якія цяпер выкарыстоўваюцца афіцыйна, паводле меркаваньня спадарыні Лемцюговай, страшэнна зьнявечаныя й ня маюць нічога агульнага з назвамі, складзенымі й замацаванымі гістарычна.

**С.К.:** - Я думаю, мы будзем накіроўваць адпаведныя запыты ў Савет Рэспублікі й у Палату прадстаўнікоў, каб правесьці парлямэнцкія слуханьні па гэтым пытаньні. Трэба вярнуцца да тэмы назваў нашых мястэчак і пазбавіцца жахлівых пераназоваў. Напрыклад, колішняе мястэчка Рудабелка за савецкім часам стала называцца Акцябрскам. Такіх назваў у Беларусі - незлічоная колькасьць. Такой зьнявечанай тапанімікі няма ні ў воднай іншай дзяржаве

Гэтакім чынам, асноўныя накірункі дзейнасьці Таварыства беларускае мовы ёсьць вызначальнымі для ўсяе краіны й усяе нацыі. Перадусім ТБМ крок за крокам спрабуе пашыраць сфэру выкарыстаньня беларускае мовы. На гэтым шляху, дарэчы, стае месца й добраму жарту. Прынамсі, менавіта гэтак варта ўспрымаць значак з надпісам "Гавары са мной па-беларуску", які прэзэнтавалі нядаўна ў ТБМ.

**Галіна Жарко** (R. R.)

***************************************************

## *З ЛЁНДАНУ, Англія* ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ...

Больш як паўстагодзьдзя найбуйнейшы цэнтар беларускасьці ў Заходняй Эўропе — Беларуская каталіцкая місія ў Лёндане — служыў і працягвае служыць культурным, рэлігійным, адукацыйным і асьветным патрэбам нашае нацыянальнае супольнасьці. Сёньня сюды прыйшла бяда. Сёньня самому цэнтру патрэбная падтрымка суродзічаў.

Ад самага заснаваньня ў 1947 г., місія была і застаецца ня толькі асяродкам рэлігійнага жыцьця, але таксама месцам захаваньня і ўзгадаваньня духу беларускасьці. Яна — дом для нашых нацыянальных і дабрачынных арганізацыяў, беларускай дзіцячай школкі. Місія — места, куды беларусы на працягу дзесяцігодзьдзяў зьбіраюцца ў дні нашых нацыянальных сьвятаў, дзе ладзяцца лекцыі і навуковыя ды літаратурныя канфэрэнцыі, дзе выдаюцца беларускія кнігі і газэты, робяцца пераклады. У пачатку 1970-х гадоў, сьвятары каталіцкае місіі сталі заснавальнікамі і першымі ахвярадаўцамі Бібліятэкі імя Ф. Скарыны — славутай Скарынаўкі, найбуйнейшага па-за межамі Бацькаўшчыны збору беларускай беларусказнаўчай літаратуры. Багатае і разнастайнае духоўнае і культурнае жыцьцё беларускае супольнасьці ў Брытаніі ды Эўропе немагчыма ўявіць без каталіцкае місіі ды без ахвярнае працы ейнага кіраўніка, а. А. Надсана. У часы, калі беларускае жыцьцё на Бацькаўшчыне знаходзіцца пад ціскам, Лёнданскі асяродак застаецца адным з апірышчаў нацыянальнага духу.

Сэрцам Беларускае місіі ды рэлігійна-культурнага цэнтру ў Лёндане зьяўляецца *Марыян Гаўз* (Марыйны дом)— дом, што месьціць царкву сьв. Апосталаў Пятра і Паўла. Тут ужо больш за 50 гадоў творыцца штодзённая малітва за нашую Бацькаўшчыну і народ, тут гучыць Боская Літургія па-беларуску, тут беларусы вянчаюцца, хрысьцяць дзяцей, адпяваюць памёрлых, сюды прыходзяць памаліцца шматлікія госьці з Беларусі і дыяспары. Гэты будынак быў набыты на ахвяраваньні беларусаў усяго сьвету. У цяжкія паваенныя часы, апынуўшыся на чужыне, людзі часта аддавалі апошняе, бо верылі, што гэтым засноўваюць сталы беларускі асяродак. Доўгі час таямніцай для ўсіх нас быў факт, што *Марыян Гаўз* тады ня стаў маёмасьцю беларусаў. У выніку маніпуляцыяў і насуперак волі ахвярадаўцаў, ён перайшоў ва ўласнасьць структураў Каталіцкай царквы ў Ватыкане. Цяпер Кангрэгацыя *Ўсходніх* цэркваў, якая заяўляе правы на Марыян *Гаўз*, патрабуе высяленьня з яго беларускае місіі і царквы.

Страта *Марыян Гаўз* будзе мець трагічныя і незваротныя наступствы. Лёнданская місія — сымбаль і ўнікальны прыклад яднаньня нацыі без штучных канфэсійных падзелаў — атрымае ўдар, ад якога ёй будзе цяжка падняцца. Нашая супольнасьць у Брытаніі глыбока абураная рашэньнем царкоўных уладаў, якое сьведчыць пра ігнараваньне Ватыканам інтарэсаў і духоўных патрэбаў беларусаў. Мы робім розныя захады, каб зьмяніць сытуацыю. Нам неабходная, аднак, дапамога нашых многіх суродзічаў на Беларусі ды ў іншых краінах. Мы верым, што салідарныя намаганьні многіх беларусаў могуць прынесьці станоўчы плён.

Калі вы хочаце дапамагчы ў справе ўратаваньня *Марыян Гаўз*, дасылайце лісты кіраўніку Кангрэгацыі Ўсходніх цэркваў, кардыналу Ігнацыю Мусу Давуду на адрас:

Sua Eminenza Cardinale Ignace Moussa Daoud
Prefetto della Congregazione per le Chiese Orientali
00120 Citta del Vaticano
VATICAN CITY

**Votre Éminence,**

**Avec une grande inquétude, je m'adresse à vous pour attirer votre attention sur le sort du centre religieux biélarussien, renommé dans le monde entier. C'est la Mission Catholique Belarussienne à Londres et son cœur – *Marian House* avec la chapelle des Saints Apôtres Pierre et Paul.**

**Pour plusieurs générations des biélarussiens, *Marian House* représente une valeur religieuse et culturelle unique. Et c'est surtout maintenant, quand la Biélarussie traverse une période d'épreuve de son identité politique et religieuse, que le rôle de ce centre est inestimable. La perte de *Marian House* pourrait causer un dommage irréparable à la cause de préservation et de développement de la culture spirituelle biélarussienne.**

**J'ai le ferme espoir, Votre Éminence, que votre décision finale sur *Marian House* fera preuve de vos sagesse et prévoyance, et je crois aux conseils de l'Ésprit Saint dans tout ce que vous faites pour la Sainte Église et pour ses croyants.**

**Je vous prie d'agréer, Votre Éminence, l'assurance de mes sentiments dévoués.**

(імя/nom,) ____________________

(подпіс/signature) ____________________



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Гэлена СЭНЮХ-МАЗУРА, Варшава.

# ГОЛАС З-НАД НЁМАНА

## Роздум над кніжкай Лявона Юрэвіча "Жыцьцё пад Агнём"

УСТУП:
Барыс Рагуля, успаміны якога ляглі ў аснову кніжкі Л. Юрэвіча "Жыцьцё пад агнём", гэта школьны калега маёй сястры Гэлены Сэнюх-Мазура. Яна нарадзілася ў Кіяве 1 лютага 1920 году. Нашыя бацькі — Станіслаў Сэнюх (нарадзіўся ў Галоўчынцах на Падольлі ў 1889 г.) і Стэфанія (дачка Андрэя і Ганны Шмыкоў з Воўкаразі каля Дзяляцічаў, сем кілямэтраў ад Любчы, 1896 г. нараджэньня) — ў 1925 г. уцяклі ад бальшавікоў з Кіева ў Польшчу нелегальна. Маёй сястры было тады пяць гадоў. Яна памятае, што ўцякаючы міналі Карасьцень, а ў Польшчы выйшлі на Грудэк Ягелёнскі (Гарадок). Бацькі пасяліліся спачатку ў Варшаве, а тады ўжо ў Ваўкарэзі ды ў Любчы. Тут і пайшла ў паўшэхную школу Гэлена, у якой вучыўся таксама і Барыс Рагуля.

Угаварыць сястру сьпісаць свае мяркаваньні пасьля прачытаньня "Жыцьця пад агнём" было нялёгка. Старэйшая за мяне на цэлых дзесяць гадоў, у час абоіх акупацыяў: бальшавіцкай і гітляроўскай, яна была ўжо дарослай жанчынай і працавала ў валаснoй (гмінпай) адміністрацыі. Бачыла ды разумела больш за мяне, падшыванца, які з канца красавіка 1940 году гадаваўся без бацькавай папругі і перш за ўсё цікавіўся патронамі ды самапаламі. Яна ведала ўжо цану лішняму слову, знала, што маўчаньне гэта жыцьцё, а словы гэта часта прысуд табе сьмяротны, або яшчэ горш — тваіму бліжняму. А яна ўжо несла адказнасьць і за родных: маці і брата. Бацьку забралі ў Наваградак і там яму далі 10 год лягеру. У Марынскім "почтовом ящике" не пражыў і года. Памёр у палове красавіка 1941 году.

Не спрыяў шматслоўю ды ўспамінам акупацыйнай мінуласьці і час Польскай Народнай Рэспублікі, дзе мы жылі пасьля "рэпатрыяцыі". Тут-жа панаваў савецкі парадак, прынесены на штыках ды ў кабурах энкавудыстаў.

З другога боку, шмат хто з герояў "жыцьця пад агнём", знайшоўшы больш-менш бясьпечны прытулак у ПНР, баяўся Гэлены, якая ў сваю чаргу баялася "польскай бясьпекі!.." Такім чынам, бальшавіцкі і нацыстцкі страх на доўгія гады вызначваў статус наваградцаў за жалезным занавесам.

Нельга забывацца пра гэта, чытаючы сьведчаньні пра тое "жыцьцё пад агнём" паўвяковай з гакам даўнасьці, рэстаўраваныя на аснове адно толькі недасканалай памяці. Добра, калі часам пацьвярджанай пацямнелым здымкам. Тым ня менш, я ўпеўнены, што падтрымаць сястру ў яе ўнутраной патрэбе дасказаць запамятанае да запісанага ў кніжцы Л. Юрэвіча пра Наваградчыну "пад агнём" і пра яе патрыётаў — гэта быў абавязак малодшага брата, былога любчанскага СБМ-аўца.

Напісанае — трывае.

*Чэслаў Сэнюх.*
Варшава, лістапад 2001 г.

* * *

Чытаючы кніжку Л. Юрэвіча "Жыцьцё Пад Агнём", я адчула патрэбу падзяліцца ўспамінамі, якія наплылі на мяне з таго далёкага часу. І агульны клімат, і шмат якія падзеі, апісаныя Юрэвічам, былі мне блізкімі. Шмат каго, чые прозьвішчы аўтар успамінае я ведала, шмат з кім сябравала, а той-сёй быў і маім сваяком. А перажытае больлю адзываецца ў маім сэрцы паміма мінулага часу.

Ажываюць у памяці людзі, мястэчка Любча, Нёман, школа, вайна, савецкая і нямецкая акупацыі, страхі, перамены ўладаў з грознымі пажарышчамі, пагроза зсылкі ў Сібір, сьмерць бацькі, сьмерць суджанага... Кароткае безклапотнае дзяцінства прамільгнула зарніцай ды расплылося на дарогах жыцьця, як быццам яго і не было...

Памятаю цудоўныя наднёманскія лугі, на якіх пасьвіліся шматлікія стадкі гусей, а мы, дзяцярня, беглі з пазаранку зьбіраць пер'е па расе, або ішлі па ягады ці ў грыбы ў занёманскі лес. Гэтыя вобразы прызываю пад час бяссонных начэй. Чую тыя песні, што мы, малыя, сьпявалі ў лодках на вясновых разьлівах Нёману, пад звон гітараў ды мандалінаў; гучаць песьні польскія, беларускія —

А гукі голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць!..

Канец школы ў Любчы. Пачатак вучобы ў Наваградзкай гімназіі імя Адама Міцкевіча. Пажар нашага любчанскага гнязда ў 1934 г. Бяда, безграшоўе ў бацькоў. Развітаньне з гімназіяй у палавіне 1936 г. з-за немагчымасьці аплаты за вучобу. Два гады ў дзяржаўнай маладзёвай арганізацыі "Юнацке гуфцэ працы" (ЈНР). Затым — праца ў шпіталі ў Лодзі. Вайна, Прыход немцаў. Лодзь называецца ўжо Litzmannstadt, а ў шпіталь накіроўваюцца параненыя вэрмахтаўцы. Наваградчына — пад саветамі. Што з бацькамі, з братам?.. Сьлёзы засланяюць вочы... Вырашаю прабірацца праз нямецка-савецкую мяжу да сваіх родных.

Марозная ноч пад савецкім абстрэлам на нейтральнай паласе, на якой начуюць габрэйскія сем'і: бягуць ад гітляроўцаў да бальшавікоў, а яны іх не ўпускаюць... Вось якім жахам канчаліся мае посныя дзявочыя гады.

Да Любчы я дацягнулася 23-га сьнежня 1939 г. Але-ж і сьціплае сямейнае шчасьце было ўжо пад пагрозай, Ледзь кончылася зацяжная, з маразамі за 40 градусаў зіма, арыштавалі бацьку. Зьявіўся страх за будучыню. Пачалі вызываць у НКВД. Я падалася на працу настаўніцай у Дзятлаўскім павеце. Там дачакалася вакацыяў 1941 г. ды нападу немцаў і ўцёкаў саветаў. У памяшканьні НКВД у Любчы на падлозе параскіданыя архівы. Сярод іх — здымак бацькі... Сьпісак прозьвішчаў на дэпартацыю ў Сібір? "Сенюх Степанида Андреевна, Сенюх Елена Станиславовна, Сенюх Чеслав Станиславович". І дата: 23. 06. 41 г. Не пасьпелі. Гітляроўцы апярэдзілі...

Паступіла я на працу ў раённай управе, у бюро падліку насельніцтва. Шлюбы, рэгістрацыя нованароджаных, спараджэньне мэтрычных выпісаў, кнігі падлікі для аддзельных вёсак. Адсюль і пэўная папулярнасьць сярод жыхароў Любчы і наваколься, а таксама магчымасьць назіраньня розных падзей у людзкім жыцьці, і паводзінаў іх удзельнікаў.

* * *

Першая непасьлядоўнасьць ва ўспамінах Барыса Рагулі, якая кінулася мне ў вочы, гэта калі ён гаворыць пра сваю маці: яна мела пэдагагічную адукацыю, а працы настаўніцай атрымаць не змагла, бо была праваслаўная (стр.10). А побач (стр.11) чытаю, што пані Надзея Рагуля слаба ведала польскую мову. Дыкжа школа ў Любчы была польская, значыць, гэты фактар, а не веравызнаньне, перашкодзіў стаць ёй настаўніцай. Балазе, у хуткім часе яна падалася ў Варшаву, каб падвучыцца польскай мове і перакваліфікавацца на мэдсястру.

Барыс адмоўна выказваецца пра любчанскага бацюшку. Ня ведаю, пра якога. З Барысам мы вучыліся разам да 5-й клясы. Памятаю праваслаўнага бацюшку Вячаслава Чарвінскага — настаяцеля /пробашча/ прыхода ў Любчы. Казалі пра яго, што ён быў афіцэрам. Насіў нават нейкі ваенны крыж /гл. здымак/. На яговых лекцыях рэлігіі, якія вяліся па-расейску, я ахвотна заставалася (касьцёла ў мястэчку не было і ніхто тады не навучаў у школе каталіцкай веры). Я вывучала Стары Запавет на рускай мове, і сёньня яшчэ памятаю. Айцец Чарвінскі меў жонку Клаўдзію і дачку Клеапатру (Люсю). Перад вайной 1939 года разам з маім братам хадзіла ў дзіцячы садзік /прадшкольле/, які ў брамнай вежы колішняга замку вялі каталіцкія манашкі Ўршулянкі. Неўзабаве, пасьля наезду бальшавікоў, бацюшка быў арыштаваны і сьлед па ім загінуў. Люся пасьля вайны закончыла мэдыцынскае аддзяленьне (ці не ў беластоцкай акадэміі) і працавала лекаркай у Беластоку, дзе жылі і мы. Ейная маці, пасьля вызваленьня з савецкага астр огу, прыехала да яе ў Беласток. Я нідзе і ні ад нікога ня чула, каб айцец Чарвінскі быў супрацоўнікам НКВД.

Барыс пасьля 5-й клясы пераехаў у Наваградзкую гімназію. Там жыла ягоная маці. Працавала ў шпіталі мэдсястрой.

Нажаль, Барыс не падае датаў здарэньняў, якія прыгадвае. Не памятаю ў якім годзе закрылі беларускую гімназію ў Наваградку. Ці не ў 1934? Я вучылася тады ў дзяржаўнай гімназіі імя А. Міцкевіча. Памятаю, што пра гэта казалі: беларуская гімназія закрылася таму, што ў ёй засела "камуністычная ячэйка". А трохі раней мела там мейсца забойства нейкага "правакатара". Падробнасьці мне не вядомыя.

Не памятаю, каб у польскай гімназіі да беларусаў адносіліся як да вучняў "другога гатунку", як піша Барыс. Я вучылася ды жыла ў інтэрнаце з многімі сябро ўкамі з ніжэйшых і вышэйшых клясаў. І не бачыла ніякай дыскрымінацыі вучаніц праваслаўных, беларускіх ці габрэйскіх. Навучэнцы былой беларускай гімназіі трактаваліся на роўных са ўсімі астатнімі. Барыс, дарэчы, не прыводзіць ніводнага прыкладу дыскрымінацыі. У бурсе я сябравала з дочкамі праваслаўных духоўнікаў. Я ніколі не назірала дыскрымінацыі ні іх, ні габрэек, ані з боку навучэнцаў палякаў, ані з боку прафэсараў. Сярод апошніх даволі багата было габрэяў, але з імі таксама не было ніколі антаганістычных адносін на этнічна-культурным ці канфэсійным грунце. Сам Барыс здаў матуру, якая не лічылася "другога гатунку".

Яшчэ пасьля вайны я сябравала, ужо ў Польшчы, з праваслаўнай Валяй Тупікоўнай /Тупік, а не Таўпечанка, як чытаю ў падпісаньні пад здымкам у кнізе/, па мужу Балабаньскай. Яна працавала юрысконсультам у Ольштыне.

Вярнуся яшчэ да гімназіі. Памятаю прозьвішчы каталіцкіх прэфэктаў (настаўнікаў рэлігіі): ксёндз Брэчка, пазьней кс. Вацлаў Янкоўскі і кс. Кубік. Быў у гімназіі таксама прэфэкт праваслаўны і рабін. Іхніх прозьвішчаў не запамятала.

Барыс пасьпеў яшчэ прайсьці польскую гімназію па старым "стылі" (старога тыпу). Я-ж вучылася ад першай клясы па новаму стылю — у чатырохклясной гімназіі пасьля заканчэньня любчанскай сямігодкі. У гэтых першых клясах палякаў, на мой погляд, магло быць ня больш за 30 адсоткаў. Астатнія — гэта беларусы і габрэі. Былі яшчэ і дзеці расейскіх белаэмігрантаў.

Барыс не скрывае свае недобразычлівасьці да Польшчы і палякаў. Тым ня менш станоўча ацэньвае ўзровень навучаньня ў польскай дзяржаўнай гімназіі ў параўнаньні да савецкіх дзесяцігодак, асабліва ў меншых гарадах. Заканчэньне гімназіі ў II Рэчыпаспалітай прыдавала абсальвэнту-выпускніку статус інтэлігента. Скарысталі на гэтым былыя навучэнцы беларускай гімназіі, тым больш, што наогул паходзілі з багацейшых сем'яў, якія былі ў стане аплачваць навуку дзяцей.

Мне прышлося, нажаль, пакінуць гімназію ў 1936 годзе, ня гледзячы на тое, што я лічылася выдатніцай. Пасьля пажару ў Любчы, пад час якога пайшла з дымам адна трэць мястэчка, у тым ліку і хата, у якой бацькі наймалі кватэру, мы засталіся без даху над галавой. Не было з чаго заплаціць нават той ільготнай аплаты, на якую прызначалася гімназія. А я-ж была польскім дзіцём!

Любчанскія пагарэльцы мелі дамы застрахаваныя, асабліва на рынку, дзе разьмяшчаліся парцэлі габрэйскіх купцоў. Такім чынам, у хуткім часе Любча стала прыгажэйшай за тую дапажарную. Аднак бацьку ад гэтага не палегчала. Сваю хату не дабудаваў да самага арышту. Не было з чаго. Жылі мы толькі ў адным канцы сяк-так абсталяваным...

Вяртаюся на старонкі кніжкі. Патрабуюць камэнтара таксама і больш агульныя сьцьвярджэньні Барыса. Не магу пагадзіцца з тым, што саветы вывозілі беларусаў /стр. 24/, "заможных сялян". У першую чаргу яны зьнішчалі палякаў, польскую інтэлігенцыю і гаспадароў-"кулакоў". На Наваградчыне былі заможныя палякі і беларусы, але для бальшавікоў "кулаком" быў кожны селянін, у хаце якога падлога было дрэўляная, з маляваных дошкаў.

Памятаю, як чырвонаармейцы кідаліся на беларускі хлеб і сала, а іхнія жанчыны начныя сарочкі лічылі за бальныя сукенкі...

Цяжка пагадзіцца, калі Барыс гаворыць аб "польскай акупацыі" /стр. 64/. Заходняя Беларусь апынулася ў межах Рэчыпаспалітай у выніку міжнароднай дамоўленасьці з пакананым агульным ворагам палякаў і беларусаў. Гэта пацьвердзіў і сам Барыс /стр. 126/, калі піша пра пашанаваньне з боку польскай дзяржавы правоў беларусаў, якія выбіралі ў Сэйм і Сэнат сваіх паслоў і сэнатараў, выдавалі на сваёй мове кніжкі і газэты. Гэта ў "панскай Польшчы" шчыравала за правы беларусаў магутная статысячная арганізацыя: Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, а яе стваральнік і прадстаўнік у парлямэнце не палякамі быў закатаваны. У адрозьненьне ад сапраўднай савецкай акупацыі з яе генацыдам.

Даводзіць гэта таксама і прыгаданы ў кніжцы былы сэнатар II Рэчыпаспалітай Васіль Рагуля, дзядзька Барыса /стр. 75/. Тут чыталіся беларускія кніжкі і журналы (хоць-бы "Беларуская культура", якая бывала і ў нашай хаце), выдаваліся Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк. Гэта "пад польскай акупацыяй". Пасьля-ж "вызваленьня" бальшавікамі па беларускасьці і сьлед прастыў. Школа ў Любчы стала расейскай (брат правучыўся ў ёй два гады: 3-я і 4-я клясы). Ніводзін часопіс, ніводная кніжка на беларускай мове да Любчы таго часу не дайшла.

У гэтым мейсцы не магу не выказаць зьдзіўленьня, што Барыс не прыгадаў трагічнага "эпізоду" з маладымі беларусамі свайго пакаленьня. Недзе ў палове трыццатых у бок

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



польска-савецкай /БССР-аўскай/ мяжы рушыла цімала маладых хлапцоў і дзяўчат. З самай нашай Любчы каля 10 чалавек. М іж іншымі, брат Пятра Аляшкевіча Федзя і суседка з Дзяляціцкай вуліцы Вольга Дудчыц. У Аляшкевічаў быў зборны пункт, дзе моладзь рыхтавалася да выходу ў БССР. Спрыяла гэтаму ў пэўнай ступені савецкая радыёпрапаганда: шмат у каго былі ўжо ў той час крышталёвыя "дэтэктары". Пашыралі яе таксама і беларускія актывісты, якім марылася шчасьлівае жыцьцё ў краіне саветаў. Сярод іх быў і дзядзька Барыса, Васіль, хоць у "Грамадзе" ён камуністам не лічыўся.

гэнгаўэрам /Felgenhauer/ і Барысам. На падставе запісаў у кнігах я дакладвала пра сямейнае становішча, пра колькасьць ворнай зямлі і сяброў сям'і ў данай гаспадарцы. Шмат каго мне ўдалося абараніць перад наборам, ці па заўчаснай просьбе прызыўнога, уносячы адпаведныя праўкі ў дакумэнтацыі, ці па сваёй ініцыятыве. У нейкім мамэнце гэр обэрст чулым шэптам спытаўся: "Freulein Helene, wunschen Sie mitfahren?" (Панна Галена, ці ня хочаце паехаць з імі?). Сьпярша я ня вельмі ўцяміла ў чым справа, але Барыс, які пачуў гэтае пытаньне, таўкнуў мяне локцем і прызваў "апамятацца". Не



**Кляса VII Паўшэхнай школы ў Любчы над Нёманам, у 1933 г.**
Сядзяць (ад левай) настаўнікі: К.Шкудлярак, сп-ня Высоцкая, Г. Пуцькуўна, а. Вячаслаў Чарвінскі, Г. Мацешынска, кіраўнік школы А. Корзан і К. Бітус. Стаяць у першым радзе: Б. Сацэвіч, Ц. Пуціла, К. Нор, М.Астанкевіч, Г.Пуціла, Г. Сэнюх, Я. Койдан, Сечка. У другім радзе: Каратай, Мылко, настаўнік А. Барысевіч, Родзька, Галоўчыц. У нізе: А. Ясінскі, Л.Ясінска, Ю. Шкудлярак

Жах пачаў агортваць родзічаў ды сваякоў тых "уцекачоў" з "панскай Польшчы", калі ніводзін спасярод іх не прыляцеў на самалёце, не прыехаў на "сталінцы", ці хоць на навагрардзкай вузкакалейцы, не застукаў да роднай хаты, не пакланіўся бацькам як інжынер, лекар, камандзір... А яны-ж лічылі-чакалі, што прыйдуць ізхнія дзеці з чырвонай арміяй, — "освободительницай"! Ніхто не вярнуўся. Каб хоць з Салаўкоў, з Варкуты, з Калымы... З Курапатаў не вяртаюцца...

Пётр Аляшкевіч, які ў красавіку 40-га г. быў панятым пад час арышту нашага бацькі Станіслава, пасьля прыходу немцаў "навярнуўся" і стаў беларускім патрыётам. Сьпярша быў камэндантам паліцыі ў Івянцы, калі беларусы пераймалі ўладу з рук палякаў. Пасьля быў сакратаром раённай управы ў Здзяньцёле (Дзятлаве), дзе бургаміструм працаваў... Васіль Рагуля. Там апынуліся мае знаёмыя: Валя Тупік, Марыся Рагулянка (па мужу Дрэвняк ці Дробняк) і мая сардэчная сяброўка з Навагрдзкай гімназіі Зося Насалік, якая зараз жыве ў Givet, Францыя. Лістуем, дзякуй Богу, яшчэ і сёньня.

Яшчэ пра Любчу з часоў агульнага з Барысам дзяцінства і раньняга юнацтва. Барыс успамінае пра сям'ю Набокавых. Дык-жа яны зьехалі з Любчы яшчэ ў 1932 годзе. Маёнтак любчанскі пераняў банк, які даверыў яго апецы гміне Любча. У вежы над замкавай брамай Гурт грамадзянскай працы жанчын заснаваў дзіцячы садзік для польскіх і беларускіх, без ніякай розьніцы, дзетак (у яго якраз хадзіла напэўна і Люся Чарвінская). У 1934 г. пад час вакацыяў, калі апякункай дзяцей была я, банк прадаў маёнтак каталіцкім манашкам Уршульянкам. Апошняй уласьніцай замка была мадам Пэкер /Pecker/, якую народ называў Пекерыхай. Па першым мужу яна была Набокава. Яе малодшая дачка Лідзія пайшла за князя Васіля Мірскага. Манашак бальшавікі выгналі, князя пасадзілі, але большай прыкрасьці зрабіць яму не маглі, бо ўняліся за яго нямецкія арыстакраты. Яго выслалі ў Райх. Але неўзабаве ён вярнуўся ў Любчу ў званьні обэрлейтэнанта. Барыс пра гэта не ўспамінае... Надышла нямецкая акупацыя. У Любчы паявіліся беларускія паліцыянты.

Калі немцы аб'явілі набор сярод насельніцтва на работы ў Нямеччыну, у Любчу прыехала некалькі нямецкіх афіцэраў, а з імі і Барыс. Паколькі я вяла ўлік жыхароў любчанскага раёну ды па школьнаму ведала трохі па-нямецку, дык мусіла ўдзельнічаць у кваліфікацыйнай камісіі. Сядзела паміж обэрстам (палкоўнікам) Фэль-

давялося мне выцягнуць спад набору любчанскага шаўца, гадоў каля сарака, бязьдзетнага. Дык пры "другіх бальшавіках" яго жонка данесла на мяне ў НКВД, хоць яе мужык ужо быў вярнуўся дамоў. Абаранялі мяне тыя, каго я выпатрабавала. Дык прычапіліся, што мяне лучыла з немцамі і чаму я магла столькі людзям дапамагчы. Восеньню я атрымала "ўзнагароду":"запрашэньне" на працу ў чорнай мэталюргіі на Урале. Але гэта было ўжо ў 1944 г. А годам раней, у 1943-м жыхары гэтай шматпакутнай зямлі былі прымушаны быць сьведкамі гэнацыду ў гітлероўскім выкананьні, — вынішчэньне габрэяў. З любчанскага гета, куды іх раней пазвозілі з усяго раёну, гналі іх па дзяляціцкай вуліцы за праваслаўныя могілкі ў бок Войнава. Там іх забівалі. Сярод ахвяраў былі таксама і цыганы. Нажаль, сярод забойцаў былі побач з немцамі і людзі ў літоўскіх, латышскіх ды ўкраінскіх ваенных формах...

На старонцы 238 ёсьць зацемка пра сьмерць у баі пад Лідаю лейтэнанта Мялешкі. Фёдар Мялешка (а не Малешка, як у кніжцы) загінуў у сутычцы з партызанамі /ня ведаю якімі, польскімі ці савецкімі, бо былі розныя мяркаваньні/. Ён быў маім жаніхом. Неўзабаве меўся адбыцца наш шлюб, а ягоныя родныя рыхтаваліся да вясельля. Паходзіў ён з вёскі Поплава каля Старых Нягневічаў. Ледзь пасьпеў закончыць афіцэрскія курсы ў Менску. Ён быў паранены з пулямёта ў жывот. Кінуўся яго ратаваць жаўнер па прозьвішчы Курсуновіч. І ён загінуў. Іх пахавалі побач адзін другога ў Лідзе. Вестку пра сьмерць Федзі прынёс у Любчу жаўнер, які прыйшоў да бурмістра Антона Мурашкі. Ён і паведаміў мне ў сваім кабінэце пра трагедыю... З братам ды шваграм пакойнага Федзі мы зьезьдзілі на ягоную магілу. Вось які быў мой шлюб...

Маці Мялешкі, дробная старушачка, час ад часу наведвала нас у Любчы, ідучы да старой драўлянай царкоўкі каля маёнтку Войнава, якую звалі "Падліпка". Ішла на штогадовае царкоўнае сьвята ў чэсьць Багамаці, ікона якой зьявілася на старадаўняй ліпе ў канцы XIX стагодзьдзя. Маці Федзі прыносіла мне ў падолку кветкі флёксаў са свайго агароду, бо, як казала: "Федзя прыносіў іх для Гэлі..." А маёй маме скардзілася: "Каб хоць дзіцятка было!.."

Няма ўжо ні "Падліпкі", ні старой магутнай ліпы, ні высачэзнай таполі. Усё паруйнавалі бальшавікі. Пэўна, і тых дзьвюх магілаў няма...

У весну 1944 г. у Любчу прыехаў на нямецкім грузавіку прыгожы юнак у чорнай форме школы лётчыкаў, Лёва Русак з Вераскава; ягоны бацька Пятро Русак, дарэчы, наш сваяк з боку мамы, быў у Самаахове. Хлопец і бацька агітавалі моладзь, каб уступаць у вэрмахтаўскія авіяшколы. Рабілі гэта даволі пераканаўча. Слухала іх каля дзесяці 13-14 гадовых хлапцоў. Мой 14-гадовы брат з захапленьнем угаварваў маму, каб згадзілася пусьціць яго і ён хутка прыляціць над нашу хату... Мы стаялі на рынку і з жахам глядзелі на сьлёзы жанчын, хлопцы якіх ужо былі на машыне. Я трымала брата, каб ня ўцёк да іх. Трохі раней гаварыў з ім немец Лінаў /Lienau/. "На лётчыка трэба доўга вучыцца — казаў. — Пакуль вывучышся, вайна кончыцца і тады ўжо на Любчу не прыляціш". У канцы канцоў пераканала яго мама: "Ты ў нашай хаце адзіны мужчына. Не пакідай нас, дзьвюх безабаронных жанчын, на няведамы лёс!" Грузавік рушыў. Раптам з натоўпу вырваўся нейкі хлапец. Яго ўцягнулі на скрыню Гэта быў 15-гадовы Павел Буйвал. Ягоная маці абамлела і звалілася на брук.

Што было далей з тымі хлапцамі, мне невядома. Цікавіць мяне, ці Барыс аб гэтай акцыі быў паінфармаваны, і ці гэты набор адбываўся па ўсёй Навагрудчыне.

* * *

Мне памятаецца дзень, калі прыйшоўшы на працу ў раённай управе я пабачыла жахлівую паніку. Беларускія паліцыянты спорылі з нямецкімі жандарамі, якія рыхтаваліся да ўцёкаў. Памятаю драматычныя доказы: "Дык вы ўцякаеце а з намі што? Або разам, або будзем страляць!" На любчанскім рынку стаялі вазы ды брычкі. На адной сядзеў бурмістр Мурашка з дачкой Мілкай, трымаючы на каленях наймалодшую Ірку. Прапанаваў мне, што ёсьць у брычцы мейсца і я павінна з імі ехаць, бо будзе мне дрэнна, калі наважуся заставацца. Я падзякавала яму з хваляваньнем, узрушаная ягоным клопатам. Але не магла я пакінуць маці з нялетнім братам. Хай будзе, што Бог сашле. Яшчэ і сёньня цёпла ўспамінаецца мне тая заботлівая прапанова беларускага бурмістра Любчы.

На фурманцы побач сядзеў Канстанцін Бітус, мой улюбёны настаўнік, з дачкою Нінаю ды ўнучкаю Зінаю. Жонка ягоная заставалася ў Любчы.

Усе чакалі, чым закончыцца канфлікт паміж жандарамі і паліцыянтамі. У пустой управе засталася я ды пасыльны Каклевіч. У грубцы дапальваліся нейкія паперы...

У сваёй хаце мы ў страху чакалі далейшых выпадкаў. Баяліся партызанаў з іх зьверствамі ня меншымі за гэстапоўскія. Навакол яны вяршылі самасуд, дапускалі жахлівыя забойствы. Між іншымі падпалілі хутар Ёўсаў, сын якіх Дзіма быў актывістам Саюзу беларускай моладзі. У пажары згарэлі дзед з бабаю. Замардавалі кавала Падбярэскага, дзяляціцкага настаўніка Віткоўскага. Расстралялі вуніяцкага ксяндза Ануфрэя Аношку з Дзяляцічаў, яго паранілі, але выбраўся неяк спад трупаў...

Наступнай раніцай пачалася стральба. Стралялі з-за Нёмана. А з боку Навагрдка наступаў атрад форстшуца /Forstschutz/ з танкеткаю ды з ім вярталіся любчанскія жандары. Мы схаваліся ў выкапаным на агародзе акопчыку. Любчанцы пахаваліся, хто ў полі, хто ў старых бліндажах з царскай вайны. Спатканы знаёмы жандар сказаў мне, што немцы зьбіраюцца паліць усе хаты, дзе няма гаспадароў, бо, значыць, уцяклі ў партызаны. Я выпрасіла, каб яшчэ пачакалі: мы знойдзем жыхароў. З белым сьцяжком на жэрдцы (з кавалка кужалю) мы з суседкай сталі клікаць нямымі галасамі людзей, каб выходзілі са сваіх сховішчаў. Павязло, пашанцавала: людзі выйшлі і падаліся ў хаты. Вуліца Дзяляціцкая, а мо і Любча, не пайшла з дымам. Пажылыя любчанцы памятаюць гэтую падзею. У 90-я гады брат прывёз у магнітафоннай запісі доказы ўдзячнасьці: "Гэля ўратавала мястэчка". Адвячоркам немцы павярнулі назад у бок Навагрдка.

* * *

"Другія" саветы (1944 год) узялі мяне на работу ў фінаддзеле. Калі я засумнявалася, ці здолею, мне адказалі: "Не ўмееш — навучым, ня хочаш — заставім!" Такім чынам я працавала фініснпэктарам да ўцёкаў перад Уралам. Калі я зьехала з Любчы, каб за мною не ганяліся кагэбісты, мой знаёмы партызан — малдаванін распусьціў версію, што я пайшла ў армію. Карыстаючыся гэтым "падманам" я запісалася ў Навагрдку на рэпатрыяцыю і 31-га сьнежня села ў Навальні на цягнік у Польшчу. У студзені 1945 г. з Любчы зьехалі і мае родныя: маці і брат. Мы сустрэліся ў Беластоку.

* * *

Барыс Рагуля ў сваіх успамінах гаворыць, што беларусы, якіх палякі лічылі камуністамі, ніколі імі не былі. Цяжка з гэтым пагадзіцца. Я ўжо нагадала Пятра Аляшкевіча. Перад вайной у іх

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



доме месьцілася камуністычная ячэйка, у якую належаў Анастась /Штась/ Аляшкевіч. Ведаю яшчэ прозьвішча ягонага таварыша Міколы Жыромскага. Пасьля прыходу "першых" бальшавікоў яны прыслугоўвалі НКВД. Іхнія подпісы былі на пратаколе арышту нашага бацькі Станіслава ў 1940 годзе. А калі прыйшлі немцы, малілі нашу маму аб зьмілаваньні...

Гэта ілюстрацыя майго перакананьня ў пляне палітычным. А ў ідэйным? У Любчы памерла жонка Бітуса і ў царкве правілі паніхіду. Вера Чатырка ў цэркаў ня вайшла. Калі нехта запытаўся, чаму яна стаіць вонкі, адказала: "Я — камуністка!"

* * *

На старонцы 160 гаворыцца аб тым, што ў часе нямецкай акупацыі палякі ўваходзілі ў блізкія зносіны з немцамі, і што ня ўсе гэтыя зносіны мелі характар прыкрыцьця для падпольнай дзейнасьці ці бытавой выгады /verpflegung/. Што часта былі гэтыя сувязі, як той казаў, эмацыянальнай прыроды. Я памятаю, напрыклад, што блізкай прыяцелькай Вільгельма Кубэ — гаўляйтара /Gauleiter/ — была беларуска, добра вядомая Барысу. Прадметам зацікаўленьня другіх беларускіх дзяўчат, якіх я добра ведала, былі таксама і ніжэйшага рангу нямецкія саноўнікі. І ня ўсе кантакты былі безкарысныя, плятанічныя.

* * *

Барыс Рагуля, як я ўжо пісала пра гэта вышэй, аблічае II Рэчпаспалітую за прычыненьне беларусам шмат якіх пакутаў. Пры чым ня толькі ў гэтай кніжцы. У іншым выданьні свайго аўтарства пад загалоўкам: "Беларускае Студэнцтва на Чужыне", London /Canada/ — New York, 1996, на старонцы 8 чытаем: "У Заходняй Беларусі польскі акупацыйны ўрад ня быў зацікаўлены, каб беларусы вучыліся, а ва Ўсходняй Беларусі, пад савецкай акупацыяй, пасьля кароткай адлігі наступіў пэрыяд жорсткай русыфікацыі... Праўда, да навукі быў доступ, але адначасна калечылі беларускую душу".

Ізноў-жа мушу не згаджацца з першай — "польскай" — часткай Барысавай ацэнкі. Вымагаюць гэта ад мяне хоць-бы мае ўласныя веды ды назіраньні. Вось вядомыя мне беларускія праваслаўныя настаўнікі ў польскіх школах: Канстанцін Бітус — настаўнік у любчанскай паўшэхнай школе. Антон Марушка і ягоная жонка — настаўнікі ў Нягневічах. Казак (бацька Вітаўта, які вучыў майго брата Чэсіка ў любчанскай беларускай школе /1941-1944/ і быў ягоным праваднікам у Саюзе беларускай моладзі) вучыў у школе ў Сеньне.

Цяпер падаю навучэнкі ў гімназіі ім. А. Міцкевіча, якія са мною вучыліся ці жылі ў адной бурсе — праваслаўныя беларускі: Воля Царук, Тася Раманішкуўна, Воля Янушчык, Ніна Мацюк, Таня Сакольнік, Люся Сэглюк, Таня ды Люся Клімуць, Валя Тупік, Надзя Сіўко, Валя Марушка, Ірка Мажэйка, Галя Цішэўская і Ларыса Дзяковіч.

* * *

Каб я магла сказаць, што тое, што яшчэ ведамае мне, ня будзе забыта, даскажу і пра габрэйскія знаёмасьці. У гімназіі я вучылася з габрэйкамі ад клясы ІА (былі дзьве першыя клясы: А і Б); вось іхнія прозьвішчы: Поля Ізраэлітуўна і Дзіна Лейзараўна. Абедзьве былі вельмі здольныя. Полі Ізраэліт (імя ня памятаю) хадзіў у вышэйшую клясу. Памятаю сутычку з імі пры выбары патронкі нашай клясы. Яны прапанавалі Элізу Арэшка, а я — Канапніцкую. За Арэшкай быў таксама Ізя Айзыкавіцкі, сын аптэкара з Любчы. Большасьцю галасоў, пры падтрымцы прафэсаркі ад "польскага" Галены Мацкевіч, патронкай клясы засталася Марыя Канапніцкая.

У клясе I Б вучыліся габрэйскія дзяўчаты: вельмі прыгожая Сара Болда, Бурштэйнаўна, Ента Вайсаўна — дачка рабіна з Любчы ды Кляра Вільнэраўна — абедзьве таксама любчанскія, вучыліся ў вышэйшых клясах па старым стылі. Хана Мірская, выпускніца гэтай-жа гімназіі, у 1935 г. паступіла ў ёй на працу як прафэсар матэматыкі.

**Гэлена Сэнюх-Мазура,**
Варшава.



**Ці зацікаўлены Вы Беларускімі песьнямі?**
Мы маем дыск /касэту/ хрысьціянскага музычнага гурта "Спадзяваньне" з мястэчка Кобрын, Беларусь.
Назва – "Зямля бацькоў". Кошт дыска $10, а касэты -- $5, плюс перасылка. Зьвяртацца да:
Alex Vakulich, PO Box 603, Kolona, IA. 52247
Tel. (319) 936 7624
Песьні прыгожыя, у беларускай мове.

## "ANNUS ALBARUTHENICUS 2002. ГОД БЕЛАРУСКІ 2002"

**Рэдактар Сакрат Яновіч. Крынкі, 2002. 249 ст.**

Гэта ўжо трэці выпуск гадавіка – некалькімоўнага зборніка прозы, паэзіі й крытыкі. Ягоны рэдактар Сакрат Яновіч у першым выпуску ў 2001 г. патлумачыў выдавецкую канцэпцыю: "пра беларускае не пабеларуску, а пабеларуску небеларускае". Намер гэты варты падтрыманьня ў сувязі з павышанай апошнім часам міжнароднай увагай да Беларусі.

У сёлетнім выпуску гадавіка, апрача перакладаў заходнеэўрапейскіх аўтараў, зьмешчаныя матэрыялы пра Беларусь на мовах: ангельскай, швэдзкай, нямецкай, француская ды італьянскай. Яны інфармуюць чытача пра беларускую гісторыю й культуру, беларуска-швэдзкія, аўстрыйска-беларускія, ангельска-беларускія літаратурныя сувязі, беларуска-італьянскія кантыкты ды іншае. У канцы артыкулаў даюцца ў бальшыні выпадкаў кароткія даведкі пра апублікаваных аўтараў і перакладнікаў.

Зборнік адкрываецца разважаньнямі беларускага аўтара Гэральда Асьвяцінскага, пад заг. "Instead of Manifest" /Заміж маніфэсту/, у якіх ён слушна сьцьвярджае, што прагрэс чалавецтва немагчымы без захаваньня й далейшага разьвіцьця шматнацыянальнага культурнага ляндшафту сьвету, у якім арганічнае месца належыцца й беларускай культуры.

Польскі гісторык Рышард Радзік даў паангельску цікавы культурны, сацыяльны й псыхасацыяльны аналіз беларускага грамадзтва апошніх двух стагодзьдзяў.

Шмат месца ў зборніку адведзена гістарычным дачыненьням і літаратурным сувязям Беларусі са Швэцыяй. Цяпер, як ведама, у краінах Скандынавіі, асабліва ў Фінляндыі, Швэцыі й Нарвэгіі, апынулася ці мала новапасяленцаў (у тым ліку палітычных уцекачоў) зь Беларусі. Кантакты паміж Беларусяй і гэтымі краінамі набіраюць шырэйшага культурнага кантэксту, як і палітычнага. Пачалі зьяўляцца беларускія пераклады літаратуры скандынаўскіх народаў.

Мастак зь Беларусі Дзімітрый Плакс, які жыве цяпер у Стакгольме, апублікаваў у зборніку артыкул пашвэдзку пра швэдзка-беларускія кантакты ў галіне культуры.

У зборніку зьмешчаныя беларускія пераклады вершаў і апавяданьняў швэдзкіх, нарвэжскіх ды фінскіх аўтараў. Уступ да перакладаў напісаў панямецку Лявон Баршчэўскі. Пераклады зробленыя Л. Баршчэўскім, Валерыем Буйвалам, Людмілай Капачэняй, Зьміцерам Занеўскім, Аленай Крыжаноўскай ды Якубам Лапаткам.

Англамоўны артыкул Андрэя Катлярчука загалоўлены "Вобраз швэдаў у беларускай літаратуры (16-19 стагодзьдзі)". Алена Таболіч дала моўны аналіз англамоўнага перакладу верша Ларысы Геніюш ("На начлезе"), зробленага Верай Рыч, а таксама запрапанавала свае пераклады беларускіх вершаў.

Два артыкулы дадзеныя пафранцузску: Юрыя Лабынацава пра вытокі беларускай літаратуры Падляшша ды Ларысы Шчавінскай пра беларускую пісьменнасьць Бельшчыны 18-га ст.

Зьмешчаныя ў зборніку выдатныя пераклады Фэрдынанда Нойрайтэра вершаў Багдановіча, Купалы, Коласа, Броўкі й Танка на нямецкую мову, а таксама такія ж выдатныя пераклады Васіля Сёмухі вершаў нямецкага клясыка Райнэра Марыі Рыльке.

Арнольд МакМілін падзяліўся ўспамінам аб тым, што прывяло яго да вывучэньня беларускае літаратуры. Ён даў таксама сваю ацэнку шансам беларускай літаратуры, тымчасам даволі сьціплым, выйсьці на шырэйшы міжнародны форум. Паангельску зьмешчаная рэцэнзія Сьвятланы Грымуты на кнігу Міколы Мікуліча пра Максіма Танка.

Італьянскаю моваю польскі пісьменьнік Эўгеніюш Кабатц, які нарадзіўся ў Ваўкавыску, надрукаваў свае ўспаміны і ўражаньні ды філязофскія разважаньні.

Зборнік канчаецца можа самым цікавым – урыўкам з англамоўнай працы Майкла Флемінга, маладога дактаранта Оксфардзкага ўнівэрсытэту, аб правох нацыянальных меншыняў Польшчы на прыкладзе немцаў, габрэяў і беларусаў. Хоць у 1989 г. у Польшчы было прынятае адно для ўсіх нацыянальных меншыняў заканадаўства, піша аўтар, і некаторыя зьмены на лепшае адбыліся, усё ж і дасюль няма аднольвакага падыходу да нацыянальных меншыняў з боку ўладаў. У дачыненьні да беларусаў пануе традыцыйная для палякаў дыскрымінацыя. "Дэмакратыю разумеюць на Падляшшы, -- піша дасьледнік, -- у найгрубейшым і найбольш выключным варыянце – пераможца забірае ўсё. Галасы меншыні заглушаюцца дыктатурай бальшыні" (242 ст.). Параўноўваючы з дасягненьнямі немцаў і габрэяў у Польшчы, аўтар робіць невясёлую выснову: "беларусы апынуліся ў загрожаным стане і, як ні сумна, польская дзяржава ня выконвае ўзятых на сябе міжнародных забавязаньняў адносна гэтай меншыні" (244 ст.).

Пры ўсёй цікавасьці й разнастайнасьці зьместу кнігі, у ёй, на жаль, шмат недагляду. Прыкладам, вельмі няпісьменная ангельская мова Катлярчуковага артыкулу. Памылак тут зашмат, каб іх пералічаць. Такога ж узроўню ангельская мова рэцэнзіі С. Грымуты на кнігу пра М. Танка. Поўніцца памылкамі й англамоўны артыкул Алеся Чабата "Расейскі стэрэатып у вачох беларуса (у жыцьці й літаратуры)". Тое самае даводзіцца сказаць і пра французскую мову артыкулаў Лабынцава й Шчавінскай. Трасьлітарацыя прозьвішчаў і назоваў у гэтых артыкулах зробленая паводле правілаў ангельскае мовы. Даведак пра аўтараў чамусьці не дадзена. У артыкуле Асьвяцінскага прапушчаная цытата (8 ст.), безь якое трацiць сэнс увесь сказ. У англамоўным артыкуле Радзіка прыметнік "Belarussian" пішацца з двума "s", у іншых месцах – з адным. Тыя самыя прозьвішчы напісаныя парознаму: Транстромер і Транстромэр, Рунеберг і Рунеэбэрг. Некаторыя іншамоўныя (для беларускага чытача) артыкулы пакінутыя без рэзюмэ пабеларсуску.

Тым ня менш, самая задума друкаваць "пра беларускае не пабеларуску, а пабеларуску небеларускае" вельмі добрая. Дзякуючы выдаўцом за дасюлешнія зборнікі, трэба пажадаць рэдакцыі большае акуратнасьці ў далейшых выпусках гэтага патрэбнага выданьня.

**Янка Запруднік, ЗША.**

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Новыя энцыклапэдыі

У будучым годзе завяршаецца выпуск 18-томнай універсальнай "Беларускай энцыклапеды" на беларускай мове (першы том выйшаў у 1996 годзе) і 6-томнай "Энцыклапеды гісторыі Беларусі" (выдаецца з 1993 года).

Згодна з традыцыяй, пасля выпуску поўных энцыклапедычных выданняў рыхтуюцца іх скарочаныя варыянты, у тым ліку на рускай мове. Гэта робіцца для таго, каб нацыянальная энцыклапедыя знайшла сваіх чытачоў і за межамі краіны. Вось чаму запланавана выданне больш сціслай "Беларускай энцыклапеды" ў 5--6 тамах на рускай мове і 2-томнае выданне "Энцыклапеды гісторыі Беларусі" -- на беларускай. У гэтыя выданні мяркуецца ўнесці патрэбныя дапаўненні і змяненні.

*****************************************************

## Уяўленьне Амэрыкі грамадзянінам Беларусі

Каля траціны апытаных сацыёлагамі жыхароў Беларусі (34 працэнты) бачаць у ЗША краіну дабрабыту і высокага ўзроўню жыцця. Прыкладна столькі ж – краіну, якая скупляе «мазгі» за мяжой (33 працэнты). Гэта звесткі агульнанацыянальнага сацыялагічнага апытання, якое праводзілася ў апошнім квартале мінулага году вучонымі Інстытуту сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. 1 200 рэспандэнтам ва ўзросце 18 гадоў і старэйшым было прапанавана адказаць на пытанне: «У сучасным свеце ЗША ўспрымаюцца парознаму. Які з вобразаў ЗША вам здаецца найбольш правільным?».

Кожны чацвёрты рэспандэнт параўнаў ЗША з сусветным жандарам (26 працэнтаў). 16 працэнтаў апытаных жыхароў Беларусі бачаць у ЗША лідэра сусветнага навукова-тэхнічнага прагрэсу, а 14 працэнтаў – гаранта захавання правоў і свабод чалавека.

Па 9 працэнтаў апытаных бачаць у ЗША асноўную крыніцу забруджвання атмасферы Зямлі і дзяржаву, якая пасылае гуманітарную дапамогу краінам, якія маюць у гэтым патрэбу, у тым ліку і Беларусі.

===========================================

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Віншую "Беларускі Дайджэст" з выхадам 100-га нумару!

Гэтая газэта прыходзіць раз на месяц, звычайна на пачатку месяца. Яе ўжо чакаеш, бо за тыя гады, што жывеш у Амерыцы, да яе прызвычаіўся, яна сталася вельмі патрэбнай. Бо дзякуючы "Беларускаму Дайджэсту" адчуваеш сябе ня проста інфармаваным, а інфармаваным мэтанакіравана у галоўных напрамках і штодзённага (мітусьлівага) і духоўнага (высокага) жыцьця беларускага. Прычым жыцьця беларусаў ня толькі на радзіме, у дзяржаве, якая пакуль што яшчэ завецца Рэспублікай Беларусь, але і ў іншых краінах, дзе жывуць нашы суайчыньнікі. Дзе яны жылі і стагодзьдзямі раней і куды разбрыліся ў толькі што мінулае жахлівае стагодзьдзе.

Рэдкая якая газэта ці іншы сродак масавай інфармацыі расказвае аб падзеях грамадзкіх, палітычных, эканамічных, культуровых і гэтак далей так аб'ектыўна, выбіраючы толькі галоўнае, важкае і важнае, неабходнае, як гэта робіць "Беларускі Дайджэст". Пункт погляду ў гэтым сэнсе тут адзіны: думка пра свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны, надзеі і спадзяваньні на росквіт нацыянальнай беларускай мовы, духоўнасьці і культуры, вера ў тое, што народ, які жыве на гэтай шматпакутнай зямлі, варты лепшага, шчасьлівага жыцьця. "Беларускі Дайджэст" часта знаёміць нас з самымі рознымі, а то і процілеглымі думкамі аб тых ці іншых асьпектах жыцьця і палітыкі, і мы, чытачы, маем магчымасьць паразважаць, узважыць аргументы і прыняць свой пункт гледжаньня.

Заўсёды ў гэтым выданьні прысутнічаюць цікавыя матэрыялы, прысьвечаныя самым розным старонкам з зусім нядаўняй і з далёкай гісторыі Беларусі. Гэта і ўспаміны многіх відных дзеячоў беларускай эміграцыі, і артыкулы новага пакаленьня навукоўцаў. Такія публікацыі дапамагаюць праўдзіваму асьвятленьню многіх гістарычных падзей мінулага, фармуюць у моладзі пачуцьцё гістарызму і гонару за Беларусь, за тых, хто аддаў свае жыцьці ў барацьбе за свабоду і незалежнасьць роднага краю.

Самае разнастайнае адлюстраваньне на бачынах "Беларускага Дайджэсту" знаходзіць жыцьцё эмігрантаў-беларусаў розных пакаленьняў у Амэрыцы, Канадзе, Аўстраліі ды іншых краінах. Газэта падрабязна распавядае аб тым, як мы ў розных мясьцінах сьвяткуем Дзень Волі ды іншыя нацыянальныя сьвяты, як ідзе паўсядзённае жыцьцё ў розных рэлігійных прыходах, як нашыя эміграцкія суполкі і арганізацыі ўдзельнічаюць у грамадзкіх мерапрыемствах розных гарадоў і штатаў. "Дайджэст" пастаянна інфармуе пра цікавыя кніжныя выданьні на Беларусі і ў краінах дыяспары, друкуе нарысы і замалёўкі, якія прыгадваюць многія старонкі эміграцкага мінулага.

Лічу, што адна з галоўных прывабных рысаў таго, што друкуецца ў гэтым выданьні – надзвычайная ўвага і павага да чалавека, да канкрэтных асобаў, да людзей нашай эміграцыі, жыцьцёвы шлях якіх складваўся, як правіла, вельмі нялёгка і няпроста. Мы пастаянна чытаем з вялікай радасьцю у "Беларускім Дайджэсце" юбілейныя (ды і проста так) шчырыя віншаваньні; а часам, з вялікім смуткам і горыччу, – некралогі, прысьвечаныя тым, хто пайшоў ад нас і каго ўжо няма… "Дайджаст" – газэта для ўсіх разам і для кожнага паасобку, і ў гэтым адметная непаўторнасьць такога вельмі патрэбнага сёньня выданьня.

Тым, што мы маем такую газэту, у тым, што яна мае высокі ўзровень адметнай зьявы ў беларускай журналістыцы, мы абавязаны нястомным самаадданым і самаахвярным клопатам Міколы Прускага, выдаўца "Беларускага Дайджэсту" з першага яго нумару. Вялікі яму дзякуй і нізкі паклон! Хай і надалей ён працуе гэтак жа нястомна і аддана!

Чамусьці ў сувязі з гэтым юбілеем прыгадаліся паэтычныя радкі, якія калісьці, жывучы далёка ад радзімы, напісаў паэт Аляксей Русецкі пра часопіс "Полымя". Крыху пераіначыўшы тое, што ў памяці, хочацца таксама вершам сказаць:

Я "Дайджэст" бяру, асабліва калі
Нялёгка бывае на сэрцы…
Там клопат і подых бацькоўскай зямлі. -
Усім гэтым буду грэцца.

Горача віншую і Міколу Прускага і тых, хто яму дапамагае, ды і ўсіх нас, чытачоў, з выхадам 100-га нумара "Беларускага Дайджэсту"!

**Ванкарэм Нікіфаровіч**, Чыкага, ЗША.

*************************************************

# "Беларускі Дайджэст" — унікальная падзея

Соты нумар "Беларускага Дайджэсту" трэба адзначаць як унікальную падзею ў гісторыі беларускай эміграцкай публіцыстыкі. Сама прырода жыцьця на чужыне такая, што рэдкасьцю ў ім стабільныя ініцыятывы. Пульс пакаленьняў тых, хто апынуўся здаля не спрыяе росту іх патэнцыялу ў нацыянальным сэнсе, але дэнацыяналізацыі. Гэта адназначна відаць на прыкладзе надта масавай эміграцыі палякаў, найперш у Францыю. Што засталося ад яе сёньня, акрамя мноства польскіх прозьвішчаў у жыхароў мястэчак Латарынгіі, ці нават у асяродзьдзі французкіх элітаў? Парадаксальна, самі ўладныя структуры ў паўночных дэпартамэнтах спрабуюць рабіць націск на аднаўленьне навучаньня польскай мовы ў школах і, як ні дзіўна, амаль безвынікова. Цалкам падобная ў сваёй сутнасьці зьява наглядаецца і ў Злучаных Штатах Амэрыкі, таксама ў Канадзе. Польскасьць у пажылых палякаў носіць на сабе настальгічны ўсяго характар на фальклёрным узроўні, а праслойка нацыянальнай /г. зн. польс камоўнай/ інтэлігенцыі стала заўважнай толькі апошнімі часамі, пераважна дзякуючы новай хвалі прыязджаючых з Польшчы, часта добра адукаваных у айчыне. Яны ўжо не эмігранты, зрэшты, калі Польшча стала вольнай.

Называюць беларускую эміграцыю захавальніцай нацыянальных каштоўнасьцяў. У гэтым сьцьвярджэньні няма перабольшаньня. Справа ў тым, што Бацькаўшчына ўсё яшчэ не вызвалілася з нэападкаланіяльнага ўціску і мэнталітэту, трываючы ў сытуацыі расейскай філіяльнасьці, правінцыйнасьці. А часткова і польскай. Лёгіка працягу часу, аднак паступова ліквідуе гэту падлеглась ць. Няблага растлумачвае тое нам марудная эмансіпацыя Чорнай Афрыкі, на якую шанцы на незалежнасьць — падобным чынам — нечакана як быццам зваліліся; на зусім непадрыхтаванае дзеля таго тамтэйшае людзтва. Перастаньма лічыць гэта нейкім цудам! Разьвіцьцё сьвету пайшло ў такім напрамку, што непасрэдныя калёніі перасталі даваць даход іхным мэтраполіям. Вобразна кажучы: калі цяперашняя Расея хоча катастрофы — няхай інтэгруецца з савецкай пад Лукашэнкам Беларусяй... А ў выпадку Польшчы, не дапусьці Божа, ейнае — уявім сабе — вяртаньне на Крэсы закончылася-б імгненнай ёй сьмерцяй! Тыя бядотныя Крэсы ўжо да вайны ня ўносілі аніякага плюсовага прыходу ў бюджэт варшаўскай дзяржавы, абцяжваючы яе пустымі мінуснымі выдаткамі. Wielka Polska надта дорага каштавала!

Кажучы для дадатковай яснасьці — ніштто і ніколі не стаіць на месцы, што запрыкмецілі ўжо ў антычнасьці. У плыні часу месячнік "Беларускі Дайджэст" бачыцца як нешта надзвычай істотнае. Мы прызвычаіліся да эміграцкіх часопісаў, якія тэматычна займаюцца самім сабою, ня вельмі рэагуючы на рэшту сьвету з Бацькаўшчынай у ім. Я ня супраць гэткіх парафіяльных бюлетэняў, яны патрэбныя і маюць сваё адметнае значэньне. Аднак-жа "Беларускі Дайджэст" выконвае нетрадыцыйную ролю сэлектара важнага ў процьме няважнага, эпізоднага. Скажу болей: спомненая сэлектарнасьць дае глыбейшыя вынікі з перспектывы далёкасьці, чымсьці непасрэдна ў айчынным млыне справаў. З далечыні заўсёды выразьней відаць тое, што вартае ўвагі.

Я, асабіста, ахвотней чытаю "Беларускі Дайджэст" замест газэтных выданьняў з Беларусі. Карысьць ад таго тая, што "Дайджэст" не распыльвае мае ўвагі на драбноцьці. Ведаю: яго рэдактар прасеяў матэрыял, адкінуў мякіну, канцэнтруючыся на сапраўды важным. Гэта добрая роля ўсіх падобных выданьняў; у Польшчы цяпер выконвае яе папулярны часопіс "Форум" у выглядзе перадрукаў істотных тэкстаў з усяго сьвету.

"Беларускі Дайджэст" проста мус утрымаць, каб у будучым стаўся вядомым выданьнем ня толькі ў дыяспары. Беларусь ня век-жа будзе ненармальнай дзяржаваю. Калісьці дойдзе яна да эўрапейскага стандарту. Чытаючая публіка ў ёй зможа тады атрымаць нармальны доступ да гэтага амэрыканскага агляду беларускіх праблемаў, што паспрыяе сьвежасьці поглядаў, шырыні інтэрпрэтацыі без "конскіх акуляраў". Без загнанасьці ў адзін катух.

Дарагія Суродзічы, назвацца эміграцыяй, у рэшце рэшт, значыць мець пачуцьці абавязкаў перад духоўнай Айчынай. Калі ў каго тых пачуцьцяў няма, ён тады не эмігрант, а шукальнік шчаснага лёсу, большага кавалка хлеба. Пры чым эміграцыя заўсёды з тых народаў, на бацькаўшчыне якіх адбываецца нешта дзіка благое, нявытрымнае разьвітаму чалавеку. Чаму мы ня чуем пра эмігрантаў-ангельцаў, эмігрантаў-швэдаў, і т. п. І тых і тых таксама поўна ў Амэрыцы, але яны не эмігранты, прыехалі сюды звычайна жыць, як кожны вольны чалавек, які мае права там жыць, дзе яму спадабаецца. Беларусы, аднак, абцяжаны яшчэ і гэтым уцякацтвам эміграцкім. Яны ратуюцца! Ратуюць свой лёс асабісты і лёс нацыі, якой пагражае ў сябе зьністажэньне духа, без якога няма будучыні.

**Сакрат Яновіч**, Крынкі (Беласточчына)

# Фестываль... у мінулае

29--30 чэрвеня ў Навагрудку адбудзецца II-гі сярэднявечны фестываль "Навагрдзкі замак", які ўжо стаў так званай культурнай традыцыяй на Беларусі. Як плануе аргкамітэт фэсту, гэта будзе буйнейшае сярэднявечнае відовішча ва Ўсходняй Еўропе. Першае такое мерапрыемства адбылося ў 2000 годзе ў тым жа Навагрудку.

Аргкамітэтам атрыманы заяўкі на ўдзел ад 43 клубаў і 17 індывідуальных асобаў з 7 краін Еўропы (усяго каля 700 удзельнікаў). Арганізатары чакаюць каля 25--40 тысяч гледачоў за два дні (у мінулым годзе інша-гароднік было ўсяго 4 тысячы).

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня Аргкамітэта, кіраўнік Міжнароднай сярэднявечнай лігі Ігар Міхна, "амаль што нічога новага мы прапануем не будзем. Хіба старыя мерапрыемствы з большым размахам".

Фестываль будзе складацца з наступных відовішчаў: турнір караля Міндоўга (турнір прысвечаны 750 годдзю з дня каранавання караля Міндоўга); сярэднявечны кірмаш (нешта падобнае да сярэднявечнага балагану з продажам вырабаў актывістаў клубаў і атракцыёнамі); паказальныя выступленні рыцарскіх клубаў; скульптура з пяску (плануецца з пяску зрабіць двухметровую скульптуру караля Міндоўга); канцэрт сярэднявечнай музыкі (у планах -- прыём 12 фальклорных гуртоў з 7 краін Еўропы); стралковыя і кідковыя турніры; тэатралізаваная сцэнка "Каранацыя Міндоўга"; танцавальны вечар (фальклорныя гурты з Беларусі, Латвіі, Літвы, Эстоніі будуць дэманстраваць народныя сярэднявечныя танцы); начны бугурт (тэатралізаваная групавая сутычка); інсцэніроўка бітвы 1394 года.

Як паведаміў намеснік Навагрудскага райвыканкама Аляксандр Накач, яны гатовы аказаць дапамогу ў размяшчэнні, забеспячэнні аховы і харчавання ўдзельнікаў фэсту. Між тым, трэба адзначыць, што пры правядзенні мерапрыемства горад выйграе толькі за кошт продажу прадуктаў турыстам. Хаця спадар Накач не чакае вялікіх інвестыцый у гарадскі бюджэт.

Міністэрства культуры гатова аказаць дапамогу ў афармленні віз для замежных гасцей фэсту. Астатнія пытанні вырашаюць самі арганізатары фэсту.

*************************************************

# Мір рыхтуецца да Дня беларускага пісьменства

8-9 ліпеня Беларусь наведае генеральны дырэктар ЮНЕСКА сп. Каіціры Мацуура. Пад час візіту запланавана наведванне Міра (Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці) і ўручэнне беларускаму боку пасведчання аб уключэнні Мірскага замка ў Спіс сусветнай культурна-гістарычнай спадчыны.

На сённяшні момант у Спіс сусветнай культурна-гістарычнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА ўнесена ўсяго каля 400 аб'ектаў з усіх краін свету. У Беларусі такімі з'уляюцца Мірскі замак і Белавежская пушча.

1 верасня ля палацава-паркавага комплексу ў Міры пройдзе нацыянальнае свята пісьменства. Да гэтага часу плануецца адрэстаўраваць і добраўпарадкаваць цэлы шэраг архітэктурных і гістарычных помнікаў у пасёлку. Усяго 14 будынкаў падлягаюць абнаўленню - гэта Троіцкая царква 16 ст., касцёл св. Мікалая 16-19 стст., комплекс будынкаў былой Талмудысцкай акадэміі, капліца, будынкі аптэкі, зубапратэзнай паліклінікі, аўтастанцыі. Фінансаванне адбываецца за кошт абласнога бюджэту, прадпрыемстваў і прыватных інвэстараў Гродзеншчыны.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# *Нам Пішуць...*

## Урачыстае Сьвяткаваньне Абвешчаньня БНР у Мэльбурн, Аўстралія.

У нядзелю 31-га сакавіка 2002 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй БАПЦ Сьвятых Віленскіх Мучанікаў адзначылі 84-я ўгодкі абвешчаньня БНР. Беларусы Аўстраліі, дзе-б яны не знаходзіліся, адзначаюць гэты дзень, як дзень нашага адраджэньня і незваротны шлях да волі і незалежнасьці.



Сьвяткаваньне 25 Сакавіка ў Мэльбурне. Частка прысутных.

І як усе папярэднія гады, па заканчэньні літургіі айцец А. Кулакоўскі адслужыў малебень за беларускі народ. Пазьней у прыцаркоўнай залі адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне. Старшыня БЦК у Вікторыі, спадар Паўла Гуз прывітаў усіх прысутных і прачытаў шматлікія прывітаньні дасланыя з розных канцоў сьвету, суполак ды арганізацыяў у Аўстраліі.

Пасьля прачытаньня прывітаньняў сп. П. Гуз падзякаваў за ўвагу і папрасіў спадара Алега Шнэка прачытаць прынагодны рэфэрат на тэму дня.

Мастацкая частка галоўным чынам складалася з дэклямацыяў патрыятычных вершаў. Асабліваю цікавасьць выклікалі вершы напісаныя і прачытаныя самім аўтарам Алесям Холадам. На заканчэньне афіцыйнай часткі сп. П. Гуз запрапанаў усім устаць і прасьпяваць наш гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Сьвяткаваньне закончылася агульным пачастункам, пасьля якога сп. П. Гуз яшчэ раз падзякаваў усім за прысутнасьць. *А. Шнэк*, Аўстралія

* * *

## 25-га Сакавіка ў Лёндане, Англія.

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі абыходзіла 84-ю гадавіну агалошаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 23 сакавіка 2002 г. ў Лёндане. Сьпярша айцец Надсон адслужыў набажэнства і малебень за беларускі народ у царкве сьв. Пятра і Паўла ў Marian House, а пасьля адбылася ўрачыстая акадэмія ў залі беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру.

Акадэмію адчыніла старшыня ЗБВБ сп-ня Л. Міхалюк вітаючы ўсіх прысутных, а асабліва госьця з Беларусі сп. З. Санько, галоўнага рэдактара выдавецтва "Тэхналёгія".

Сп. Пяткевіч зачытаў прывітаньні з Канады, ЗША., Аўстраліі і Эўропы. Сп. Санько вітаючы прысутных расказаў пра дзейнасьць выдавецтва "Тэхналёгія". Ён прывёз з сабою шмат кніжак. Некаторыя з іх выданыя з фінансавай дапамогаю Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ, і асабліва дзякаваў айцу Надсану за яго ініцыятыву ў выданьні кнігі з матэматычнай тэрміналёгіяй першы раз у беларускай мове.

Сп. М. Пачкаеў прачытаў вельмі змястоўны і цікавы прынагодны даклад. У далейшай частцы акадэміі сп-ня Вера Рыч і сп. Павал Шаўцоў дэклямавалі вершы пабеларуску і ангельску. Прысутныя дзеткі з нядзельнай школкі прыгожа ўбраныя з бел-чырвона-белымі сьцяжкамі раздавалі гасьцям самымі зробленыя букетачкі кветак.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем гімну: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Усе прысутныя былі запрошаныя на пачастунак да багата застаўленага ежай стала.

З нагоды народзінаў прафэсара Дынглі, прысутныя прасьпявалі яму "Happy Birthday" ды пры чарцы віна весяла правялі час у гутарках і дыскусіях між шматлікімі сябрамі і знаёмымі.

*М. Баяроўскі*, Англія.

## Трохі аб Арміі Краёвай на Беларусі

У цікавым артыкуле пад назовам "Беларускія палякі або палякі ў Беларусі" /Б.Д. № 1(96/ пішацца, што *"галоўная мэта дзейнасьці АК на тэрыторыі Заходняй Беларусі (было) аднаўленьне польскай дзяржаўнасьці...* Гэта быў, бясспрэчна, галоўны повад. Але былі яшчэ і іншыя повады, таксама вельмі важныя, чаму Армія Краёва (АК) была такая сільная ў Заходняй Беларусі. Аб адным з іх успамінаю ніжэй.

Артыкул у "Б.Д"/з Бір. Інф./ прыпомніў мне апісаньне канфэрэнцыі ў Луцку (Украіна) ў украінскай газэце *"Шлях Перемогі"* /5.08.1995 г./, дзе было напісана наступнае: *"...У інструкцыі ўраду (польскага, М.Ш.) аб пасіленьні акцыі сабатажу, якім займаўся 'Вахляж' было выразна сказана: 'ашчаджаць меснасьці карэнна польскія'!*

Тыя людзі, якія жылі пад нямецкай акупацыяй падчас апошняй вайны не патрабуюць паясьненьня, што такая інструкцыя азначала. Яны добра ведаюць, што пасьля кожнай дывэрсійнай акцыі АК, партызанаў ці іншых няпрошаных ваякаў-чужынцаў на Беларусі немцы мсьціліся над нявінным беларускім насельніцтвам, расстрэльвалі людзей ды палілі вёскі. Ня ёсьць дабрародлівым чынам "ашчаджаньне" сваіх людзей, свае зямлі, коштам нявіннага суседа...

У артыкуле ў "Б.Д." успамінаецца польскі капітан Адам Пільх. Нарадзіўся ён у 1914 годзе на Цешынскім Сьлёнску. У 1940 годзе, цераз Балканы і Францыю прыбыў у Англію. Пасьля парашутнага, дывэрсійнага і разьведніцкага прыгатаваньня А. Пільх быў скінуты ў Польшчу ў лютым 1943 г. Гэтых людзей — дэсатнікаў палякі называюць "ціхацёмнымі". Можна было спадзявацца, што галоўны штаб АК накіруе Пільха на дывэрсійную працу на яго родны Сьлёнск, дзе ён нарадзіўся, ведаў мову і людзей. Ведаў мясцовасьць, дарожкі, сьцежкі ды трапінкі. А праз Сьлёнск таксама праходзілі цягнікі з баявой тэхнікай на ўсходні фронт. Пільх меў-бы там што ўзрываць, рабіць сабатажы. Аднак так ня было.

Галоўны штаб АК накіроўвае А. Пільха ў ваколіцы Стоўпцаў, куды ён прыбыў у верасьні 1943 г. Гэтая тэрыторыя і людзі былі для яго чужымі, ня ведаў іхняй мовы, абычаяў... дык ці ён іх ашчаджаў?...

А Пільх быў вельмі спрэчнай асобай, але гэтая справа для палякаў. У 1992 г. выдаў кніжку ў Варшаве пад назовам *"Партызаны трох пушчаў"*. Памёр у Англіі ў 2000 г.

Адам Пільх ня быў адзіным "ціхацёмным", ураджэнцам карэннай Польшчы, скінутым з Англіі ў Польшчу, каб потым апынуцца на беларускіх этнічных землях. Успомнім тут коратка яшчэ аб адным ціхацёмным, паручніку Яну Піўніку (Панурым), які са сваёй групай напаў на Пінскую вязьніцу ў 1943 г., каб вызваліць адтуль трох "вахляжоўцаў". Сваё заданьне Ян Піўнік выканаў, але падчас гэтага збройнага нападу група Піўніка забіла двух немцаў і аднаго мясцовага жыхара, наступствам чаго быў арышт немцамі 30-ці чалавек з Пінска. Усіх іх потым немцы забілі. Іх пахавалі на ґабрэйскіх могілках у Янаве /цяпер Іванава/. Між іншым, Я. Піўнік быў узнагароджаны за гэты "чын" найвялікшым польскім воінскім адзначэньнем — крыжам "Віртуці Мілітары". А трыццаць нявінных ахвяраў не атрымала ніякіх узнагародаў, толькі... плач і сьлёзы сірот і родных ды дзеравяныя крыжы на іх магілах. Для адных геройства, для другіх трагедыя!

І калі беларускія гісторыкі дасьледуюць дзеяньні польскай Арміі Краёвай на Беларусі, то трэба памятаць і аб вышэй успомненай інструкцыі да "Вахляжа"...*)

*М. Шэвдзюк*, Англія.

*) "Вахляж" — (=веер), гэта назва спэцыяльнай дэвэрсійнай арганізацыі Арміі Краёвай.

* * *

## КАНТЭЙНЕР — на БЕЛАРУСЬ

16-га красавіка 2002 г. адплыў 20-ці футовы кантэйнер з адзежаю (10 тысяч кілеграмаў — 10 тонаў) на Беларусь.

Гэты груз спансаравала сп-ня **Ірэна Каляда-Сьмірноў** з Кліўленду, Огаё, а перасылку (транспарт) арганізаваў, дзякуючы амэрыканскім дапамаговым структурам, **Мікола Прускі**, выдавец "Б.Д.".

Перасылка накіроўваецца ў недалёкі ад Чарнобылю раён, для раздачы патрабуючым дапамогі сіраціцам ды іншым падобным установам. Прадажа гэтае адзежы на Беларусі забараняецца. Яна павінна раздавацца дарэмна.

Гэта ўжо другі кантэйнер на працягу аднаго году.



М. Прускі наглядае за пагрузкаю адзежы ў кантэйнер.

## *"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

Дарагія суайчыньнікі!

Зараз мы зьбіраем сродкі на выданьне бела- рускіх каляндарыкаў з партрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Ігната Дамейкі, а таксама сродкі на падпіску газэты ТБМ "Наша слова" вяс- ковым і школьным бібліятэкам, якія ня маюць на гэта сродкаў. Просім Вас, дарагія сябры, прыняць актыўны ўдзел у гэтай пачэснай справе.

Ахвяраваньні можна перадаць асабіста ці праз знаёмых або сваякоў, якія бываюць у Менску, у нашу сядзібу, што на вуліцы Румянцава, 13 у Менску. Сьпісы ахвярадаўцаў будуць надрука- ваны ў "Нашым слове".

Старшыня ГА ТБМ *Алег Трусаў*



**Беларуская праваслаўная царква сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэр, Ню Джэрзі**
**Ветліва запрашаем Вас, Вашу сям'ю і Вашых знаёмых на сьвяткаваньне беларускіх традыцыяў. У гэтым годзе Парахвіяльны Камітэт ладзіць 4-ты.**

**"БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ – 2002"**

**у**

**СУБОТУ, 15га ЧЭРВЕНЯ, 2002 г.**
**Пачатак: 11 раніцы да 8 вечара**
**ў царкоўным парку і залі.**

**ПРЫХОДЗЬЦЕ НА СМАЧНЫЯ СТРАВЫ. БУДУЦЬ ГУЧЭЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ФАЛЬКЛЁРНЫЯ МЭЛОДЫІ І ПРАДАВАЦЦА СУВЭНІРЫ. ФЭСТЫВАЛЬ АДБУДЗЕЦЦА НЯ ГЛЕДЗЯЧЫ НА ПАГОДУ — "ЦІ СОНЦА, ЦІ ДОЖДЖ !"**
**Для інфармацыі наконт Фэстывалю званеце ў Беларускі Грамадзкі Цэнтр — (732) 613-7171**

**Пабачымся на Фэстывалі!**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018